


ВЫПУСК 102

Алег Мінкін

# МЯНЕ ТУТ НЕ БЫЛО…

*Паэзія і проза*

Мінск, «Кнігазбор», 2018

УДК 821.161.1-3
ББК 84(4Беи)-44
М57

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 102.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

Літаратурная прэмія Міхася Стральцова 2018 года
рашэннем журы ў складзе Алены Стральцовай,
Уладзіміра Някляева, Барыса Пятровіча,
Міхася Скоблы і Аксаны Спрынчан прысуджана
**Алегу Мінкіну**
за метафарычнае багацце паэтычнай мовы,
за тэматычную і метрычную разнастайнасць радка,
за захаванне чысціні стылю і класічных традыцый
літаратуры.

**ISBN 978-985-7180-71-4**

# Частка першая
# НА ПАГАРЫ
## *(Вершы і баллады)*

Życie — czy zgonu chwilką?
Młodość — czy dniem siwizny?
A ojczyzna — czy tylko
Jest tragedia — ojczyzny?

*Цыпрыян Каміль Норвід*

## I. СУРМА

*Уладзіміру Пузыню*

Над дахамі, над скачанелым голлем,
Як попел, узняліся крумкачы,
Злавесна засланілі далячынь,
Дзе вецер раздзімаў зары вуголле.
І крумкалі ўтрапёна... І міжволі
Я за навалай жудаснай сачыў:
То быў мне напамін, што не ўцячы
Ад роспачы нікому і ніколі.

Гэй, гнюсы! Паняверкі чорнай світа!
Прарочыце вы крыкам хіжым, тлумным
Засілле вечнай сцюжы і зімы,
Ды праз ваш гвалт мне чуцен звон забыты
Званоў Сафіі і прызыўна-сумны,
Працяглы спеў абуджанай сурмы!

## II. СОН

Часам я ўночы сны дзіўныя бачу:
Роіцца нейкі нязведаны край…

*Алесь Гарун*

Я сніў, што дождж зацяты перасціх
І промень коса ўпаў на горад мокры
І заблішчэў на лужынах, на вокнах,
На дахах, на асфальце, на лісці.

І там, дзе панавала кагадзе
Здранцвенне, — там завесы зарыпелі,
І горад змрочны пасвятлеў ад белі
Святочных шатаў выбеглых людзей.

І з кожнай вулкі, кожнага двара
Я чуў іх смех і плакаў сам ад шчасця,

А недзе спеў забыты нараджаўся...
У тую ноч мне сніўся вольны край.

## III. ПРЫСВЯЧЭННІ

### *1. Паўлюку Багрыму*

Скача ў голлі агеньчыкам порсткім вавёрка,
На сасне, у вясёлкавым россыпе рос...
Можа, ўсіх, закаханых у нашу гаворку,
Напаткае закляццем атручаны лёс.

Можа, выпала нам перад царствам маўчання
Спеў шчымлівы са слоў, што крывавяць, стварыць,
І цьмянець штохвіліны, і знікнуць дазвання,
Быццам водбліск згасальны ў маўклівым бары...

Як салодка шаптаць перад сконам, як горка,
Хоць ніхто не пачуе, шаптаць у паўсне:
Скача ў голлі агеньчыкам порсткім вавёрка,
У вясёлкавым россыпе рос на сасне...

### *2. Максіму Багдановічу*

Вельмі ж доўга ў адчаі без ветразя плыў наўздагад,
Аж пакуль не паўсталі залітыя сонцам палеткі,
І на ўзмежку іх — сінія вочы задумлівых кветак,
І за імі — абрысы пахілых, пакрыўджаных хат.

Я спыніўся і моўчкі стаў слухаць мелодыю слоў
Незвычайна прываблівай, напаўзабытай гаворкі,
І пазнаў я між кветак валошак пяшчотныя зоркі,
І здранцвелае сэрца валошкамі зноў прарасло.

Я не ведаў бы, як прагне мовы гаючае слых,
Прагнуць вусны чужыя, засмяглыя ў доўгім блуканні,
Каб не выплыў да гоняў, асмужаных сумам чакання,
Над якімі шырока, павольна кружляюць буслы.

### *3. Янку Купалу*

> І хоць дасць мне доля ў дамавіне месца, —
> Ўстане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца
> І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
> Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.
>
> *Янка Купала*

Над дахамі места адна Вечарніца
Блішчэла ў смузе вечаровай, калі
Самому сабе я падаўся чужынцам,
Самотным чужынцам на роднай зямлі.

І скрушна шапталі мне дрэвы: «Юнача,
Ты дробная трэска ад той грамады,
Што пнулася нечага тут перайначыць,
І марна сышла, і растала, як дым...»

Я слухаў, зайздросцячы гмахам халодным,
Жадаючы толькі адно — скамянець,
Як раптам убачыў я цень, што нязводна,
Ахутаны смуткам, глядзіць на мяне.

І ў цьмяным абліччы пазнаў я: Купала!
У поглядзе ясным, празрыстым да дна...
Наўкол вечарніцы з сінечы аддалай
Выходзілі зоркі — плылі да відна.

## IV. ГРОНКІ КАЛІНЫ

У веснавым гушчарніку
Пад вёскай Вялікі Кут
Б’ецца з атрадам карнікаў
Збройны паўстанцаў гурт.

Шыхт інсургентаў выстаяў,
І ў дыме парахавым
Палкоўнік Ўрублеўскі выстраіў
Тых, хто застаўся жывы.

І квецені гронкі духмяныя
З каліны, што побач расла,
Паўстанцам, сябрам параненым,
Замест медалёў раздаў.

І, прыкалоўшы апошнюю
Гронку, так гаварыў:
«Больш шчодра адзначыць кожнага
Вольны наш Край, сябры!»
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дзе тая каліна ломкая?
На ўзлессі якім цвіце?
Дзе тым героям помнікі?
Дзе іх магілы? Дзе?

## V. АДЫСЕЙ І СІРЭНЫ

Да скал зачарованых зносіць нас, Зеўсам заклятых,
На востраў Сірэн, чарапамі абсыпаны востраў,
Хай кожны з вас вушы залепіць размякчаным воскам,
Мяне ж прывяжыце да мачты надзейным канатам.

Вяслуйце паўз востраў: даўно я ўжо маю ахвоту
Паслухаць дзівосныя спевы... Сірэны, гавораць,
Не раз прымушалі кідацца ў сцюдзёнае мора
Нат самых трывалых, салёных наскрозь мараходаў.

Так, чую ўжо іх... Невыказныя слодыч і скруха...
Спяваць гэтак могуць адны неўміручыя Музы.
Каб толькі да мачты сябе прывязаць не прымусіў —
Спыніць карабель загадаў бы і слухаў бы, слухаў.

Пусціце мяне! Па сваёй паплыву я ахвоце
На спеў нетутэйшы, бліжэй да Сірэн яснапёрых!
Ітаку маю, камяністую выспу над морам,
Шукаю даўно я ў варожай прасторы — ды годзе!

Дакуль Пасейдон, сівагрывы, раз'юшаны волат,
Насіць мяне будзе, як трэску, па хвалях магутных?!
Хутчэй жа сарвіце з мяне ненавідныя путы!
Усё... Працянею... Па жылах расходзіцца холад.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Сышлі пакрысе і здранцвенне, і холад магільны
Ад сонца, цяпла, ад бадзёрага плёскату вёслаў...
Вымайце, сябры, камячкі ратавальнага воску:
Да любай Ітакі вяслуйце — вяслуйце няўхільна!

**VI. STA VIATOR***

Даўным-даўно ў палоне мар зіхотным
Пакінуў я маленства астравы,
Дзе полымя зялёнае травы
Шчаку кранала дотыкам пяшчотным.

І вось дайшоў я да зямлі бясплоднай —
Там дрэва з рэшткай голляў нежывых
Тырчала чорнаю рукой з жарствы
Пад сонцам абыякім і халодным.

І сцяўся я, пазнаўшы бераг родны,
Які калісь пакінуў незваротна,
Шукаючы ў прасторы лепшы край...

Вось ён — адзіны вынік вандравання!
О сонца, спапялі мяне дазвання!
Будзь вечным спадарожнікам, адчай!

---

* Спыніся, вандроўнік (лац.).

## VII. НАСЛЕДАВАННІ ДАНТЭ

### *1. Матылі*

Я сунуўся ў гнятлівай цішыні
Між спрахлых дрэў і чуў сваё дыханне,
І ў цемрадзі глухой згубіў дазвання
Уяву часу, руху, глыбіні.

І раптам даляцела да мяне,
Здалёк, нябачных крылаў трапятанне.
Сумеўшыся, пачуў я шэпт літанняў,
Што ў шолаху то нікнуў, то мацнеў.

«Жыцця! Жыцця!» — ледзь чутна хор маліў.
І ён сказаў: «Ты чуеш галашэнне
Прыніжаных, аблудных пакаленняў,
Што адышлі, не жыўшы на зямлі.

Бо іх яшчэ ў калысцы аднялі
Ад малака гаючага Радзімы:
Без памяці, без мовы — днём адзіным —
Жылі пад сонцам людзі-матылі!»

### *2. Вечны Вырай*

Убачыў я ў паветры чараду
Бязважкіх зданяў, што імчалі нізка
Над ссохлым лесам, гнаныя вятрыскам,
І пнуліся ўчапіцца на ляту

За дрэвы чорныя — ды голле парахнёй
Рабілася пры лёгкім дакрананні.
І енчылі нясцерпна людзі-здані
І слізгалі імкліва нада мной.

І мовіў ён: «Глядзі на тых людзей,
Што дбалі, калі верыць іхнім словам,

Пра кожны ліст далёкае дубровы,
Тады як блізкі лес штодня радзеў.

Запомні енк над голлем мёртвых дрэў —
То кленчыць аб прыстанку Вечны Вырай:
І край чужы адрокся душ няшчырых,
І родны бор засмягнуў і згалеў!»

### *3. Святыя*

І ўбачыў я жанчыну на зямлі,
Што ззяла прыгажосцю непадробнай,
А поруч з ёй — да катаў непадобных
Святых людзей, што катамі былі.

Галосячы ад гора і віны,
Бы нехта правіў іхнімі рукамі,
Яны паласавалі бізунамі
Няшчасную... Я мовіў: «Хто — яны?»

Пачуў: «Ты бачыш палахліўцаў тых,
Што ведалі Радзімы лёс гаротны,
Пакутвалі і спачувалі ўпотай —
Ды ў норах трэсліся, стаіўшы дых.

Тут, змушаны Радзіму катаваць,
Ураз празрэў калісьці невідушчы,
Што ганьба абрастаць у норах тлушчам,
Калі патрэбна бачыць, чуць, крычаць!»

### *4. Свінні*

І выйшаў я да ўкопанага ў гной
Вялізнага смярдзючага карыта,
З якога людзі-свінні жэрлі спрытна,
Штурхаючыся з віскам між сабой.

І ўбачыў я ў памыях стосы кніг,
І ў свіннях аўтараў пазнаў шматлікіх,

І скалануўся, і ў здзіўленні ўсклікнуў:
«Хто і за што так здзекуецца з іх?»

Пачуў: «Перад табой натоўп пісак,
Якія крыўду абвясцілі праўдай
І, мову прадзедаў схаваўшы ў спраты,
Піхалі, што ні трапіць, у валляк.

Яны адзіны клопат мелі там:
Як ухапіць што-болей зяпай ласай,
І тут, як бачыш, стосы кніг уласных
Цяпер глынаюць з гноем напалам!»

### *5. Пацукі*

І раптам расступілася імгла —
То Бусел Залаты ляцеў з паходняй
Над статкам пацукоў, што беглі ў споднім
І ратаваліся ад зыркага святла.

Затрэсся дол ад грукату падкоў —
І вершнікі з сутоння прыімчалі
І сталі біць бязлітасна мячамі
І змешваць з граззю тлустых пацукоў.

Пачуў: «Яны харобрымі былі,
Забыўшыся на час свой блізкі, судны,
Як збыткаваліся з Радзімы скутай
І кроў з яе астатнюю пілі.

І вось у жаху ад Пагоні прэч
Яны гізуюць ашалелай кучай —
Ды не мінуць ім помсты немінучай:
Паўсюль знаходзіць катаў востры меч!»

## VIII. ЗАПАВЕТ

*Алесю Касценю*

Каханне, грошы, славы сверб — мана:
Гарэза-час завабіць імі сэрца,
Памучае, а потым насмяецца —
Не здраджвае Радзіма нам адна.

Так у рацэ сплывае хлуд сухі,
Цяжкія бёрны і ашмоцце пены...
І толькі адбіваюцца нязменна
У хуткабежнай плыні — берагі.

## IX. ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА

Дзе сіні бор? Дзе бераг некрануты?
Дзе возера, празрыстае да дна,
Вадой якога — сніцца мне здаўна —
Я змыю ўрэшце закарэлы смутак

І, волкай прахалодай ахінуты,
Забуду боль, які пячэ штодня,
Забуду ўсё і буду давідна
Чуць зорак спеў, яшчэ нікім не ўчуты?

Як скрутна жыць: мне родны край — турма.
Забраны край — ды іншага няма...
Як звыкнуцца з аблудай і хлуснёю?

Мне сніцца возера, маўклівы бор,
Над цёмнаю вадою жменька зор...
Схавай мяне, о возера лясное!

## X. ХАТА

> Я не кіну хаты, хоць вы мяне рэжце,
> Не пайду да вас я, хіба у арэшце…
>
> *Францішак Багушэвіч*

Скуль я мог ведаць, якую таіла пагрозу
Хата агрузлая, што ацалела сярод
Пусткі асфальтавай з купкай камлёў-хмарачосаў,
Дзе я кружляў, наталяючы смагу прыгод?
Помню, на хату я толькі зірнуў мімаходзь
І адвярнуўся, ды нехта з хаціны, здалося,
Голасам слабкім ледзь чутна шапнуў: не заходзь!

Я... увайшоў. Анікога. На сценах шпалеры
Паабдзіраныя. Смецце. Прыцяты ляжак.
Рэшткі аконнага шкла выскаляе і шчэрыць
Шыба, забітая дошкай гнілой наўскасяк.
На павуцінні пад столлю збой высахлых мух.
Мёртвая ціша... Я выйшаў з палёгкай за дзверы —
Як ацалеў, дзівáваўся, тут гэты катух?

Ды праз імгненне мяне падхапіў, як зазвычай,
Вір гарадскога жыцця, і ў яго гамане
Знікла дарэшты пахілай хаціны аблічча,
Што такім сумам нязвыклым кранула мяне.
Ранкам прачнуўся і бачу: чужое жытло,
Мухі пад столлю, у коміне вецер скавыча,
Ціснецца звонку мярцвянае ў шыбу святло.

Раптаў дапяў: я ж вярнуўся, як гэта ні дзіўна,
У тую самую хату, куды кагадзе
Я ўжо заходзіў на шэпт «не заходзь», — і з хаціны
Рынуў я вонкі да спраў, да людзей, да падзей...
Ранкам ачуўся: на тым жа я зноў лежаку,
Сціснуты цішай магільнаю, на павуціне
Ссохлыя мухі вагаюцца на скразняку.

...Ад той пары прачынаюся ў хаце прапаснай,
Што б ні чыніў і куды б ні занёс мяне лёс.
І ўсё часцей я праседжваю тут невылазна,
Гледзячы ў шыбу, забітую дошкай наўскос.
Брыдка марнець, ды выходзіць нязмерна марней...
Пэўна, ўжо хутка наступнік мой клямкаю бразне
І ў сваю пастку на хвілю, як я, зазірне:

Будзе пад столлю на павуціне ў кутку
Ссохлая муха разгойдвацца на скразняку.

## XI. САМОТНЫ

*Алесю Бяляцкаму*

Мне рэжа слых хлусня прамоў traskotных,
Мне слепіць вока яркасць кумача —
Даўно мне ўсё абрыдла, апрача
Маўклівай непрытомнасці самоты.

Ды ўсё ж, калі б у цішы безвыходнай
Турыны рог прызыўна загучаў
І на лязе узнятага мяча
Запалымнелі водсветы паходняў, —

Я ўсе сумненні адгарнуў бы разам
І стаў пад белы сцяг з чырвоным пасам:
Пад бел-чырвона-белы вольны сцяг...

Чырвоны пас на белым тле Радзімы,
Ты клічаш нас за волі міг адзіны
Узняцца і загінуць без разваг!

## XII. ДУДА

*Андрэю Федарэнку*

Гаворaць, мой дзед адмысловы быў майстра
Іграць на старой самаробнай дудзе,
Гавораць, з дудой-чарадзейкай і кайстрай
Не разлучаўся мой дзед анідзе.

Гавораць, хоць голас дуда яго мела
Ціхі, не гучней ад гудзення чмяля,
Але як заплача — аж сэрца шчымела,
З-пад ног анямелых сплывала зямля.

Той голас жывы быў гаючай патоляй
Збалеламу сэрцу, і чуў хто яго —
Не ганьбіў і не выракаўся ніколі
Ні мовы, ні музыкі краю свайго.

Шчэ кажуць, дуду пасля дзедавай смерці,
Каб сумна на ёй больш ніхто не дудзеў,
На дубе высокім у зблытаным вецці
Схавалі чужынцы ад наскіх людзей...

Як хочацца мне адшукаць яе ў лесе
І з дуба рукою сцярожкаю зняць,
Зайграць, каб ад згукаў счаканае песні
Сціскалася сэрца, каб слёз не суняць!

Але, пэўна, мне гэткай песні не здолець
Губамі нязвыклымі выдзьмуць з дуды,
І мо лепш галінкай у зблытаным голлі
Вячыстага дуба мне стаць назаўжды.

І слухаць, як поўніцца плачам дуброва,
Калі подых ветру дуду закране,
І бачыць, як хіляцца шаты-галовы
Расчуленых дрэў, абступілых мяне.

## XIII. ДРЭВЫ

### *1. Лісце і карані*

Над цёмным карэннем высока ў сінечы,
У шатах шумлівых, куды ні зірні,
Лісты бестурботна трымцяць і трапечуць,
Забыўшы заўчасна свае карані.
Шапочуць: «Мы ў іншым жывём вымярэнні,
І голас у кожнага свой, і жыццё...»
Ды станецца восень лістам адкрыццём,
Пранізлівы вецер дыхне азарэннем —
І зноў, як калісьці, да цёмных карэнняў
Пачне, адпалаўшы, вяртацца лісцё.

### *2. Блукаў я па парку...*

Каб навалач горкасных думак развеяць,
Блукаў я па парку пад поўняй крамянай
І слухаў, як дрэвы гублялі рахмана
Нябачнае лісце з паніклівых веяў.

Апалае лісце шуршэла ў тахт крокам...
Самотны, я дрэвам прыціхлым зайздросціў:
Яны паміралі прыгожа і проста,
Без крыўды, без болю, у чуйным паўзмроку.

І я мог бы дрэвам задумным зрабіцца,
Каб выраслі з сэрца карэнне і вецце,
І скінуць журбу па лістку, і замерці —
Без болю пад поўняй крамянай забыцца.

### *3. Згадка*

Ля дрэва, што ў шэрані срэбнай застыла,
Спыніся і стукні яго па камлі,
Прыціхні і ў воблаку лёгкага пылу
Забудзься на некалькі светлых хвілін.

І слухай, забыўшыся, звон непрытомны
Крыштальных пылінак на струнах галін,
І, ўпотай слязінку змахнуўшы, прыпомні,
Як некалі марыў аб іншай зямлі.

### *4. Трэцяя начная песня вандроўніка*

In allen Wipfeln
Spürest du
Kaum einen Hauch…

*Ёган Вольфганг Гётэ*

Новы лад быццам чад — кожны з нас угарэў,
Аніхто не ўцалеў у яго мясарэзцы...
Сябра мой, супыніся пад шатамі дрэў,
Што растуць на тым самым, прыроджаным, месцы.

Прыхініся да цёплай шурпатай кары,
Змружы вочы — і ўраз знікне ўсё, што здаецца.
Застанецца адно шолах лісця ўгары
І яшчэ штосьці знутры, што заўжды застаецца.

### *5. Акуляры*

Не — я не сляпы. Проста на вачах у мяне акуляры з люстранымі шкельцамі, звернутымі да майго твару. Я неапусна цемлюся ў шкельцы-люстэркі і бачу сябе да самага дна. Калі я радуюся — шкельцы падвойваюць маю радасць. Калі пакутую — падвойваецца мая пакута. Аднак часам я аб нешта спатыкаюся, акуляры спадаюць з вачэй, і я бачу перад сабою то малахітавую свечку ядлоўцу, то падобны да вялікай сівой жывёліны валун, то абсыпанае пацеркамі расы дрэва, бухматае ад промняў, — і здзіўляюся прыгажосці, у якой мне не наканавана жыць... Якія ж мы з табою чужыя, дрэва!

## XIV. ЭЛЕГІІ

*

Не помню, як выйшаў за горад каменны,
Як сонца сканала, як ноч надышла.
І пахла нагрэтым асфальтам і кменам,
І бліскалі зоркі, бы россыпы шкла.

І ў цьмяным свячэнні танула наўколле,
І нізка празрыстыя хмары плылі...
Здавалася, згасламу сонцу ніколі
Не лашчыць дрымотаю скутай зямлі.

Здавалася, буду блукаць я без выйсця,
За хісткім сутоннем насунецца змрок
І золата мараў звядзе без карысці,
І мы тут — зіхценне няіснае лісця,
Зіхценне, што месяц згубіў неўзнарок.

**

Сутонне воглае пад згібамі скляпення
Працяў раптоўна промень сонца ветлы
І выхапіў з паўзмроку на імгненне
Пылінкі дробныя, нябачныя дагэтуль.

Яны таўкліся, бліскалі, мігцелі —
Нябыту хаатычнае нашэсце —
Сагрэцца ў промні сонечным хацелі,
Каб потым зноў у прыцемак асесці.

Святла раптоўнага згасаючая нітка...
Мо ў мітульзе пылінак несупынных
Мы адшукаем, бы ў жыцця адбітку,
Саміх сябе, калі ўглядзецца пільна?

***

Стлявае пад пылам у сховах патайных
Сівы фаліянт — тут на кожнай старонцы
Буяюць сумненні, усходзяць пытанні
Людзей, што хадзілі калісьці пад сонцам.
Даўно спарахнелі ўжо іхнія косці...
Вось толькі сумненняў не меншае штосьці!

****

Што я — без Радзімы?
Я — цень, цень без рэчы,
без рэчышча рэчка,
без кветак шыпшына,
без часу прастора,
гадзіннік
са зломленай самай галоўнай спружынай:
ён сёння паказвае тую ж часіну,
што ўчора.

## XV. ВЯСНЯНКІ

*

Прыйдзі, вясна, вярні нам сонца,
Стапі зляжалы снег і лёд,
Дай усяму жывому моцы
Зімы апрыкрай скінуць гнёт!

Прыйдзі, вясна, вярні нам славу
І цеплыню мінулых дзён,
Сарві з зямлі магільны саван,
Здымі са спячых душ заклён!

Прыйдзі, вясна, вярні нам песню,
І голас згублены вярні!

Ляці, жаўрук, над рунню весняй,
Як веснік радасці, звіні!

**

У час сакавіцкі, калі непамысна
Ад шэрай навалы бясконцых аблокаў,
Бывае, знянацку ў іх покрыве блісне
Вільготная просінь спалоханым вокам.

Што гэта? Жаданай сінечы прадвесце?
Ці ейны пагляд ненаўмысны з-за хмары?..
І з лёгкай усмешкай ты светлае марыш,
І радасці ціхай ужо не адвесці.

***

Выстукваю на прутах чыгуннай агароджы няісную мелодыю. І поўнюся тупатам крокаў, званкамі трамвайнымі, смехам, гамонкай нязладнай. І набрыньваю сумам, нібыта дажджом, — а дажджынкі ніяк не пральюцца. Уночы кружляю ў святле ліхтароў і шукаю сабе адзіноты. Ды толькі знаходжу маўчанне, бо хто ж адзіноты шукае? Без запрашэння ў адведкі прыходзіць яна. І думаю ноччу: «Мне хораша толькі з дажджом ціхамірным, што гладзіць крывавае лісце, распнутае ветрам на бруку». І гэтак: «Не веру я ў сонца, і мне даспадобы адна толькі казка пра горад пануры і хворы, ніколі-ніколі ў які не заглядвае лета...» Так думаю ўночы, а сам па-над ворывам цёплым у граі грачыным лунаю, вітаючы сонца, якое вылынвае з радаснай пены аблокаў!

****

Вільготная снегавая гурба сарвалася са страхі і чмякнулася траха не на збрадлівага ката. Бадзяга незадаволена пакруціў куртатым хвастом, а гурба паскардзілася, што жыве цяпер на мяжы роспачы і тугі і што яе да самае сярэдзіны працінае цяплынь і безвыходнасць.

— Мамыра, румза, — прамармытаў кот і пашыбаваў прэч.

— Вясна! — ціўкнуў верабей з галінкі, абсыпанай пухнатымі каташкамі.

— Вясна! — падтакнуў другі, кульнуўся ў снегавую гурбу і пачаў цялёпкацца ў ейным бязвольным, набрынялым слязьмі целе. І крыўдлівая гурба бязгучна заплакала і пасмамі-ручаінкамі распаўзлася па тратуары.

*****

Скажы, навошта нам цурацца
Пачуццяў, што да нас імчацца
З вясною вольным статкам крыг?
Навошта нам ад іх хавацца
У слоў хлусню, у жартаў панцыр,
Калі жыццё — чароўны міг?

Жанглююць, вунь глядзі, паяцы
Шарамі вычварных абстракцый —
Ды марна ўсё, бо ім няўцям,
Што, ўзводзячы з пяску палацы,
Не ўбачыць можна, як праз пальцы
Пясчынкі сыплюцца жыцця.

Дык як жа можна не ўсміхацца,
Траве зялёнай не здзіўляцца,
На дзень гудзець, як авадзень,
Калі чароды крыг імчацца,
Калі вясёлкава іскрацца
Блішчынкі сонца на вадзе?!

******

Ледзь сонца сакавіцкае засвеціць —
Сыходзяць прэч зляжалыя снягі,
І бачым мы праталін пісягі,
І згнілае лісцё на іх, і смецце.

Але праз час нядоўгі мы прыкмецім:
Травінак дзідкі колюць хлуд сухі

І першалісця зыркія сцягі
Ускідваюцца на сагрэтым вецці.

Сябры! У бездараж пары вясновай
Хай не бянтэжаць вас слата і бруд —
Зімы цяжкой нікчэмная астача:

З травінак першых я раблю выснову,
Што ажывае зноў наш родны кут,
Што лепшыя часіны мы пабачым!

*******

Сінечу засцяць ад вачэй
Дымоў шматлікіх верацёны,
Свідруючы яе штодзённа,
Сінечу засцяць ад вачэй.

Ды ўсё ж яна не стала цёмнай,
Хоць на працягу дзён, начэй
Сінечу засцяць ад вачэй
Дымоў шматлікіх верацёны.

********

Вунь радасцю ззяе наранні ў расе
Туману малочная скруха.
А цень, што слязою па доле паўзе, —
Цень хмаркі, лягчэйшай ад пуха.

Ці чуеш, як ластаўкі крылаў нажы
Паветрам разрэджаным вострацьць?
Чаму ж ты не можаш хоць троху пажыць,
Бы ластаўка, вольна і проста?

## XVI. ВАДЗЯНІК

У спёку пад мостам ляжыць у цяні,
На ціне нядужы, стары Вадзянік,
І доўгія думкі яго чарадой,
За хваляю хваля, паўзуць над вадой.

Здаецца старому: яшчэ кагадзе
Пад поўняй русалкі дурэлі ў вадзе.
А не, дык павыйдуць са срэбнай ракі,
Хаваюцца ў гай, у лагчыны, раўкі,
Каб плесці вянкі ды прыпеўкі спяваць,
Каб хлопцаў у дзевак-дурніц адбіваць.

А зараз няма таго смаку ў вадзе,
І рэчка змялела, і гай парадзеў,
Засыпаў бульдозер лагчыны, раўкі,
Абрынуўся бераг высокі ракі,
І дзеўкі-русалкі ад бруднай вады
Даўно паўцякалі, сплылі хто куды.

Грукоча наверсе па рэйках цягнік...
Куды ж табе дзецца, стары Вадзянік?!

## XVII. БЯЛУН

Аднойчы я заначаваў у жыце, што красавала на лясной прагаліне. Уранні нехта схіліўся над мною. Я ўбачыў невысокага, уроўні з жытам, сівога дзядка ў палатнянай кашулі. Стары прыгнуў каліва і коласам кратаў мой твар, а сам мружыў вочы ды хітравата пасміхаўся. На кончыку ягонага носа зіхцела буйная кропля расы. Я адразу скеміў, што перада мною — Бялун, і памкнуўся схапіць яго і выцерці яму нос, бо чуў, нібыта пасля зраблюся багатым. Ды дзядок перакінуўся ў лёгкае воблачка пылку і растаў у чыстым, што вымытае шкло, блакіце... Нават не паспеў разгледзець яго як след.

## XVIII. МІДАС

Захоплена назіраў я за штукарствамі, якіх навучыў мяне жартаўнік Дыяніс. Усё, што рухалася, расло, квітнела, ледзь я дакранаўся, ператваралася ў золата. Я правёў далонню па шурпатым камлі — і дрэва пазалацела да апошняга ліста і знерухомела. Я смяяўся, падкідаючы прыгаршчы вады: пырскі рабіліся ў паветры залатымі жвірынкамі. Доўга я ўзіраўся ў адбітак свайго шчаслівага твару на залатым люстры крыніцы — аж пакуль не захацеў піць. Тады я і ўспомніў пра лёгкі водцень суму ў зіхоткіх вачах Дыяніса...

## XIX. СТАРЫ ПАЭТА

Вунь замак з патрэсканай цьмянай слюды —
Прытулак старога паэта.
Вунь, бачыш, красуня-паненка сюды
Зляцела з Салодкай планеты.

Саскочыла са страказы на ядваб
Зялёнай травы і ў брамку
Стукоча, і плача, і ўмольвае, каб
Дазволілі жыць ёй у замку.

Бо ёй неахвота вяртацца назад
Да брыдкіх піронажаных з крэмам,
Дзе ў рэках заместа вады — ліманад,
Дзе ўсё на адзін жыццярадасны лад:
І песня, і верш, і паэма...

Трымціць нецярпліва крылом страказа,
Грызе павучыны-лейцы.
Спіць замак. На вейцы паненкі сляза
Дрыжыць і вось-вось сарвецца.

## XX. МУ

*Ігару Бабкову*

— Слухай, кароўка-бурэнька, чаму
Гэтак тужліва ты мыкнула: «му»?
— Му! — адказала бурэнька тужліва. —
Сэнс майго «му» зразумець немажліва.

## XXI. ВОСЕНЬ

### *1. На бульбянішчы*

Яшчэ не час нуды, тугі,
Яшчэ цяпла ніхто не прагне,
І ў самым смаку кіяхі,
І гарбузовай кашай пахне.

Ды ўжо і жыта, і ячмень
Ссыпаюць у засекі свірнаў,
Ды ўжо гудзе асцягла чмель:
«Дзе час твой, лета, ціхамірны?»

Дзе час твой спеўны, лета, дзе?
І што за постаць пры дарозе,
З кашом, бульбянішчам ідзе —
Ці не сама бабуля Восень?

### *2. Запрашэнне*

Дык пойдзем, сябра мой маўклівы,
У княства фарбы і журбы,
Дзе ў спрэчцы з гронкамі каліны
Палаюць гронкі арабін.

Дзе на імшарыне-кіліме
Жаўрэюць кроплі журавін,

Бы слёзы тыя, што згубілі
Сягоння ноччу журавы.

Дзе ў парадзелых сонных нетрах
Сахаты, як вялікі князь,
Падоўгу нюхае паветра,
Чакаючы ў адведкі нас.

Дзе клён згалелы нам пад ногі
Апошнія лісты страсе,
Нібыта згадкі аб нядоўгай
Асенняй прывіднай красе.

### *3. Шэрань*

шэрань на даху бляшаным
шэрань на глебе падшэрхлай
на неўзварушных шаблях
асакі азалелай

## XXII. БЕЛАБОГ

Тут ва ўсім неўміручае цела Яго:
Пад травою, пад скурай, пад цёплай карою,
Ён жывы і пад тоўшчаю льдоў і снягоў,
Тут крыніцы крынічаць Ягонай крывёю.

І калі, паміраючы, горад кляне
Тлумны вэрхал, і спёку, і гвалт, і прынуку —
Белабог ратавальным туманам ільне
Да знямоглых муроў, да прыцятага бруку.

Тут ва ўсім прысмак Слова і Духа Яго:
У прыглушанай песні, у цьмяным мінулым...
І ў вачох тваіх сініх, замглёных тугой,
Яго белая постаць, як цень, мільганула.

## XXIII. ПАСЛАНЕЦ БЕЛАБОГА

І ён прыстаў. Сеў на камень пляскаты.
І рукі сашчапіў. І змружыў вочы...
Цьмянелі і каналі за плячыма
Мільёны сонцаў, чорных ад знявагі,
Запырсканых запечанай крывёю
Настаўніка і радцы Белабога.

А недзе вобліз плёскалася Нівеч
І вабіла змарнелага ў блуканнях
Сваёй выратавальнаю палёгкай:
Якое шчасце рынуць безразважна
У плынь, што ўсіх аднолькава зычліва
Прымае і адорвае пяшчотай.

Якое шчасце ў лёце непрытомным
Не помніць, як на крыж шасціканцовы
Лісліўцы Белабога прыбівалі,
Як два арлы кружлялі над распнутым:
Сівы арол, глюгасты і зайздросны,
І двухгаловы — удвая хіжэйшы.

І бачыў ён сябе на тлумных пляцах
З працягнутымі да людзей рукамі,
А людзі слізгалі між рук, як цені
Няплоцьныя, і ў Нівечы знікалі,
І, як пылок ад крылцаў матыльковых,
На сэрцы заставаўся горкі прысмак.

Ён быў адзін сярод ляных і сытых
Спакрэвічаў, як той самотны вецер,
Што сноўдаецца роспачна ў руінах,
Стараючыся абудзіць памерлых
І слых вярнуць глухім ад нараджэння, —
Дый сам штохвілі робіцца слабейшы.

О, як яны баяліся прасторы,
Што ззяла ў кожным слове Белабога,

І ўтульвалі спалохана галовы
У крохкія лупкі мізэрных жыццяў,
Што ім здавалася не прыніжэннем,
А ўратаваннем і адзіным скарбам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Расплюшчыў вочы ён. Сляпак зляканы,
З вачмі, зацягнутымі скурай, крутануўся
На копчыку зямлі й пачаў адшукваць
Завалены атвор у сутарэнне —
Назад, з няўтульнай, вусцішнай прасторы,
Дзе не было ні блізкіх сцен, ні столі.

Цьмянелі і каналі за плячыма
Мільёны сонцаў, чорных ад знявагі.
Сляпак валтузіўся на купцы глебы.
А за сцяною непрагляднай цемры
Пялёскалася недзе вобліз Нівеч
І боль суняць пяклівы абяцала.

## XXIV. ПЕРАМОГА

*Віктару Галкову*

Натоўп мяцежнікаў адрынуў,
Разбіты ўшчэнт, і на слупы
Ад слаўнай Капуі да Рыму
Распнуты дзёрзкія рабы.

Аточваюць акравак неба
Крывавых воблакаў брыжы.
О, як нясцерпна, як ганебна
Канаць, распнутым на крыжы!

На бруку крокі, крокі, крокі,
У тахт ім бразгаюць мячы.
Спартак, як сумны птах, шырока
Раскінуў рукі і маўчыць.

І бачыць гордая эліта,
Што зведала трывогі смак:
Не стогне, на крыжы прыбіты,
Закляты вораг іх, Спартак.

Не стогне й край шчаслівы бачыць,
Дзе ўсе — сябры сярод сяброў.
А па слупе ў пясок гарачы
Струменьчыкам сцякае кроў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ідуць маўклівыя кагорты.
Гусцее мрок. Цямнее крыж.
І глуха б'е па твары мёртвым,
Рабом шпурнуты з цемры, глыж.

## XXV. ПАРТРЭТЫ

### *1. Тыран*

Я — каламутны, чорны вір,
Ушчэнт разбэшчаны, юрлівы,
Глухі да светлых пераліваў
Вады, якая лашчыць жвір.

Наканаванае спасціг:
Зацягвай тых, хто хоча выжыць,
Не раздымай абдоймаў хіжых
І не зважай на хрыпы іх.

Стварэнне ўлады і брыды,
Жыву, пакуль чыню пакуты,
У вір памкненняў каламутных
Сябе ўкруціўшы назаўжды.

Ды смерць грахі адпусціць мне...
І ўсё ж мяне ад жаху курчыць,
Калі анёл пра неўміручасць
Шапне раптоўна ў дзікім сне.

***2. Раб***

Мой жах сляпы са мною неразлучны —
Я зросся з ім, ён мой і слых і зрок.
Не верце мне, бо ім наскрозь атручаны
І слова кожнае, і кожны мой радок.

І калі раптам з вуснаў неўзнарок
Зляціць якое вольнае сугучча —
Нібы сабака, адбягу я ўбок
І ў спудзе вінавата хвост падкурчу.

Як насланнё ці злы, нязводны дух,
Жах падпільноўвае мой кожны рух
І аплятае слізкай павуцінай.

Ні звесці не магу, ні збегчы прэч.
Мой жах над каркам як дамоклаў меч,
Што не дае мне выпрастаць хрыбціну.

***3. Лірык***

Я схаваўся сюды ад навальніцы. Пасля грымотаў перуна і шапацення дажджу аглушыла мяне цішыня. Асляпілі зыркія россыпы шкляных расінак на размалёваных папяровых ружах, ад якіх тхнула, нібы з разнасцежаных дзвярэй цырульні. Віславусы штукар, у брылі і ў белай, выгафтаванай чырвонымі сукоснікамі кашулі, штомоцы дзьмуў у жалейку. Аднак замест гукаў з жалейкі сыпаліся цясцяныя жаўрукі, васковыя яблыкі ды цюбікі з памадаю. А часам з раструба вывальваліся пудзілы буслоў. Поруч з віславусым сядзеў парцалянавы воўк і пасміхаўся бяззубаю пашчаю на прычасаных плюшавых пудляў, якія, бязгучна брэшучы, скакалі вакол яго. Да чырвонага ваўчынага языка прыліпла сухая травінка — звер, мабыць, толькі што ласаваўся сенам. Угары лунала вясёлкавая бурбалка сонца, а завершваў утульны краявід сіні шкляны купал, за якім — я ведаў! — гула навальніца.

### *4. Блазен*

Блазен —
вязень
прыўкрасаў,
грымасаў,
выкрутасаў.
Абавязак —
уразіць
да смеху ласых.
А сам-насам,
ледзь сціхне гоман,
кладзецца плазам,
нерухомы.

### *5. Дабрадзей*

Нам звыкла пад прыгонам і прынукай,
За прыніжэнне «дзячым» мы спакон
І рабства ўеднае ўспрымаем як закон,
Асвенчаны высокаю навукай.

І калі нехта ў гневе ўскіне рукі,
Яму на паратунак — не на скон! —
Не далакоп — наш дабрадзей здавён! —
Без запрашэння прыйдзе і без стуку.

На ўсмешлівых губах то мёд, то лёд.
А калі словам не зацісне рот,
Зглыне або дасць візу ў свет няблізкі...

І ўсё ж я мрою дзіўны збег падзей:
Край вольным стаў, а краю дабрадзей
Маўчыць, збянтэжаны, ладуючы валізкі.

### *6. Лёкай*

Не вер дзядзькам, што плішчацца ў сябры,
Фрак лёкая схаваўшы пад сярмягай,
Не вер, калі паказваюць адвагу,
Маўляў, і мы — таксама змагары.

Калі перад табой са скуры пнецца,
Калі табе ў адданасці клянецца
Такі вось, шчыры з выгляду, мярцвяк,
Ты пакажы яму і кінь мядзяк, —
Убачыш, які вэрхал усчанецца,
Якія спрэчкі, сваркі, бойкі, звадкі...
Зірні на іх і — прочкі без аглядкі!

### *7. Прарок*

Вы жараце тут смачна і п’яце,
А родны край заходзіцца ад болю:
Як можна балаваць, калі няволя
Усё мацней, усё бальней гняце?

Дзе гонар ваш? Сумленне ваша дзе?
Дзе гнеўныя прарокі, што ніколі
Не прадаюць за срэбнік горкай долі —
Цаной жыцця ўплываць на ход падзей?

Як можна балаваць, калі штодня,
Куды ні кінь, мяшчанская гайня
Збыткуецца з напаўжывой Айчызны?

Прэч закарэлы жах! Ваганні прэч!
Няхай рукі працягам стане меч!
А слова першае — пачаткам схізмы!

### *8. Бубнач*

Ведама ж, ён не быў такі парожні, як бубен, у які перыў калатушкаю: гэтага вымагаў Час. Ды вось жа нашчадкі тых, дзеля каго ён, заглушаючы сябе, зацята перыў па напятай скуры бубна, не дадуць цяпер рады, навошта ён ахвяраваў сабою.

### *9. Вязень*

Сонечным ранкам выйшаў я з сякерай на падворак. На незавершаным зрубе ўлаштаваўся незнаёмы, які, абхапіўшы голаў рукамі, стагнаў і наракаў на лёс. Было дзіўна, што гэты здаровы з выгляду дзяцюк скардзіцца на нягоды і гузакі, якія, нібыта, сыплюцца на яго з усіх бакоў. Так недарэчы да ягоных літанняў дамешваўся пах акораных бярвёнаў, абсыпаных бурштынавымі пацеркамі жывіцы. Я паклаў далонь на плячо дзецюка, каб падбадзёрыць яго, ды ён адхінуўся, чакаючы, калі я адыду. І я зразумеў, што яго нішто не цікавіць, апроч ягоных уяўных хваробаў і нягодаў. Небарака самахоць зачыніўся ў вязніцы свайго салодкага вар'яцтва... А быў бы добры памагаты мне, як схацеў бы.

### *10. Стоік*

Усё хапай! Нічым не грэбуй! —
Дае параду сумны век.
А мне нічога тут не трэба:
Такі я *дзіўны чалавек*.

Не трэба ні чыноў, ні званняў,
Ні ўлады прывіднай рублёў,
Ні маршальскі мундзір са ззяннем
Фальшывых зор і медалёў.

І ў гонар іншых галас трубаў
Няхай ляціць за небакрай...
Абы жальбы старонкі любай
Не заглушыў той тлумны грай.

## XXVI. КУКАБАКА І ГОРЦЫ

Хоць ён і з выгляду, і з твару
Падобны чымсь на Канібару,
А яшчэ больш на Кукабару,
На Кукабару-выхваляку, —
Ды самахвальства ані знаку
Не знойдзеш ты у Кукабаку.

У чорных бурках ходзяць горцы,
У белых жупанах — літоўцы,
А Кукабака — у ватоўцы,
Бо ў месцы, дзе зімуюць ракі,
Худыя ракі-небаракі,
Прайшло жыццё у Кукабакі.

Не бачыў там ён булак з макам
І еў счарсцвелы хлеб са смакам,
Аднак на зло ўсім злым сабакам
Не стаў ні Букам ён, ні Бякам,
А так і выйшаў — Кукабакам,
Вясёлым, добрым Кукабакам.

## XXVII. САМОТА

Ад слоў ад спрэчак
хаваюся ў самоце...
Так хаваюцца ў пульхным сумёце
размаітыя выпукліны рэчаў.
Так на самім сабе засяроджваецца дзень,
і наплывае сутонлівы вечар.
Але ў цямрэчы,
што размывае постаці людзей
і абрысы дрэў і будынкаў,
як даведацца, хто я, навошта, дзе?
Самота, мне муляюць твае абдымкі!

## XXVIII. АБУДЖЭННЕ

Пранізлівае сонца высвечвае кожную рэпінку на высмяглай глебе майго жыцця. І я падаю ў смаляную бездань сну. І лунаю над самім сабою, распасцёртым нерухома, на няісных крылах уяўленняў. І гойдаюся, бязважкі, на дзівосна пераблытаным сплёце мінуласці і прышласці. І, выхаплены з сутоння жорсткімі промнямі абуджэння, падаю, ламаючы голле, на парэпаную зямлю.

## XXIX. АДЗІН ТОЛЬКІ КРОК

Як боязна расстацца са скарбам бясконцых магчымасцяў здзяйснення: яны перасыпаюцца, зіхцяць ува мне, бы ў куфры, акутым і замкнёным маёй зацятай няпэўнасцю... Якія з іх выбраць? Размаітыя словы бруяцца ў віры супярэчлівых думак перад неадольнаю запрудаю маўчання... Якое слова вымавіць? Здзейсніцца ва ўчынку і страціць сваю бязмежнасць... Ці не танная гэта плата? Як ліхвяр, схіляюся над друзам памкненняў, перабіраю, пералічваю і прыцэньваюся... А яны, без ужытку, паржавелі, пацямнелі, парэпаліся. І ўжо не стае цёплай крыві, каб змыць з няспраўджаных жаданняў, словаў, памкненняў учэпістую цвіль нерухомасці... Задыхаюся я! Дык будзь што будзе! Выпростваюся і раблю крок наперад... Адзін толькі крок з няпэўнасці!

## XXX. ГЛІНА

Тыцкаюць тварам у гліну: рана ці позна вернешся ў гліну! Яна не гідлівая — кожнага прыгорне і атуліць... Яшчэ не ведаю, што шкарлупіна з гліны бароніць мяне ад гліны. Тварам у гліну слухаю галас Сусвету, цяжарнага глінаю. Глухну і слепну... Выварочваю слых і зрок: чую гучанне струны, напятай ад майго сэрца да сэрцані светабудовы. Здзіраю з сябе гліну. Так мятлік скідвае змярцвелую шкарлупіну, з якое вырас. Шукаю сваё сапраўднае аблічча!

## XXXI. ПЫРСКІ НА ТВАРЫ

Ніжэй і ніжэй да вады апускаюся пад цяжарам сумненняў, ваганняў, горкіх адкрыццяў. І зайздрошчу малечы: душа яго толькі-толькі пакінула чароўны бераг з ліловымі дрэвамі, блакітнымі птушкамі і залатымі яблыкамі. О, недасяжная яснасць прыроды! О, недаступная прастата малечы! Душа мая — знясіленая птушка над акіянам бязлітаснай развагі, птушка, што шукае за параванам смугі ваш згублены бераг. Чую ўжо плёскат раз’ятраных хваляў. Адчуваю на распаленым твары халадэчу першых пырскаў.

## XXXII. РАКА

— Скажы, хуткаплынная рэчка, скажы:
Ці будзе ў жыцці маім горкім адхланне?
Мо зноў, як калісьці, пяшчоту й каханне
Мне з крылаў навостраных скінуць стрыжы?

— Нясу я бязважкую пену штодзень
Над каменем цяжкім, што зросся з прадоннем...
Чакай жа кахання, як пена патоне,
А з дна майго ўзнімецца мшысты камень.

## XXXIII. ВЕЦЕР

— Хто там папацёмку лётае,
Рвецца ў хаты да людзей,
З нетутэйшаю маркотаю
І ГАЛОСІЦЬ, і гудзе?

— Гэта вецер, вецер-птах
Б’ецца ў шыбы, б’ецца ў дах.

— Мо скалелыя нябожчыкі
Плач бязладны завялі:

Просяцца пажыць шчэ трошачкі
На пакінутай зямлі?

— Гэта грае вецер-птах
На напятых правадах.

## XXXIV. ВАЛУН

*

Шэры валун, ты мне — першы сваяк:
Сам я штодзень усё больш камянею,
Фарбы губляючы, нікну, цьмянею...
Шэры валун, ты мне — першы сваяк!

Дзьмухай не дзьмухай на прысак — ніяк
Попел ачахлы не запалымнее...
Шэры валун, ты мне — першы сваяк:
Сам я штодзень усё больш камянею.

**

Шляхі ў мінулае размяклі,
Пагаслі прышласці агні,
І заклік «Рушым!» — мёртвы заклік
На нерухомым камяні

Паміж маім расчараваннем
І светам цьмяным і чужым...
І толькі водсветы кахання
Яшчэ трапечуцца ў душы.

## XXXV. ЦЕРАЗ МРОК НАПРАСТКІ...

*Н. С.*

Цераз мрок напрасткі,
Цераз тоўшчу маўчання
Хлапякі-матылькі
Ападаюць начамі
На далоні двароў,
На завулкаў палотны —
У святле ліхтароў
Зіхацяць бясклапотна.

Мы забылі пра ўсё.
Мы плылі да цямночы
Праз аснежаны сон,
Што блакіціўся ў вочы,
Уявіўшы, нібы
Гэта мы ападаем
За мяжою журбы,
За прадоннем адчаю.

## XXXVI. ХМЕЛЬ

Мы разнялі свае абдоймы
І так адчужана знямелі...
А за акном панелі дома
Былі аплеценыя хмелем.

Чаму, скажы, мы ў жальбе тонем,
Чаму забыцца не пасмелі,
Калі жывуць і на бетоне
Пяшчотныя павоі хмелю?

## XXXVII. СКУПОЕ СОНЦА

Скупое сонца кволым промнем
Касіла лісце з клёнаў сонных...
Ты ціха мовіла: «Да скону,
І адкахаўшы, буду помніць».

А я сачыў, як промняў лёзы
Без намагання лісце косяць,
Як вецер іх у гурбы зносіць,
Як сумна ўецца дым бялёсы...

Так з тых часін і заплялося
У памяці маёй яскрава:
Твой голас, дыму пах гаркавы
І скарга ціхая на восень

## XXXVIII. ВЯРТАННЕ

На досвітку стрэлкі гадзінніка спыніліся і пакрысе пасунуліся ў зваротны бок. У змроку за акном зноў пачалі ярчэць зоркі. Недагарак свечкі на падваконні задыміўся шызым струменьчыкам і паласнуў няпэўным хісткім цяпельцам. Застыглы парафін на падсвечніку растапіўся і кроплямі пакаціўся па свечцы да мігатлівага полымца. Я падняўся з ложка і ўвамкнуў транзістар. З цьмяных пачуццяў, якія паступова акрэсліваліся ўва мне, палілася, працінаючы мяне, фантастычная музыка перакуленых гукаў: яна знікала ў зеўры транзістара. Нарадзілася раптам вострае адчуванне непапраўнага. А калі я ў роспачы сціснуў далонямі скроні, пачуў, як ты ціха падыходзіш да мяне, сядаеш поруч, шэпчаш: бывай... Я ўзнімаю галаў і бачу самотныя зоркі, якімі адбіваецца полымца свечкі ў тваіх зрэнках. Да вечара мы сядзім рука ў руку, сумныя і маўклівыя, як на хаўтурах. Урэшце я выключаю прыймач, тушу свечку абвугленым запалкам і выпускаю цябе з абдымкаў. Ты адплываеш спінаю да дзвярэй і сумна-вінавата ўсміхаешся мне. Сціхаюць твае крокі. Я чакаю цябе і, пакуль за акном разгараецца захад, усё больш веру, што ты вось-вось

павінна прыйсці. А ў глыбіні свядомасці захрасла ашкелкам: непакой, шэры досвітак у акне, нерухомыя стрэлкі гадзінніка.

## XXXIX. ЗНЯНАЦКУ

Па асфальце дажджом секанула знянацку,
І па шыбах пустых, раўнадушшам зашклёных,
І калоціцца чорнае голле шалёна,
І хістаюцца дрэвы ў паклонах вар'яцкіх.

Разбягаюцца ў цемрадзі сполахі страты
І пад ногі, вярнуўшыся, падаюць ніцма,
І пагрозліва гмахі, муры, камяніцы
Да мяне нахіляюць сцяжэлыя латы.

Гэта хіліцца свет, у сяродку якога
Ззяла толькі каханне... і болей нічога!

## XL. О, НЕ ЗАПАЛЬВАЙ, ГОРАД СОННЫ...

О, не запальвай, горад сонны,
Свае зіхотныя агні —
Хай цьміцца вечнае сутонне
У сховах вечнай цішыні,
Хай не крануць ніколі слыху
Ні шоргат шын, ні тупат ног...
Я тут адным каханнем дыхаў,
Але й кахання не збярог!

## XLI. БЛУКАЛІ МЫ Ў ЦЬМЯНЫМ СВЯТЛЕ ЛІХТАРОЎ...

Блукалі мы ў цьмяным святле ліхтароў,
Разняць не маглі пераплецеными пальцаў,
І там, дзе ступалі, у цемры двароў
Зіхоткія кветкі раслі на асфальце.

Блукаю, самотны, вярнуўшыся зноў,
Па горадзе смутку майго і кахання,
Па зблытаных вулках няспраўджаных сноў,
Дзе кожны камень быццам слова з падання.

Усё тут, як колісь, ды дзе тыя кветкі —
Нядоўгага шчасця ахова і сведкі?!

## XLII. ПОДЫХ

Здараецца, зімы далёкай подых
на цёплы май дыхне,
І зелень яркую на сушы і на водах
аблепіць вогкі снег.

Няхай у светлы дзень твой успаміны
даходзяць пра мяне,
Як гэты снег, што выпаў на хвіліну
і хутка праміне.

## XLIII. ЗАБЫЎ Я ТВОЙ ГОЛАС...

Забыў я твой голас, і вочы, і рысы аблічча
І аб мінулым сумую радзей і радзей,
І толькі ўначы ты ўзнікаеш у сполахах знічак,
І ў сны мае сходзіш, і ўсё маладзей, маладзей.

## XLIV. ДЫК БЫВАЙ...

Дык бывай... Я сарваўся знячэўку з арбіты
І тваё прыцягненне няўмольна губляю,
Забываю цябе незваротна, нібыта
Назаўсёды самога сябе забываю.

І, глухі, невідушчы, бязважкі, парожні,
Іншым поўнюся сэнсам, і слыхам, і зрокам,

І, знікаючы, бачу: ў абдымках апошніх
Мы да зорак ляцім і знікаем між зорак.

## XLV. ПАВУЦІННЕ

Абрыўкі павуцін апошніх,
Адлётаўшы, на ржэўі віснуць
І бляскам слюдзяным на пожні
Мігцяць так квола, так няісна...

А помніш, помніш, як у спёку
Так непатрэбна, бескарысна
Шугала полымя высока,
Рассыпаўшы над намі іскры?!

## XLVI. УСЁ, ЧЫМ ДЫХАЎ Я РАНЕЙ...

Усё, чым дыхаў я раней,
Усё, што вабіла ў мінулым,
Сышло, паблякла, прамільгнула —
Усё, чым дыхаў я раней.

Згадаецца мо толькі ў сне,
Як мучыла і як гарнула
Усё, чым дыхаў я раней,
Усё, што вабіла ў мінулым.

## XLVII. КЛАСІКА

### *1. Клавесін*

Ты бачыш, ужо звечарэла зусім,
Вунь зоркі адбіліся ў сажалцы,
Ах, зараз нарэшце стары клавесін
На шчырую споведзь адважыцца.

Запальваць васковыя свечкі пара
У зале і, ноты расклаўшы,
Няспешна, адзін за адным, перабраць
Халодныя гладкія клавішы.

І сумна няхай распачне клавесін
З усмешкаю ледзьве прыкметнаю
Няхітрую споведзь мінулых часін —
Такую, як сам, пракаветную.

### *2. Арган*

Закволяцца сумныя вочы святога,
Паветрам напоўняцца лёхі аргана,
Народзяцца гукі з уздыху глухога
Празрыстаю параю з глебы ўзаранай.

І раптам патонем мы ў велічным хоры,
У шчыра-цнатлівым, няспешным дыханні,
Зляжалыя крыўды, нязбытую горыч
Разгоніць даверлівы подых аргана.

Разгоніць навекі, нібыта аблокі...
Ды плача — глядзіце! — святы сумнавокі.

### *3. Цымбалы*

Ліцеся, гукі цымбалаў чароўныя, ліцеся,
Светла, кругамі па люстры вады, разыдзіцеся.
Сыпцеся шэранню лёгкаю, звонкай, срабрыстаю,
Ранкам на шыбах карункамі ззяйце іскрыстымі.
Сыпцеся, гукі цымбалаў гаючыя, ліцеся,
Рэхам ва ўсіх, хто забыўся на вас, адгукніцеся!

### *4. Віяланчэль*

*

Тужлівы голас твой, віяланчэль,
Забытыя даўно ўваскрэсіў мары:
Яны ўслед за смычком бягуць па твары
Слязамі светлымі з разгубленых вачэй.

За хвіляй радасці, няпэўнай, быццам дым,
Ты ў роздуме павольнаю рукою
Ўпляла ў вянок кахання боль з тугою
І змоўкла водгукам грудным.

**

Віяланчэль, не трэба з даўніны
Выплакваць згукі паўзабытых песень:
Маёй душы не гояць больш яны,
А толькі прыкрай аддаюцца рэззю,
Бо іншым стала неба і зямля,
І смак паветра і вады стаў іншы,
І сам я так змяніўся спакваля,
Што ад тугі б сканаў я той, калішні,
Калі б зірнуў за каламуць начэй
У пустку высахлых сваіх вачэй.

### *5. Кукабака і Сымон-музыка*

> Гісторыя гэта малая
> нібы акурак папяроскі…
>
> *Максім Танк*

Гісторыю гэтую кожны сабака
За костку курыную распавядзе:
Такіх сяброў, як смяцяр Кукабака
І Сымон-музыка, не стрэнеш нідзе.

Возіць Кукабака смецце за горад
На старым грузавіку ў жалезнай скрыні,
А Сымон-музыка развучвае творы
Баха, Бетховена й Паганіні.

Увечары Кукабака здымае ватоўку
І ў новых чаравіках і капелюшы
Ідзе да сябра з пляшкай «Зуброўкі»
Паслухаць што-колечы для душы.

Часцей за ўсё Кукабака ў Сымона
Просіць сыграць — і, відаць, нездарма! —
Сюіту Грыга пра край сцюдзёны,
Дзе цэлы год пануе зіма...

Збягаюцца ў купку зоркі дробныя,
Каб паглядзець, як у пройме акна
Кукабака й Сымон, такія непадобныя,
За класікай бавяць свой час давідна.

## XLVIII. МАРСІЯНІН

Я брыў праз зараснік дрыготкіх пасмаў
Расплывістых неонавых прыўкрас,
А па-над іх мігценнем невыразным
Са мною разам плыў крывавы Марс.

І мірсціў я: смуглявы марсіянін
Ідзе са мною поруч, крок у крок,
Хаваючы вачэй вільготных ззянне
У спакваля гусцеючы паўзмрок.

## XLIX. ЭЦЮДЫ

*

Змрочны горад. Золак мглісты.
Брук засланы жаўталістам.
Шыхт згалелых чорных дрэў.
Я ішоў праз шыхт бясконцы
Па напятым промні сонца,
Што палаў, але не грэў.

**

На шыбінах высозных хмарачосаў
У набрынялай зыкамі смузе
Тым вечарам згасала пакрысе
Барвовае кавэнчанне нябёсаў
Прыгадкаю па страчанай красе
Жыцця, якое бліснула спрасонку,
Як недарэчна-зыркі маскарад,
І сталася спустошанай скарбонкай,
Дзе развітальны бляск на шкліне тонкай —
Апошні незбяёданы дукат.

***

На памяці думках пачуццях іржа
Блакітных экранаў расстаўлены пасткі
У зыркія бляскі неонавых пасмаў
Як звер зацкаваны збягае душа

Як звер зацкаваны збягае душа
У зыркія бляскі неонавых пасмаў
Блакітных экранаў расстаўлены пасткі
На памяці думках пачуццях іржа

****

Марна вакол ліхтароў ззяюць дрогкія німбы,
Марна анёльскімі трубамі клаксаны граюць,
Кожны тут спуджана б’ецца, бы ў нераце рыба,
І плаўнікамі суседа бакі да крыві раздзірае...
Горадзе мой, ненавідны, каханы, жахлівы,
Мне ўжо не мірсціцца, што я адзін — асаблівы —
Вымкну з абдымкаў, дзе іншыя ўсе паміраюць.

*****

Зіхнуўшы наастачу зыркім бляскам,
Экран замоўк знянацку на паўслове
І згас перад хвалюючай развязкай
Клубка падзей, завітых адмыслова.

І ўбачыў я, што на экране згаслым
Заместа слоў і ўчынкаў размаітых
Адлюстраваўся воблік невыразны
І цьмяны твар, скажоны і размыты.

******

Мне здаўся гэты свет намаляваным,
Скажоным, несапраўдным, нежывым:
Ён засціў вочы мне, як шчытны дым,
І свет сапраўдны быў за ім схаваны...
І, апавіты дымам, нечакана
Сабе самому зданню я ўявіўся —
Стварэннем ворашнага сну, што сніўся,
Камусь, хто сам глухім быў і сляпым...
Глытаючы атрутны, ёлкі дым,
Сярод пачварных я хімераў віўся
І саграваўся думкаю аб тым,
Што я яшчэ на свет не нарадзіўся.

## L. БАЛАДА ПРА ЧАЛАВЕКАПТАХА

*

Нехта ўсімі забыты
цягнуў па бруку крылаў ашмоцце,
і праклінаў жалезабетонныя пліты,
і задыхаўся ў бензінавым смуродзе.

А мерцвякі, закутыя ў бляшанкі
(як жамяра ў бурштын),
праносіліся ля яго маланкай,
слухаючы сімфонію шын.

**

Лётаюць шматкі газеты над дахам,
а сярод іх — агністае пёрка
з крыла чалавекаптаха,
закаханага ў зоркі.

Ён газету парваў на шматкі
і да зорак пайшоў напраcткі,
пакінуўшы пёрка на знак,
што не крыўдуе на чалавекасабак.

## LI. БАЛАДА ПЕРАЎТВАРЭННЯ

*

Статак машын коціцца шпарка.
У іхнім рыку не чую ўласнага кроку.
У атрутна-жоўтым смогу паўзмроку
распукліваюцца агняцветы электразваркі.

Не стае моцы цягнуцца шляхам,
дзе штохвілі працінае асцё
прыступаў жаху
перад тым, што завецца жыццём.

Лепш ужо на аўтастраду легчы плазам —
хай мяне колы здратуюць!
Лёг... а машыны праз мяне прастуюць,
як праз воблака выхлапнога газу.

Звар’яцелы ад тугі,
хапаю іскрыстую кветку электрадугі!
А яна не слепіць вачэй
і далані не пячэ...

**

Пад небам колеру меднага купарвасу,
на размякчэлым асфальце пакідаючы сляды,
я брыў з застыгла-абыякавай грымасай
вірлівым праспектам у прышлае Нікуды.

І, жалезабетонам акуты, не марыў пра ўцёкі
у край, дзе ногі сцюдзёнай расой казытала,
і ў целе бетонным маім, гарачым ад спёкі,
у тахт маім крокам тахкала сэрца з металу.

## LII. БАЛАДА ДОСВЕДУ

Быў падазроны смак суніцы,
Быў несапраўдны пах жывіцы...
І я, забыўшыся на ляк,
Узяў вяроўку і ліхтарык
І прачыніў на тратуары
Дагэтуль нечапаны люк.

Гулі сталёвыя парэнчы.
Смуродам тхнула. Гулка енчыў
Пры кожным кроку ржавы трап...
Ліхтарык высвеціў са змроку
Празрыстыя, з зялёным сокам,
Спляценні незлічоных труб.

У выніку маёй афёры
Я вызнаў тайну штучнай флёры —
І жылы ў роспачы ўспароў,
Бо жыць у свеце непамысным
Больш не хацеў... А з жылаў пырснуў
Раствор смярдзючы, а не кроў!

### LIII. БАЛАДА СТРАХУ

Туман па сталёвым паўзе калідоры.
Агонь электрычнае зваркі пагас.
Ідзе будаўнік пасля працы, каторы
Ў адно знітаваў гэты жорсткі каркас.

Цяжкія і грубыя формы машыны.
І руры тырчаць, як рабрыны, са сцен.
І страх чалавечы, а можа мышыны,
Пад гулкае тахканне крокаў расце.

### LIV. ПРЭЛЮДЫЯ

Калі я губляю ў бяззорнай, бяздоннай начы
І сэнс існавання, і веру ў сваё прызначэнне,
Прыходзіць жанчына, якая заўсёды маўчыць —
Жахлівай красы і распусная да абурэння.

Яе валасы, як гадзюкі, спадаюць з плячэй
І, ўзвышшы грудзей абмінаючы, джаляць калені,
Жаданне затоена ў зрэнках вільготных вачэй,
І прагныя вусны уздрыгваюць ад нецярпення.

Зданнём-насланнём наплывае яна на мяне,
І я абдымаю яе ненатольнае цела,
Нібыта тапелец, сціскаю мацней і мацней
І падаю ў бездань, аслеплы, глухі, звар'яцелы.

І ўсё ж у той змрок, дзе шалее пажадная плоць,
На самае дно ва ўладанні сляпой асалоды,
Усёдаравальны і поўны спагады Гасподзь
Жанчыну-анёлку прыводзіць па прывідных сходах.

Павольныя рухі. Вясёлкавы німб над чалом.
Бязважкага цела абрысы. У поглядзе — цнота...
І вось, завінуты зычліва празрыстым крылом,
Я слухаю голас, сатканы з цяпла і пяшчоты.

О, як безбалесна, як лёгка ісці, крок у крок,
З анёлкай-хавальніцай, і адчуваць яе блізкасць,
І слухаць пра неба, дзе існасці нашай выток,
Дзе ўсё дасканаласць — да самай астатняе рыскі.

І вунь ужо выйсце. За ім — вышыня, далячынь...
І ўсё ж на апошняй прыступцы глухіх сутарэнняў
Мяне даганяе, якая заўсёды маўчыць —
Жахлівай красы і распусная да абурэння!

## LV. У ЖОРНАХ ДЗЁН

У жорнах дзён, бязлітасных і мулкіх,
Вы схочаце на міг знайсці спачын
І ўспомніце, шукаючы прытулку,
Абдымкі ратаўнічыя жанчын.
І ўчуеце рыпенне крокаў мяккіх,
І шолах сукні, і канвалій пах...
І сэрца будзе гулка, гулка тахкаць
Праз недавер, застыглы на губах.

## LVI. ХУТКАЯ ПЛЫНЬ

Не трэба, каханая, слоў. Памаўчым.
Ніхто не валодае мовай, якою
Два сэрцы, спавітыя пешчаў ракою,
Размову вядуць, у нябыт плывучы.

Глядзі, які морак, і шэрань, і стынь
Залеглі наўкола страшлівай аблогай...
Дык будзем жа моўчкі адно да аднога
Туліцца. Хай зносіць нас хуткая плынь.

## LVII. НЯСВІЖСКІЯ ПАРТРЭТЫ

Па зале халоднай з блішчастым паркетам
Іду я праз шыхт старасвецкіх партрэтаў,
Паміж срэбратканых каптанаў, сукенак
І твараў уладных паноў і паненак.
Дзіўлюся на пыху ў паставах васковых,
На сцятыя вусны, на тонкія бровы.

Святло на эфесах і спражках мігціцца,
На поўсці сабак паляўнічых ільсніцца,
На пацерках, на ланцужках, на маністах
І на завушніцах зіхціць прамяніста...
Здавалася, гэтыя людзі ніколі
Не ведалі палкіх жаданняў і болю.

І раптам уразіў загадкавы позірк
Жанчыны ў манерна-абражанай позе,
І доўга глядзеў я ў здзіўленні маўклівым
У бездань вачэй прыцягальных і кплівых,
І губы... знаёмыя прагныя губы —
Такія ж мяне сцалавалі да згубы!

## LVIII. ЖАЎТАЛІСТ

Нясцерпна бачыць мне пакору
У рухах Вашых рук, плячэй
І позірк скошаных ад зморы,
Калісьціззяючых вачэй

І слухаць доўгі й непарадны
Аповед горкага жыцця —

Як гэты шкробат несуладны
Вятрыскам гнанага лісця.

## LIX. СУЛАДНАСЦЬ

*Л. Ч.*

Божа, адбяры суладнасць душ
Двух самотнікаў, што паасобку крочаць,
У абдымкі не штурхай — не руш
Іх замкнёнасць і спакой сірочы,

Хай ніколі не зліюць ў адно
Лёсам раз'яднаныя дыханні —
Хай яны не зазірнуць на дно
Роспачы няшчаснага кахання.

## LX. КАЙ

### *1. Шклінка*

А прыгаршчы снегу, відаць, нездарма
У твар мне шалёна шпурляла зіма —
Крышталік халодны і востры, бы шкелца,
У зрэнку мне ўбіўся і высцюдзіў сэрца.

Усё як было засталося наўкол:
Пахмурае неба, аснежаны дол...
І толькі адно не патраплю здаўмецца:
Чаму гэта пустка *Радзімай* завецца?

## *2. Лядовы палац*

У палацы пустым, дзе адны скразнякі
Па пакоях туляюцца ўлегцы,
Ледзякі, ледзякі, дзень пры дні ледзякі
Перакладваю з месца на месца.

Ледзякі-ледзякі, замест сэрца — лядзяк.
Зіхаценне халоднае слепіць.
Засяроджаны твар — і не выйсці ніяк
З ледзянога празрыстага склепа.

## *3. Герда*

Не ўявіць анічога марней:
Ты кахала мяне без мяне,
Існавала адным толькі мной
І маёю бясконцай маной.

Ты, спавітая ззяннем, плыла,
З цеплыні ўся наскрозь, са святла...
І не бачыла з мроіва мар
Мой бяскроўны, адчужаны твар.

## LXI. АПОШНЯЕ КАХАННЕ

Конь вараны, скасавурыўшы вочы,
            біў капытом.
Я б мог забрытаць яго, ды збочыў,
            абмінуў крадком.

Шолах асакі. Зорак калыханне
            на плыні цёмнай ракі...
А зваўся конь Апошняе Каханне,
            што вершнікаў разносіць на шматкі.

## LXII. ГРАВЮРА

У гарлачы на стале хрызантэмы...
Гэта не прыклад няўдалай квантэмы —
Гэта пачатак мілоснае тэмы.

Нашы альтанкі, прысады і паркі,
Свет на дваіх, незваротны і яркі,
Жалем запралі няўмольныя Паркі.

Што засталося? Світанак пахмуры.
Надпіс «кахаю» на зжоўклай гравюры.
Томік журботных лістоў Сенанкура.

## LXIII. ДЗВЕРЫ

Няісней, чым кружлянне пудкай молі,
мой жыццяпіс.
Не бель аблокаў — цяжар шэрай столі
згары навіс.

Не плёскат хваль, не дасканаласць цела,
не шорхат крыл —
А маўкліня й на вокладках зжаўцелых
стагодні пыл.

І ў снах той самы незагойны верад,
што вось знайшоў
Аднойчы ў край, жахліва-пекны, дзверы —
і не ўвайшоў...

## LXIV. ВЕРШАСКЛАДАННЕ

*

Доўга сіліўся я ажывіць на паперы
Песню шчырых пачуццяў няспрытнай рукой,
А чытаю — і шолах сухога аеру
Замест песні той чую над скутай ракой.

**

Адранку вецер вар'яцеў,
Але суцішыўся пад вечар...
Я выказаць сябе хацеў,
Пісаў і аркушы камечыў,

І сам не ведаў, хто я — цень
Ці парастак, прыгрэты лёсам?
Знікомы водбліск ці прамень,
Што з вышыні прабіўся коса?

Накрэсленае на вадзе
Ці рыска на скрыжалі вечнай?..
Ад ранку вецер вар'яцеў,
Але суцішыўся пад вечар.

***

Стол. Лямпа. Крэсла зручнае.
І ціша — бы на дне...
Зноў рыфмы надакучныя
Высмажваюць мяне.

Пакуль паперу крэмзаю,
З радком лучу радок —
Змяшаўся з куламесаю
Жыцця майго струмок.

Абрыдла мне гадзінамі
Над словам варажыць —

Мне б вырашыць адзінае
Адно: пісаць ці жыць?

Стол. Лямпа. Крэсла мяккае...
Напэўна, без мяне
Жыццё маё ніякае,
Як сненне, праміне.

## LXV. КУКАБАКА І БОЧКА МЁДУ

Каб сам не ведаў, дык не даў бы веры,
Што Кукабаку горне да паперы.
Любіў на ёй ён нешта крэмзаць ноччу,
Блукаючы душой па зааблоччы.
А не, дык сам да зор на крылах мар
Імчаў у неразведаны абшар,
Збіраў радкі там нейкія ў прыпол
І складваў па прылёце ў мех пад стол.

Уранні па вяртанні з краю зорак
Выходзіў, стомлены, у сад ці на падворак,
Дзе ўжо ад золку працаўніцы-пчолкі
Гулі сур'ёзна й лёталі суполкай
На собскіх крылцах — не на крылах мар! —
Па кропельцы збіраючы нектар
З чаромхі, вішні, яблыні і дулі,
І неслі ўзятак да суседа ў вулей.

Канечне, пчолкам, што збіралі мёд
І гадавалі малады выплод,
Паэт-самотнік у душы зайздросціў...
Але аднойчы Кукабаку ў госці,
На пчольнік, у альтанку, на абед,
Ласкава запрасіў пчаляр-сусед.

Пасля таго, як выпілі па чарцы
І моўчкі раскурылі па цыгарцы,
Сусед сказаў: «Дык мы ж з табой суседзі!

Праз шчыліну ў паркане я разгледзеў:
Штоноч на крылах мар ты ймчыш да зорак
І вершаў назбіраў там цэлы ворак.
Штось прачытай, бо сам хоць не пішу,
А маю паэтычную душу».

І Кукабака (як і ўсе паэты)
Агучыў верш «Нясвіжскія партрэты».
Пчаляр усклікнуў: «Змест і стыль выдатны!
Прыемна, што сусед мой гэткі здатны!
А то надоечы, майструючы карыта,
Я чуў па радыё якогась Бумбуліта:
Чытаў ён складна й ад душы нібыта,
На роднай мове, гучна так і смела,
Аднак, каму й нашто, незразумела.
Не грэе сэрца ён, і гэтым шкоду
Паэзіі наносіць і народу, —
За верш яго не дам і кроплі мёду!

А ты інакшы! Ты не выхваляка!
І, хоць пазорам рыхтык Кукабака,
Відаць, нядарма гойсаеш па зорах —
Пісаць, як пішаш ты, зусім не сорам!
Прызнацца, слухаў я твой верш і праслязіўся...
Што ж, добра, што ў табе не памыліўся.
Ад сэрца чыстага ўручаю нагароду:
Вось гэту бочку залатога мёду!»

Шкада, што ніхто тым адвячоркам
Не бачыў, як паэт на зайздрасць зоркам
Сіляў духмяны мёд і разважаў пры гэтым:
«А што? Зусім няблага быць паэтам!»

## LXVI. У ШАРЫМ ПРЫЦЕМКУ

Змяркаецца. Люблю я вельмі гэты час…

*К. Буйло*

*

Шары прыцемак паволі злізваў барвы наваколля.
Горад стойваўся і глухнуў. Змрок насоўваўся густы.
Ані гуку, ані руху... Толькі булькалі на кухні
Аднастайна, мерна, глуха кроплі цяжкія вады.

І было мне прыкра, пуста, што жыццё маё бязглузда
З жылаў точыцца, нібыта кроплі цяжкія вады...
Раптам знекуль, як з нябыту, загучаў даўно забыты
Той матыў, што з іншым зблытаць я не мог і праз гады.

І здалося, смутак, стома адступаюць пакрыёма,
Адплываюць, як аблокі, адыходзяць назаўжды...
Я вяртаюся здалёку да жыцця майго вытоку,
Дзе не чутна, як у змроку глуха падаюць гады.

**

Цемра ў хаце гусцей і гусцей.
Напаўняю я кубкі гарбатай.
І маўчу. І чакаю гасцей —
Нечаканых гасцей у хату.

Сэрца б’ецца часцей і часцей.
Месяц срэбра лінуў на падлогу.
Стынуць кубкі... Заміж гасцей
Сцені-здані... і больш нікога...

## LXVII. ТУМАН

*

Ад Сухавея бляклых сполахаў,
Які звястуе гарачынь,
Накрылася Туману полагам
Ракі натомленая плынь.

Як лёгка яшчэ дыхаць сеначы!
Туман выходзіць з берагоў,
На дол абрус бяседны сцелючы
На прыйсце продкаў і багоў.

**

Туман...
Мы збянтэжана сцішваем крок
цвёрдай хады...
У шчыльным тумане губляецца зрок.
Туман, хто ты?
Аблачына вады?
Антыдым?
Ты вільготнаю поўсцю да твару ільнеш,
ты ільнеш да рукі:
ты плывеш, ты жывеш —
сам не ведаеш, хто ты такі...

## LXVIII. БЭЗ

### *1. Хутар*

У вазе звяў духмяны бэз.
А я паперы скрэмзаў жмутак...
Я доўга быў з табой і без
І вызнаў, што такое смутак:

Ён, пеніста-ліловы спрэс,
Так нас спавіў і так захутаў,
Як той здзічэлы прагны бэз,
Што плот збуцвелы пералез
І ахінуў забыты хутар.

### *2. Кат*

Рассунуў бэз я... Акурат
Насупраць, у аконнай шыбе,
Губамі варушыў, як рыба
Бязгучна, за чытвом мой кат.

Карпеў да ранку, мусіць, ён
Над мудрым томам «Капітала»,
Скуль навукова вынікала,
Што ўсім, такім як я, — гамон!

Было ўсё вызначана спрэс
Там аж да «чыстак» і «лікбеза»...
Адно не ўлічана: куст бэза
Пад самай шыбай і абрэз.

### *3. Кукабака і бэз*

*За агароджаю перад астрогам*
*У ціхім куточку адна*
*Кветка красуе на грунце убогім,*
*Хораша ззяе яна.*

*Я. Колас*

Пад мурам таго самага механічнага цэху,
Дзе Кукабака вырабляў пратэзы,
Штогод у траўні зацвітаў куст бэзу,
Сарамліва затуляючы счарнелую цэглу.

Такой нязвыклай і такой сірочай
Была сярод шкла, бетону й жалеза

Ліловая квецень квітучага бэзу,
Што Кукабака адводзіў вочы.

На тэрыторыі, абнесенай дротам,
Квітучага бэзу ліловая кіпень
Здавалася Кукабаку дзівосным выкапнем
Нейкай недарэчнай, забытай пяшчоты.

Напэўна, ў Кукабакаў задушны закутак
Той, хто не церпіць ніякага лішку,
Дадаваў штогод пяшчоты крышку,
Каб яшчэ яскравей адцяніць пакуту.

## LXIX. ЛІТАРАТУРНЫЯ ФРАГМЕНТЫ

### *1. Радзімічы («Аповесць мінулых часінаў»)*

Нябожчыка продкі не клалі ў магілу пад крыж:
Укопвалі слуп паміж іншых слупоў незлічоных,
Акораны дбайна, садзілі нябожчыка ў човен,
І спальвалі човен, і попел збіралі ў гладыш.

Гладыш той на слуп узнімалі ў бяздонную сінь,
Таму што хацелі, каб бачны быў людзям здалёку,
Каб мёртвы ад тлення далей быў, бліжэй да аблокаў,
Каб сведчыў жывым пра нязбытнасць мінулых часін.

### *2. Доказ («Дон Кіхот»)*

Зноў чары Фрэстана. Падступны тонкі ход:
Злых волатаў зрабіў ён ветракамі.
Махаюць прывіды магутнымі рукамі.
Згатовіўся да бойкі Дон Кіхот.

За куст! Хутчэй за куст, адданы Санча!
Зашыйся й цераз голле ў страху глянь
Туды, дзе твой няўрымсны пан на здань
На Расінанце безразважна скача.

Рыпіць вятрак, працяты навылёт.
А ён страшыдлу дзідай дапатопнай
Малоціць — сам да ветрака падобны,
Высакародны, слаўны Дон Кіхот...

І я быў сведкам, як ён на ламачча
У гневе струшчыў прывід зла — вятрак.
І доказ маю, што там быў — гузак
Ад Дон Кіхота, рыцара з Ла Манчы.

### *3. Апошні («Апошні з магіканаў»)*

Сніўся сон мне жахлівы, трывожны:
Я застаўся адзін, я — апошні
З племя вынішчанага магікан —
Поўз бяз сіл па скрываўленай пожні

І, паранены, марна гукаў
Родных, блізкіх, стагнаў у адчаі, —
А ў адказ мне ляцела з маўчання
Рэха ў сэрца, нібы тамагаўк.

Сніўся сон мне жахлівы, трывожны:
Я застаўся адзін, я — апошні...

### *4. Машэка («Магіла льва»)*

У пушчы дрымучай (так сведчыць сівое паданне)
Разбойнік Машэка бязмэтна туляўся калісьці.
Гавораць, што збіўся ён з тропу, згубіўшы каханне,
Людзей рабаваў і, як дзік, спаў у логаве з лісця.

Ён крыўдніка-пана на шляху спаткаў нечакана
І пану адпомсціў спаўна за ягоныя здзекі,
З дзіцячай усмешкай прылёг на калені каханай
І, ў сэрца штылетам працяты, заснуў ён навекі...

І я вось — мярцвяк без кахання — зрабіўся я ценем,
Блукаю бязмэтна, не маю апірышча ў свеце.

Нічога не трэба мне — мне б у цябе на каленях
Заснуць і ўва сне ад рукі тваёй здраднай памерці.

### *5. Урфін Джус і ягоныя драўляныя жаўнеры*

А Урфін Джус не мае паратунку
Ад думак пра ўладу ні днём, ні ноччу...
Драўлянае войска вышэйшага гатунку
На Горад Смарагдавы па бруку крочыць.

Драўляныя ногі, драўляныя рукі,
Галовы без думак, грудзі без сэрца —
Ім абы грукаць па гулкаму бруку,
Ім усё роўна, ці жыць, ці памерці.

Не ведае жалю драўляны робат,
Застрахаваны ад нягоды,
Толькі загадай — немагчымае зробіць.
А Урфін Джус... ягоны ваявода!

## LXX. МАРЫЯНЕТКІ

Бавім і вабім сябе сумятнёю стракатай,
Пырскі ды трэскі — вось нашы здабыткі і страты,
Мы пусціня, што баіцца сябе і ад жаху
Гучна крычыць або перыць у бубен з размаху.
Мы штукары: каб не зведаць сапраўднага болю,
Струн запаветных душы не кранаем ніколі,
Мы абмінаем пакуты і радасць кахання,
Што неадчэпна ўпляліся ў жыццё, як дыханне.

Людзі над намі, у жменю заціснуўшы ніткі,
Торгаюць нас за запясці, за думкі, за лыткі —
Звыкла-заўзята смяёмся мы, скачам, і плачам,
Звыкла-заўзята ўсхваляем дабро наастачу.

Позніцай позняй пасля мітусні немагчымай
Нас, размалёваных лялек з убогім начыннем,

Жорсткія рукі не тузаюць болей за ніткі,
Робяцца шэрымі нашы пярэстыя світкі.
Мы нерухома вісім, хто журботны, хто сонны,
І нат у цемры баімся адвесці заслону
Сцэны апошняй, дзе шэпча наш дух паланёны
Фарбам сліпучым і словам няпраўдным праклёны.

Тахкае мерна гадзіннік. Жыццё непрыкметна,
Быццам лядзяк, растае і знікае бясследна.
Нехта з нас шэпча: «Няўжо не зазнаем патолі?»
Рэхам гадзіннік: «Ніколі-ніколі-ніколі...»

## LXXI. ІНТЭРНАТ

*

Ну вось і адзін я ў бетонных квадратах
Пакояў сумежных ляжу ў забыцці,
І зоркам дрыготкім у белых халатах
Праз неварацць шкла да мяне не ўвайсці.

Адрынулі ў змрок акіяны лятункаў,
І холадна звонку, і пуста знутры,
І марна, й няма дзе шукаць паратунку
Ад шчупняў, якія пратнулі муры.

Бліжэй і выразней кашчавыя пальцы
Жахлівых раслінаў, што смокчуць цяпло...
Дык вось што такое каханню паддацца,
Не скінуць адразу пяшчоты сіло.

**

Гадзіннік спыніўся. У хісткім сутонні
Ляжу і ніяк не магу зразумець:
Зара пазалоціць маё падваконне
Ці ўвойдзе змрок ночы, халодны, як смерць?

А прыцемак золкі захраснуў на месцы.
І доўжыцца-цьміцца чыясьці крутня.
Гадзіннік спыніўся. І мне не даўмецца,
Чаго прычакаю: ці ночы, ці дня?

***

Хачу я ў дзіўнай краіне сноў
застацца навекі.
Ды ранак будзіць, і трэба зноў
расплюшчваць павекі.

Ісці ў калідор, прапахлы суздром
хлоркай і аміякам...
Хтосьці сказаў, між жыццём і сном —
розніцы аніякай.

## LXXII. СЛАТА

### *1. Бессань*

А за акном такая каламуць...
Аддаў бы ўсё, каб хоць на міг заснуць,
Бо не магу ўжо ні пісаць, ні піць,
І што не ўспомню — ўсё хачу забыць.

А за акном і ў хаце ні душы...
Паўзуць па шкліне кропляў мурашы.
І сам я ўніз спаўзаю, як мураш.
Хоць і не сплю, жыццё маё — міраж.

А за акном такая золь і слізь...
Мо закахацца здуру, як калісь,
У некага ізноў?.. Ды ціхама
Мне шэпча нехта з цемені: дарма!

### *2. Патоп*

Глузды разбухлыя. Аголеныя нервы.
А з неба воды льюцца без пярэрвы.
Заткнуць бы вушы або выпіць яд,
Каб заглушыць нямоўчны вадаспад.

Дзень не расплюшчвае вачэй зацеклых.
Ноч доўжыцца. І, бы ў атворы пекла,
Са спіны згорбленай засмечанага брука
Змываецца ўсё чыста ў зяпу люка.

### *3. Залатое руно*

Імжака млосная. Дакучлівыя бруі
Б’юць, як шпіцрутэны, аб непрытомны брук.
Пад мерны дробат, нудны перастук
Нясе сустрэчны вопратку сырую.

Усё не так, і валіцца ўсё з рук.
Каб спаць без просыпу, не трэба люмінала.
Зямля раскісла. Плоцьтравы паўстала
І атачыла саржавелы люк.

Зацменне розуму. Санлівая навала.
Ні бліскавіц, ні ўдараў перуна...
Ясон адмовіўся ад пошукаў руна,
Й Медэя ў злосці з іншым пераспала.

## LXXIII. ПРЫМРОІЎСЯ ГОРАД МНЕ МЁРТВЫ...

Прымроіўся горад мне мёртвы пад небам барвовым,
Разбураны горад, занесены цёплым пяском:
У крышанай цэгле віецца змяя паяском,
Па літарах згладжаных на камянях мармуровых.

Пад друзам асколкі багоў і герояў забытых
І роспісаў рэшткі... Іх колер ад часу звячэў...

І толькі дзве кветкі загадкавых сініх вачэй
На фрэсцы цвітуць і глядзяць задуменна з нябыту.

## LXXIV. ГАРАДЫ

### *1. Полацак*

*

Апоўначы, як аціхае гудзенне машын,
Калі засынаюць змарнелыя вуліцы й плошчы,
Ці чуеш ты, як капытоў набліжаецца пошчак,
Між гмахаў маўклівых ледзь чутны, ці чуеш, скажы?

Ці бачыш, як вершнік нырцуе ў тумане густым
На белым кані, у блішчастыя латы закуты,
І срэбна зіхціць на шчыце яго крыж шасцікутны,
І меч яго ўзняты, і мантыя ўецца, як дым.

Выходзь жа, пакуль яшчэ пошчак ціхі не заціх,
Пакуль яшчэ меч у нястомнай руцэ ён трымае —
Змарыўся ўжо вершнік, і толькі таму ён трывае,
Што зараз павінен, павінен цябе ён знайсці!

**

Калі пазалотай кране зараніца
Крыжы на бязважкім Сафійскім саборы,
Здаецца, узносіць ён рукі званіцаў
Да першае зоркі з маўклівым дакорам:

«Чаму я павінен, сябе колькі помню,
Няўмольна ўрастаць у здранцвелы пагорак,
Калі я бялейшы за светлую поўню,
Калі я так прагна імкнуся да зорак?»

***

*Валеру Слюнчанку*

Хвала вам, майстры-мастакі:
Як цуд, пад вашымі рукамі
Зноў ажываюць дрэва, камень,
З нябыту паўстаюць вякі.

Мінуўшчыну і ток жыцця
Вы лучыце — і са здзіўленнем
Мы бачым: спадчына, як Фенікс,
Уваскрасае з забыцця!

### *2. Гомель*

Сярод няўтуліцы дабітых і бязлікіх
Усходніх нашых гарадоў і гарадкоў
Ты, Гомель, мо адзіны з панталыку
Збіваў сваёй красой здзічэлых землякоў.

Камандзіраваных і ўсіх, хто выпадкова
Сыходзіў з цягніка на прывакзальны пляц,
Дзівіла старасвецкая Савецкай забудова,
І парк ангельскі, і з гадзіннікам палац.

І сам я ў парку, між дзівоснай флоры,
Упершыню ў жыцці са здзівам назіраў
(З мастка над сажалкай), як лебедзь белапёры
Без страху хлеб з рук чалавека браў.

### *3. Менск*

Ад псеўдахараства навачасных будынкаў,
помнікаў безназоўнага часу й спустошаных душ,
у твае, Траецкае прадмесце, старасвецкія абдымкі
я хаваюся, як у густую траву хаваецца вуж.

Чырвань тваіх дахаў будзе да скону зрок мне лашчыць,
і я ані зварухнуся нават і тады,
калі мяне ў тоўшчу асфальту ўтрамбуе асфальтаўкладчык,
пракладваючы новы й шырокі праспект у Нікуды.

### *4. Берасце*

У тайзе ніхто не плача,
У тайзе вавёрка скача,
У тайзе — багун ды мох.
Там не месца розным трантам,
Там дасюль палююць ханты
На мядзведзя, далібог.

Ягель там заместа ложка,
Расамаха замест кошкі,
І марошкі — не злічыць!
І нічога больш не трэба:
Трошкі солі, трошкі хлеба,
Ну, і стрэльба на плячы.

Дык бывай, мой горад хворы,
Спрэчкі марныя да зморы,
Непраглядная туга...
Бач, як хораша, што недзе
Ёсць марошка і мядзведзі,
І маўклівая тайга.

### *5. Калыханка Ружанскаму палацу*

Засынай.
Вечар сонца пяклівае выпусціў з рук.
Засынай.
Кажаны ў сутарэнні твае пахавалі зару.
Засынай.
Над раструшчанай брамай яны вострацць крылаў нажы.
Засынай.
Аб няісны пярсцёнак, які вакол поўні дрыжыць.

Засынай.
Яскі-знічкі, злятаюць з-пад крылаў на дол.
Засынай.
Заняпад, запусценне, здранцвенне, маўчанне наўкол.
Засынай.
У прадонні гадоў сам ты, нібы пярсцёнак, прыкметны
ледзь-ледзь.
Засынай.
У сяродку пярсцёнка святло, па-за ім — змрок і смерць.

### *6. Мірскі замак*

Ён каменны ад макаўкі да споду. Рэдкая поўсць скарлючаных бярэзінак і палыну пакрывае ягонае парэпанае цела. Вышчарблены, з пустымі вачніцамі і ашчэраным ротам чэрап — прытулак кажанам. Дзень пры дні па лёхах ягонага чэрава клыгае пануры грабар Копша. І ён чуе, як рыпаюць пад сцярожкімі Копшавымі крокамі струхлелыя падмоснікі-рэбры, як з ціхім шоргатам абсыпаюцца долу драбніцы цэглы, калі Копша сунецца па растрэсканым муры. Яму добра ў спёку, калі ўгары шчабечуць ластаўкі, а спадысподу гудуць чмялі і пчолы. Ён любіць, калі басаногая блазнота гуляе ў ягоных зморшчынах у хованкі. Імя ягонае — Заняпад. Другое ягонае імя — Адраджэнне.

### *7. Каложа*

Да камянёў глянцаватых, што ў плінфе шурпатай
Вясёлкава ззяюць на сонцы над нёманскай хваляй,
Рукой дакраніся — і, можа, адчуеш ты раптам
Тых рук цеплыню, што калісьці камень шліхтавалі.

### *8. Вільня*

*

Калі я пляц Катэдры прамінаю
І бачу, што на Замкавай гары
Нянаскі сцяг да гэтае пары
Над вежай Гедымінавай лунае,

Я іншы сцяг у смутку спамінаю,
Што там лунаць павінен угары:
Бялей ён ад бярозавай кары
І жычка ўсцяж яго перацінае.

Да сэрца краю, да красуні Вільні
Я зноў і зноў вяртаюся няўхільна,
Каб выліць, што пячэ мяне знутры:

Скажы мне, Вільня, хто твой сын законны?
Скажы, як разагнаць твой одум сонны?
Скажы, чаму маўчаць твае муры?

**

Акно расчынена. Гайдаецца фіранка.
Гладзь падваконня мройна льсніцца глянцам.
Сп’янелыя ад сонечнага ранку,
Буркуюць галубы на дворыку цагляным.

Даўней тут гнездзіўся стваральны дух Дзяржавы,
А сёння — спрэс музеі ды магільні...
Пара ўставаць. Духмянай выпіць кавы.
І патануць у гулкасонных нетрах Вільні.

***

Калі скрыгатанне, і грукат, і хрумст малацільні,
Што нашым завецца жыццём, дастае да нутра,
Адно застаецца — нырнуць у вадоймішча Вільні,
У плынь ейных вулак, у ціхую завань двара,

І мірсціць, што скрыгат далёкі нічога не значыць,
Хадзіць па кавярнях і крамках някідкіх цішком,
Пах кавы ўдыхаць, слухаць водгулле крокаў і бачыць
Бурштынавых пацерак цёплае ззянне за шклом.

****

Вострая Брама, атвор у нязвыклую глыб,
Дзе неафіт пачувае сябе, як на Марсе,
Ну, а заўсёднік утульнай кавярні, прынамсі,
Можа сядзець за ажурнымі кратамі шыб,
Каву смакуючы і пазіраючы на
Шыльду насупраць, якая цямнее на муры
Помніка вельмі далёкае архітэктуры,
І, не стрываўшы, міжволі ўздыхнуць: даўніна...

## LXXV. ЗНАЁМЫМ БАЛЬШАКОМ...

Знаёмым бальшаком паволі
Іду да колісь родных стрэх.
І дробны снег, каляны снег
Мне твар сячэ, сячэ да болю.

А збоку, на гарбе сумёту,
Каля разбуранай тарпы,
Крумкач, як чорны знак журбы,
Сядзіць, занураны ў самоту.

Звінеў і ззяў тут край маленства...
А засталіся толькі, бач,
Шмаццё саломы ды крумкач —
Маё жывое падабенства.

## LXXVI. РАКА МАЛЕНСТВА...

Рака маленства... Зноў я ў казцы:
Стракозы, мятлушкі, ставок.
Тут між гарлачыкаў на расцы
Скакаў пунсовы паплавок.

Былі — і не малыя! — шанцы
Дзіў-рыбу выцягнуць з ракі...
Клубком звіваліся ў бляшанцы
На скварным сонцы чарвякі.

Ты не змяніўся, краю цудны!
Рака. Ставок. Хлапчук-рыбак...
І толькі я ў бляшанцы будняў
Звіваюся, як той чарвяк.

## LXXVII. ПЕНАТЫ

Зноў я вярнуўся ні з чым
Да гэтых згнілых варот,
Скуль праз няўрод і нішчым
Паразбрыдаўся мой род.

Я ненадоўга, але,
Божа, які гэта жаль
Бачыць у стылай імгле
Сад, абляцелы амаль.

Божа, ад пунь і ад хат
Цягне такою жальбой,
Што застаецца няшмат,
Каб не пакончыць з сабой.

Божа, калі ўжо й мяне
Перст Твой, як яблык, страсе —
Хай яшчэ раз мільгане
Цень мой па цёмнай страсе.

## LXXVIII. ШПАК

*

Пустадомак, пустамеля:
Дзілі-дзілі, дзенна-дзень.
Дзе рука, што мякка сцеле?
Дзе дамок твой? Дзе агмень?

Час мінуўся залаценькі.
Счах агмень. І ўсё часцей
Чую плач я ценькі-ценькі
Ненароджаных дзяцей.

**

Прасвістаў я, быццам шпак,
Дарагое-залатое,
І жыццё маё, што гляк —
Аж да дна наскрозь пустое.

І ляціць душа туды,
Скуль вяла яе дарога:
Да палёўкі-лебяды,
Да гарлачыка рачнога.

## LXXIX. МАГІЛЫ

*

Блізка суніцы ля губ залацяцца.
Прагну я спелыя ягады пакаштаваць.
Ды не магу варухнуць нават пальцам:
Столькі пяску нагарнулі — не ўстаць!

**

О закаханыя, не абмінайце грудок:
Ляжце між красак на чысты і мяккі пясок
І абдыміцеся... Холадна ў цеснай труне —
Целаў сваіх цеплынёю сагрэйце мяне.

***

Нудзіўся калісь людзьмі і ўцякаў да прыроды.
І вось, як бачыш, уцёк да яе назаўсёды:
Праз мае рэбры — трава прарасла,
Праз мае вочы — вада працякла,
Праз мае вушы — змяя прапаўзла.

****

За мляўкі пах той цёмнай мяты,
Што зелянела каля прызбы,
Я камяні ўсю вечнасць грыз бы
І тоўшчу гліны гроб зацята.

*****

Мы — шолах задумны нябачнага ў змроку лісця.
Мы — водбліскі вогнішча, што адгарыць неўпрыцям.
Мы — толькі трысцінкі вакол жарала небыцця,
Што хіляцца долу і з вечнасцю прагнуць зліцця.

******

Праз шквал неразбярыхі,
Празь несусветны гвіл
Я чую сёмым слыхам
Узмахі лёгкіх крыл
Тых, хто ў імгле тунэля
Спяшае да відна
З расхлістанай пасцелі,
З калодзежнага дна.

## LXXX. ТРЫПУТНІК

### *1. Вецер і дрэва*

Ты, вецер, навошта мой боль невылечны
Вярэдзіш, лунаючы ў слабкіх галінах?
Навошта спяваеш мне песні пра вечнасць,
Калі я ўсё роўна вярнуся да гліны?

Навошта нашэптваеш мне пра збавенне
У выраі светлым ад горкай пакуты,
Калі я намёртва глыбокім карэннем
Да грэшнай зямлі, быццам вязень, прыкуты?

### *2. Мяжа*

Дык ці праўда, што за той мяжой,
Што разводзіць мёртвых і жывых,
Я аблічча страчу? І няўжо
Буду толькі гноем для травы?

А мо ўсё ж нязведаны абшар
За таемнай рысаю зіхціць,
І туды, як мятлушка, душа
З цела спарахнелага ўзляціць?

Ну а што, калі там — змрок скразны,
Дзе я буду — сам сабе чужы —
З болем згадваць кожны крок зямны
І па раі страчаным тужыць?

### *3. Язмін*

Я тут абмінаю квітучы язмін,
Нібы пракажоны, каб толькі не бачыць
Бялюткую квецень ля цёмных хацін,
Бо пах ейны ўчуўшы — ад жалю заплачу.

Я тут пралятаю імклівай стралой
Над шорсткім лісцём асакі і аеру,
Каб толькі іх шолах не чуць пад сабой,
Бо ўзвыю, пачуўшы, параненым зверам.

Навошта краёў незямных пекната
Нагадвае страчаны свет чалавечы?!
О, лепш немата, глухата, слепата!
О, лепш зледзянелая пустка ў цямрэчы!

## LXXXI. МОСТ

Настане дзень — і сонца згасне
(як ні шкада).
Заледзянее ў адначассе
кроў і вада.

Паветра зробіцца ад сцюжы
цвярдым, што мост:
Па ім да Новай Зоркі душы
сыдуць наўпрост.

## LXXXII. КРАІНА НОЧЫ

Ці помніш, як, зусім яшчэ малеча,
Замёр ты перад безданню сінечы
І недасведчаным празрыстым зрокам
Сачыў за лётам зменлівых аблокаў?
Ты пасміхаўся, і наяве крозіў,
І мружыў вочы, і не мог адрозніць
Ад бездані нябёсаў іх адбітак
У люстры прывіднай прадонняў прагавітых...
О, дзіўны свет, развагай некрануты,
Даверам і няведаннем акуты!

І вось ты тут, пад тоўшчаю скляпення,
Дзе ледзьве цьміцца дзённае свячэнне,

А доўгія глухія калідоры
Ніколі не выводзяць да прасторы.
О, як ты не жадаў пераўтварэнняў
У цемрадзі бязвыйсных сутарэнняў,
І раздзімаў, і лашчыў згаслы прысак
Калісь жывых абліччаў і абрысаў!
Ды ведаў жа спахоўна — не ўтрымацца.
Слабелі рукі. Пруцянелі пальцы.

У чэраве гнятлівага паўзмроку
Пудлівым рэхам аддаюцца крокі.
Тугой смяротнай цягне ад камення.
І прадчуваеш ты — няма збавення.
Але ж зацяўся і не можаш звыкнуць,
Што мілата жыцця дашчэнту знікне.
Ды, ідучы па лёхах без аглядкі,
Раптоўна палатнееш ад здагадкі:
Усе шляхі, адхоны, адхіленні,
Як ні ідзі, вяртаюць пад скляпенні,
Дзе плоймы кажаноў жывым кілімам
Варушацца над ржавымі дзвярыма.

Ад дотыку — бязгучна і паволі,
Нібыта ў край жаданае патолі,
У зніклы край пяшчоты і даверу —
Спагадна разнасцежыліся дзверы.
Ты помніш: ад дзвярэй да далягляду
На вапняку стаяла калюмнада
Фігур людзей, маўклівых, і панылых,
І нерухомых, і сівых ад пылу.
Сляпое сонца, быццам ненарокам,
Высвечвала іх постаці са змроку...
Ды цень пакуты ты вышукваў марна
На скамянелых рысах мёртвых твараў:
З-пад цвілі ад прасветленых усмешак
Спакоем павявала нетутэйшым,

Нібыта, развітаўшыся са светам,
Яны знайшлі нязнанае дагэтуль.

У цішыні, у прыцемку панурым
Ты абмінаў здранцвелыя фігуры
Калісь жывых, хто жыцці, як адзежы
Апрыкрыя, паскідвалі з усмешкай.
І тут знячэўку з-пад глухіх скляпенняў
Абрынулася хваля песнапення:
«Народжаны пад сонцам знаць павінен:
Хто хоча ўратавацца, той загіне,
А хто загіне, той у паслясмерці
Сябе праз роспач і пакуты сцвердзіць!»
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ці помніш у суладным песнапенні
Ледзь чутнае падступнае сіпенне?
І німб гадзюк над нерухомым тварам,
Прыгожа-жудасным, бліскучастае пачвары?
І як з вачэй яе зіхнулі промні?
Ці помніш ты? Ці помніш?!

## LXXXIII. ЛАЎКА Ў СТАРЫМ САДЗЕ

Я знаю замшэлую лаўку ў старым, акінутым садзе,
Не бачна яе за высокай травой і густым лісцём,
Аднак калі хто выпадкова патрапіць у сад і сядзе
На лаўку — дык перайначыць дазвання сваё жыццё.

Не тое каб страшнае нешта здарылася ці штосьці
Таемнае адбылося — проста ў нутро, спаняволь,
Халодная ліне пустэча, праб'юцца парасткі млосці,
А скроні сціснe нязнаны ніколі дагэтуль боль.

І можна не знаць, што прычына нязводнай хваробы — лаўка,
І можна ведаць пра тое... ды ніякі ўжо алкаголь,

Ніякае ўжо каханне, ніякая ў свеце забаўка
Не вытравяць той пустэчы, не змогуць суняць той боль.

Боль будзе з табой паўсюдна, пустэча будзе, як п’яўка,
Высмоктваць цябе і ў пекла тваё ператворыць жыццё...
Я знаю ў закінутым садзе адну замшэлую лаўку,
Не бачную за высокай травой і густым лісцём.

## LXXXIV. КУФАР

Так было: я ў сябе зазірнуў,
Быццам хто века куфра піхнуў.

Думаў, скарбаў адкрыю тайнік,
А адкрыўся смуродны гнайнік.

Думаў, Боскае ўбачу святло,
А там сыкала гадаў кубло.

Думаў, ёсць хоць на дне прыгажосць,
А знайшоў раздражненне і злосць...

Апусціце свінцовае века
І замкніце нутро чалавека!

## LXXXV. БЕЗДАНЬ

Ступіў у бездань я, утаймаваўшы жах,
І свішча вецер у мяне ў вушах.

Надзьмулася кашуля пухіром,
І цемра стала мне павадыром.

Я варушу губамі, як быццам завадны,
Але з іх не злятае ніводны гук зямны.

Ніводны твар, ніводны відарыс
Не замінае больш падзенню ўніз.

Уніз ці ў вышыню, гадаць дарма —
Няма ні цемры, ні мяне няма.

А толькі хісткае, няпэўнае святло,
І ціша крохкая, і кволае цяпло.

## LXXXVI. ПУСТКА

Бязмоўная пустка. Як светла й бяздомна.
Да неба — зынелыя мхі
Пад выстылым сонцам. І стук непрытомны,
Стук сэрца далёкі, глухі.

Гэй там, хоць хто-небудзь, скажыце мне, дзе я?
Як я апынуцца тут мог?
Ціхмень. Толькі сонца згасальна ірдзее
На срэбры, што ўсыпала мох.

А, зрэшты, навошта я кленчу ў адчаі:
Ці ж гэтага мала, што тут
Няма аніводнай травінкі звычайнай,
Сумненняў няма і пакут?

## LXXXVII. ХАЎТУРНАЕ ШЭСЦЕ

Хаўтурнае шэсце... Які незвычайны абрад!
Яшчэ пабываць на такім мне пашэнціць наўрад!
Чацвёра шыкоўных жанчын ва ўборах на модны крой
Нясуць на насілах нябожчыка пад прасцінай
Калёру мімозы — калёр улюбёны мой!

Як светла, як цёпла, хоць голле ахутала інь,
На могілкі суправаджаць гэтых юных багінь!
Замест удаванага плачу нязмушаны смех,
І рухі павольней, чым гэты няспешлівы снег...
Будзь Ноем — іх толькі і ўзяў бы з сабой на каўчэг!

Над радасным шэсцем зялёны ўзышоў маладзік.
Я ведаю: пад прасцінай мой дакладны двайнік!
Шчаслівы, ён жыў у каханні, пакуль не суціх,
Ён зведаў пяшчоту й пажаду усіх чацвярых!
І я б, далібог, калі б мог, дык кахаў толькі іх!

Шчаслівец! Яго сярод іншых абралі яны!
Ён быў уладальнікам царсцвеннай іх галізны!
У іхніх абдымках не раз засынаў ён без сіл...
А мне не абняць іх, бо рукі мае — пара крыл,
Бязважкіх... І трэба спяшацца ўжо за небасхіл...

## LXXXVIII. ЧОВЕН ХАРОНА

І вось другі ўжо бераг шэры неўпрыцям…

*Наталля Арсеннева*

*

Я змантачыў усё абы-дзе, абы з кім, абы-як
І ў спацелай далоні апошні трымаю мядзяк.

Я б збяёдаў яго, ды пахмуры Харон не анёл:
Усё роўна — круці не круці — а спагоніць абол

За правоз у гаючую цішу, жаданы суцём
З дасканалага пекла, якое завецца жыццём.

**

Плыву я ў Харонавым чоўне ўцямне
Па чорнай роўнядзі спячай,
Гляджу на ваду, й непамысна мне,
Што твару свайго не бачу.

Ды ўсё ж, пакуль знізу плюскоча рака,
Я ў плынь узіраюся, быццам
Мне трапіць на вочы крыло матылька
Ці трэска з кропляй жывіцы.

***

Калі жыццё нашчэнт згалее,
Бы ўвосень голле ржавых крон,
Харон на чорнай шугалеі
Звязе мяне за Ахерон.

Ды, стаўшы ценем, у імгле я
На беразе расстайным зноў
Зляплю сабе з рачнога глея
Людзей, і птушак, і звяроў.

## LXXXIX. АФРАДЫТА

*Л. Ш.*

### *1. З Аль Кітаб*

ЦІХА, СЭРЦА МАЁ —
хай салодкім табе будзе момант расстання.
Хай не смерцяю ён для цябе —
давяршэннем цудоўнага стане.

Хай любоў расплывецца ўспамінам,
а боль — хваласпевам.
Хай у неба лёт скончыцца й стуліць
магутныя скрыдлы над дрэвам.

Хай цалунак апошні твой будзе
лагодны, бы ўночы фіёлка.
Супыніся — канчатак дзівосны,
й маўчаннем апошняе вымаві слоўка.

Прад табой я схіляюся ў нізкім паклоне
й мой светач угору
Падымаю — няхай ён табе
шлях у прышласць азорыць.

### *2. Эльдарада*

мужчынаў звада
бляск Эльдарада
поціск Сіндбада

пакуль мы дужым
пакуль мы рушым
няймецца ружам

ах ружа-краска
бляск скарбаў казка
збоч калі ласка

цярушыць горыч
а ружа поруч
сам збоч Ягорыч

рэж жылы ў ванне
бо ружа вяне
су-дакрананне

### *3. Соль*

Смерць-кастуха мне ў вуха пяяла курну.
Так нядобра было — думаў, неба лізну.

Ды на ўскрайку стала, без святла, без цяпла,
Паўжывая раслінка ўзяла зацвіла.

Бедны ўбор ейны сэрца кальнуў — агарнуў
Мяне жаль, і я з губ кроплю солі злізнуў.

— Ты чыя і з чаго, запытацца дазволь?
І адкуль на губах у мяне гэта соль?

— Нічыя... Хтось зляпіў мяне з жалю начэй...
Ну, а соль на губах — гэта слёзы з вачэй.

### *4. Страчаны Рай*

Я кажу: зжоўклых дрэў пазалота
нагадала мне Страчаны Рай
гэтак востра, што жыць неахвота!
А яна: памірай...

Я кажу: столькі золата й медзі
сыпануў сёння час-скупярдзяй
мне пад ногі, што можна памерці!
А яна: памірай...

Я кажу: без пяшчоты так хутка
змізарнеў гэты свет, што, бадай,
можна ўзвыць і памерці ад смутку!
А яна: памірай...

Я кажу: я адзін тут... дык хто ты,
што ўжо пхнеш мяне за светакрай?
А яна: я твая Адзінота —
*я* кажу: «памірай»...

### *5. Салодкая грызь*

Я не кратаю болей пачуццяў струну —
Я пішу, як цвікі забіваю ў труну.

Бо дарэмныя высілкі вуснаў і рук,
Шэпт гарачы і сэрцаў глухі перастук.

Бо не сыціць пажады салодкая грызь,
Бо што сёння — «цяпер», будзе заўтра — «калісь».

Бо пачуцці — відмо, а каханне — вайна...
— Гэй, вінарка Самота, налі мне віна!

### *6. Бель*

Адчыніць прадухі водныя
Злунелы, як свет, Ілля,
І зрынуцца бруі халодныя,
І захлынецца зямля.

Спрытнейшыя вымкнуць, адкупяцца
І, сеўшы на яхты-плыты,
Сплывуць будаваць на купінах
Свет без такіх, як ты.

Калі ж завіруюць, запеняцца
Хвалі ў тваім акне,
Твар Афрадыты-тапельніцы
Няземскаю беллю ўлякне.

### *7. Пакаёўка*

Ніхто ўжо ноччу не шапоча:
Ты — недасяжнае красы...
У развітальныя часы
Ніхто ўжо не цалуе ў вочы.

Не Афрадыціна галоўка
Шчакою на тваім плячы,
А злая Бессань-пакаёўка
Сярдзіта тупае ўначы.

### *8. Дотык*

Запомні гэты пах,
Бо там, дзе будзеш потым,
Усё будзе не так —
Не абальешся потам.

І, тонучы ў вірах,
Далёкіх ад эротык,

Запомні гэты пах,
Запомні гэты дотык.

## XC. ПАРА ПІЦЬ ГАРБАТУ

На кухні суха чыркнула запалка.
Фаерка зацвіла агню фіялкай,
Ліловаю, як той нязводны смутак,
Што каранямі ўпіўся ў наш закутак.
Сіпіць гарбатнік — хутка закіпіць.
Пара ўставаць. Пара гарбату піць.
Пара туды, дзе каміны заводаў
На шэры небатвар кладуць куродым,
Нібы актору зморанаму грым...
Мы хутка адпалаем, адгарым...
Дай Божа ўсім у царстве цэглы й сталі
Той злагады, якой мы не зазналі.

## XCI. РОДНЫЯ ДЗЕЦІ

### *1. Анёл*

*Л. М.*

Мой анёл, белакрылы мой кат,
Столькі год пад тваёй я апекай,
Столькі год пагражаеш мне пеклам...
Ды ў свой «рай» мяне возьмеш наўрад.

Жорсткасць вуснаў і погляд ва ўпор:
Ты катуеш мяне без супыну.
Я кажу: «Мне даволі, я гіну...»
Ды стэрыльны заўжды твой убор.

Бачу спрэс яго бель-чысціню,
Што пануе над светам убога...

Царства Бога без каліўца Бога
У кашмарах страхотлівых сню.

### *2. Іголка*

*Л. С.*

У метрах выстылых кватэры
Ужо не клічуць да вячэры,
Ужо пракрумкаў крук «дарма».

Ты не заснула... а на золку
У ложак гострую іголку
Уткнула й выйшла ціхама.

### *3. Паняверка*

*М. М.*

Ты паглядзі, кім стала ты цяпер...
Баішся нават глянуць у люстэрка,
Бо ў поглядзе тваім стаіўся сумны звер,
Якога не прагнаць, а клічуць — Паняверка.

Ты моліш усю ноч: «Сыдзі, шалбер,
Я сукню белую хачу дастаць з куфэрка
І стаць ранейшай...» Ды не ўходзіць звер,
Падступны звер з мянушкай Паняверка.

Ты кажаш: «Мне нязносны твой ашчэр!
Каб ты мне ў вочы не глядзеў, я разаб'ю люстэрка!»
Разбіла... ды смяецца кпліва звер,
Найгоршая з хімер, нязводны Паняверка.

### *4. Чужая*

*Я. М.*

Ты кажаш, што з табою мы чужыя...
А гнуткая, як у лілеі, шыя?
А тонкая, як у казулі, косць?
Сум у вачах і незямная прыгажосць?

Твой свет вузенькі, як твая сукенка,
Бліскучы, жорсткі, як у воку зрэнка.
Каб быць не мной, ты, як і я, адна...
Чужыя мы, бо кроў у нас адна.

### *5. Пацяпленне*

*М. Т.*

Цяплынь. Вясна. Хоць лютага пачатак.
Унучцы Маі можна без пальчатак
Кранаць усё наўкола прагнай ручкай...
Мне ж, дзедабогу, пільнаваць унучку.

Кажу, каб штось казаць: «Няма збавення —
Глабальнае надходзіць пацяпленне,
Яно зыначыць агарод і сад,
Замест агрэсту звісне вінаград».

Што? Вінаград? Дык жа яно — жывое!
Вітае Мая ўсе суздром павоі.
А мне ўсміхацца, тоячы нуду...
Як хораша, што хутка ўжо сыду.

## XCII. КУКАБАКА І ЖАЛЕЗНАЯ БАБА*

Няма ў паданні першага абзацу,
Як Кукабака страціў хату й працу...
Кашэль пусты ў кішэні ён памацаў
І на прыроду вырашыў падацца —
У зарасці акацый за палацам.

(Я неяк з Кукабакам гаварыў,
Калі ён бульбу ў казанку варыў.
Ён, покуль чорная трывала паласа,
Каб не забыць, што ў свеце ёсць краса,
Чытаў Хаяма вершы і Сыса.)

Ён не цураўся сваёй новай долі,
Збіраў пустыя пляшкі ў наваколлі,
Здаваў і меў хлеб-соль і да хлеб-солі...
Ды неяк раз свае занёс ён драбы
Ва ўзорны агарод Жалезнай Бабы.

Глядзіць: парадак навакол і лад.
Часнык з цыбуляй вызіраюць з град.
Пад лісцем хрумсткія прылеглі агуркі.
Буяюць боб, і кроп, і буракі.
Цвіцеюць бульбы роўныя шнуркі.
І цешаць вока гарбузоў бакі.

І Кукабака ўзяў без дай прычыны
З чужой разоры выдраў часначыну
І ўжо хацеў сыходзіць мірна, чынна —
Ды тут пачвара ў постаці жанчыны
Яго чапнула крукам за бачыну.

Шырокі да яго сланечнік-твар
Наблізіла, што ззяў, як самавар.
Нягеглая, ды моцна шчэ сваймі
Жалезнымі прыціснула грудзьмі,
Сказаўшы: «Не тамі — лепш абдымі!

* Жалезная Баба — міфалагічнае стварэнне, агародны дух.

Жыву адна я ў ладнай шчэ халупе.
А ты, бач, тужыш па гарачым супе.
Капацьмем агарод цяпер укупе.
Калі ж пасмееш штось казаць насупар,
Стаўку цябе ў сваёй жалезнай ступе!

А што да вершыкаў Сыса й Хаяма —
Чытай... Я ж хоць пачвара, але *дама*».

## XCIII. ДВОРНІК

Надараецца, жахам агорне
Ад таго, што яшчэ не памёр...
Ды са здзівам пачуеш, як дворнік
Ачышчае заснежаны двор.

Звыклы лад пахіснуўся, пажухлі
Усе веры й атожылкі вер —
Толькі дворнік шкрабе сваім шухлем
І тады, і заўжды, і цяпер.

Ён адкідвае да агароджы
Снег наносны і сыпле пясок,
Каб не ўпэўнены ў заўтра прахожы
Паслізнуцца не мог неўзнарок.

## XCIV. НОВАЯ ЗЯМЛЯ

### *1. Расколіна*

У багне, разбэшчанай багне,
Што мглой забівала раты,
Скажыце, ну хто з нас не прагнуў
Разжыцца драбком яснаты?

Скажыце, ну хто з нас не марыў
Хоць вокам адным зазірнуць

Туды, дзе ўжо не валадарыць
Зрудзелай дрыгвы каламуць?

І вось жа настала хвіліна,
Што гэтулькі снілася нам, —
І свет раскалоўся, як шкліна,
Не змогшы брыды, напалам:

Направа — сябры-аднадумцы
Да зор неспазнаных ляцяць,
Налева — паскудныя людцы
У курчы смяротным хрыпяць...

Ды вось жа якая прыгода:
Так глыбака ўелася мгла...
Расколіна тая не воддаль —
Праз сэрца маё пралягла.

### *2. Пята*

Для тых, хто вырас пад Пятою,
Прыйшло адхланне залатое
І можна спіны разагнуць
І ў зоркавы абсяг зірнуць.

І мы глядзім туды, ды ўпотай
Шукаем там абрысы Бота:
А раптам вернецца Пята
І мы пачуем трэск хрыбта?

### *3. Карма*

Мо проста так, а можа, воляй кармы
Я вырас там, дзе пляц каля казармы
Збіраў без лішняй панікі й мітрэнгі
Адзінаверцаў у калоны і шарэнгі.

Таму, калі той самы люд гурбою
Прэ сёння ў цэркву новыя з бажбою

І там галосіць слёзна і працяжна,
Я чую... сталь хароў чырванасцяжных!

### *4. Кукабака і праваабаронца*

Ёсць анамальныя на земскай кулі зоны,
Дзе лёгкія чаўрэюць без азону,
Дык, стуль вярнуўшыся у родныя Расоны,
Вандроўнік Кукабака з парасонам
Шпацыраваў падоўгу ў дождж і град,
Калі ў паветры так азону шмат.

Дык з земляка дзівіліся расонцы...
І запытаў адзін з іх (акурат
Пасля таго, як навальніца адгрымела):
— Чым бавішся цяпер, вандроўнік смелы?
— Ды вось гляджу на зіхаценне сонца
У лужыне... А ты што робіш, брат?
— Не чуў?! Я — знаны праваабаронца
І дэмакрат!

### *5. Журба*

Пустэльня навокал, хоць справа
І злева — паўсюль барацьба,
Ды ў тлуме ўсіх праўдаў яскрава
Адна толькі свеціць — журба:

Якія б ні бухалі маршы
І што б ні ўслаўлялі ўзахлёб,
Яна ацалее і ляжа
Пасмертнаю маскай на лоб.

### *6. Сцяна*

*

А што калі пакінуць гэты міг,
Сярпаста-малаткастай касце тых,
Што ўладаю над намі ганарацца?
Пакінуць імі занядбаны свет
І адысці на золку неўпрыкмет
Туды, дзе нам захочацца застацца?

Атрэсці іх, як пыл, з усім майном,
Нажытым удыганнем і маной,
І з іхнім ад нарога і да дышла
Спадлелым ладам, дзе смурод гнілля
Паўзе з крывавазорнага Крамля...
І адысці, узяўшы толькі прышласць?

**

Ці на месцы стаю, ці брыду наўздагад —
Ты паўсюль гэткі самы, мой свеце нягеглы,
Тут, куды ні павернеш, прыходзіш назад
Да дратоў, разапнутых на чырвані цэглы.

Тут адзіна: ўцякаць ці стаяць на пасту,
Углядацца ў далёкасць ці змружыць павекі,
Бо ўсё роўна не зойдзеш, куды ні прастуй,
У той край, дзе захочаш застацца навекі.

### *7. Малітва*

Часе ты наш навазорны,
Ты ў нас такі бездакорны
І працавіты млынар!
Дзякуй, што мелеш не зёрны
На хлеб нам надзённы, а горнеш
Нас, сваіх любых ахвяр
У жарало ненажорных

Чорных, скрываўленых жорнаў,
Каб новы спячы з нас штандар:
Чорна-чырвона-чорны!

**XCV. ПАВОДЛЕ АМАРА ХАЯМА**

***1. Шклянка***

Пачнема так: была ў мяне жанчына,
Але сышла... І гэта ёсць прычына
Таго, што я ў руцэ трымаю шклянку,
Трапляючы раз-пораз у гайданку.

Закончым так: была ў мяне каханка.
Замест яе ў руцэ пустая шклянка.
І не згадаць — так памяць замяло —
Што (шклянка ці каханка?) перш было.

***2. Салавей***

Найлепшае, што ёсць у свеце наскім —
Піць таннае віно на ўлонні гожым майскім
Каля зялёнага стаўка пад рослым дрэвам,
З якога салавей нямоўчным цешыць спевам.

Найлепшае... бо нездарма адранку
Я тут не першую ўжо наліваю шклянку
Нястоме-спеваку, захраcламу ў галлі,
Што просьма просіць у мяне: налі-налі-налі!

***3. Залева***

Каўтнуўшы троху з пляшкі для сугрэва,
Схаваўся ад залевы я пад дрэва,
І поплеч стаімо: я на нагах,
А дрэва на магутных каранях.

І хоць халодныя казычуць шыю кроплі,
Я шчасны, што пакуль жывы і цёплы...
А вы, хто глінай засланіўся ад залевы,
Скажыце мне цяпер: адкуль вы? дзе вы?

### *4. Забыццё*

Я покуль цёплы і жывы, а хто пакрыты
Пяском і глінай — той даўно забыты.
Але ж і я, перад парогам забыцця,
Не прагну сабе вечнага жыцця,

Калі мяне, старэчу-патарочу,
І смерць забудзе, і жыццё не схоча...
Дык жа каўтну віна яшчэ раз з пляшкі,
Каб скон мой быў, як сон, — апошні і няцяжкі.

### *5. Сімвал*

У завірусе пуху ад тапаляў,
Дзе, мусіць, згінуў аўтар «Алкаголяў»,
На падваконні ля раскрытага акна
Стаяла шклянка недапітага віна.

І вось яны сышліся ўрэшце ўдвух:
Віно на сподзе, зверху лёгкі пух,
Чырвань віна п’янкога й пуху бель
Як сімвал, што жыццё ёсць толькі пух і хмель.

### *6. Абрыс*

Што ж, буду піць віно із тапалёвым пухам
За светлыя галовы моцных духам,
Хто ў бедах-скрухах не губляе розум,
Цікавым застаецца і цвярозым.

Я й сам, калі б прыймеў хоць трохі часу,
У іхнюю б патрапіў, пэўна, расу...

Ды мне пара ўжо выпраўляцца за абрыс,
Дзе знік Амар Хаям і Анатолі Сыс.

### *7. Лёд*

Чаму я п'ю віно? Калі б не піў бы,
Дык лёд быцця наўрад ці растапіў бы,
Лёд, што няўзрушнай глыбаю ляжыць
Над тым, што рымсціць ува мне спяваць і жыць.

І хоць той спеў — у цемрадзі жалейка,
І хоць жыццё — узмах адзіны вейка,
Але ж якая гэта насалода —
Іх зварухнуць на мірг пад глыбай лёда.

### *8. Штыблеты*

Пыліцца мой, не ношаны, у шафе фрак,
І з фільцу капялюш не згодзіцца ніяк,
А ёсць яшчэ ў мяне дыхтоўныя штыблеты,
Якія не абуў ні разу я праз лета.

Бо некуды ісці, дакладней, неахвота.
Калі я тут адзін, дык і паўсюль — самота...
Ну, а ў віна, што п'ю, той самы корсткі смак,
Як ты яго ні пі: ў штыблетах або так.

### *9. Панарама*

Калі ад пусціні быцця на сэрцы цяжка,
Ёсць у мяне заўжды напагатове пляшка
Чырвонага віна. Яго, за шклянкай шклянка,
Я п'ю, і свет наноў — цацанка-абяцанка.

Канчаецца віно — і зноў я ў пусціне,
Што дух мой удвая мацней гняце і гне.
Чаму ўдвая? Дык вось жа панарама:
У цэлым свеце пусціня, і ў пляшцы гэтаксама.

### *10. Прыцягненне*

Калі па пляшку зноў выходджу з дому
І патрапляю ў свет, няўстойліва-цякомы,
Як плыні рэкаў грэка Геракліта,
Штохвілі іншыя, што зносяць да нябыта,

Я адчуваю ў зменлівай прасторы
Тое адзінае, што мне дае апору, —
Моц прыцягнення, бо яна адна
Мацуе цела да зямлі, а дух мой — да віна.

### *11. Цвет і лісце*

Распалены мінуўшы тратуар,
Прысеў на лаўку я й падставіў твар
Пад рэдзенькі капеж крапліц, што сыпаў
З цвітучых ледзь прыкметным цветам ліпаў.

Ах, ліпы зацвітаюць вельмі позна...
Ды знак дае іх цвет, ад лісця неадрозны,
Каб sms дачцэ я не пісаў у Ніцу,
Што лісце ліпаў елі ў галадніцу.

### *12. Пастухі*

Віно такое: варта прыгубіць —
І ўжо без спыну будзеш піць і піць,
Каб не вяртацца ў чалавечы гурт,
Пастух якога — Жорсткасць і Абсурд.

Аднак знутры хтось супярэчыць: «Годзе!
Абсурд і Жорсткасць — у самой прыродзе.
Нават віно — і тое не сябрук:
Напоіць і збівае з ног на брук!»

### *13. Крывізна*

Так, жорсткасць і абсурд суздром, але
Паўвыпітую шклянку на стале
Можна назваць напалавіну поўнай,
Крывізну ж назавём няроўнасцю чароўнай.

І першы жаўталіст у зеляніне дрэваў
Не сведчыць пра канец птушыных спеваў,
А шклянка, з якой п’ю, і пагатоў
Не азначае, што не будзе поўнай зноў.

### *14. Смага*

Каб быў я пчолкай, дык грызнуў бы воску —
Двухногіх смага гоніць да кіёску,
Дый там, за грош астатні пляшку піва
Узяўшы, прэч адчальваю імкліва.

Бо пад кіёскам люд калісьпрацоўны
Стаіць на варце, лютай смагі поўны,
І спакушае кожнага, хто смагне,
Зноў пабалохтацца ў густой і цёплай багне.

### *15. Ногі*

Дык вось і я прыстаў... Прысяду ля дарогі
І вып’ю за спружыністыя ногі,
Што гэтак доўга вобмацкам і бежкі
Мяне вялі па рытвінах і сцежках.

Тут хораша. Лагодны ветрык вее.
Цікуе васілёк, як жыта палавее.
І шэпчуць каласкі: «Спяшаўся ты дармо.
Лепш прычакай — мо прыйдзе штось само».

## XCVI. ПАХМЕЛЛЕ

### *1. Настальгія*

*Уладзімеру Коласу*

Паглядзі: над дахамі горада
У вячорнай дажджыстай імгле
Возіць хохлікаў баба Каргота
На сваёй абтрапанай мятле.

Прыкра. Мокра. Імжака цярусіць
Усю ноч... А яна — хоць памры! —
«Мы беларусы з братняю Руссю»
Гугнявіць з хохлікамі да зары.

### *2. Трыялет*

*Анатолю Сысу*

Бусліха яйкі на страсе нясе.
Спаўзаюцца вужы на санцапёкі...
Там, дзе мае пачаткі і вытокі,
Бусліха яйкі на страсе нясе.

Зноў кожны сук і струк абселі цмокі...
Дык паўтарай, пакуль не спіўся пакрысе:
Бусліха яйкі на страсе нясе.
Спаўзаюцца вужы на санцапёкі.

### *3. Імгла*

*Сяргею Дубаўцу*

Мова, на якой я гаварыў,
Не прыступка ў прышласць, а абрыў.
Не бальсан, не светач, не агонь,
А дубінка ў плечы, куля ў скронь.
Толькі плакала, стагнала і гула,

Ды змяніць нічога не змагла
І нікому не дапамагла...
— Імгла...

### *4. Віно дапітае...*

*Алесю Зайку*

*

Віно дапітае, а грошай больш няма...
Тут непярэліўкі, і там усё старчма.
Дык калі дрэнна так і там, і тут,
Скажыце, дзе ж ён, дзе, мой родны кут?
Скажыце, дзе такая прыстань ёсць,
Куды сплывае жарсць і прыгажосць?

**

Віно дапітае, і ноч ідзе на спад.
Зноў зацвіце калёраў дзівасад
І зноў мяне абудзіць і пратне...
А мне б ляжаць у цемрадзі на дне,
Бо я заўжды на ўскрайку і наўзбоч,
І мне пасуе, калі побач ноч.

***

Віно дапітае, і шклянка апусцела.
І спатыкнулася душа аб цела...
І Бог мяне выводзіць за парог,
Дзе бацька толькі што каня запрог
І ад'язджае па двары да брамы,
Мне азірнуўшыся, у край нязнамы.

### *5. На Новы год*

> Няма з кім радзіцца, не скажаш анікому:
> Той знае, ды маўчыць, не веру сам другому…
>
> *Янка Лучына*

У пройме акна толькі бляскі
Ды дым ад чужых феерверкаў.
Адслухаў я ззяйныя казкі
Пра скарбы адмкнёных куфэркаў.

І век мой якісьці нясрэбны,
І сум мой якісь незнікомы...
Нікому ніхто непатрэбны,
Ніхто не дасць рады нікому.

## XCVII. ГАСТАРБАЙТ

### *1. Матрац*

Так мала грошай і так многа працы...
Таму й ляжу на выцертым матрацы,
Сярод шумецця, як узбек той ці кіргіз,
Які ад крыўды кожнага б тут згрыз.

Ды ў іх ёсць Фергана і Ісык-Куль,
А я сюды прыехаў ніадкуль,
І пляшка таннага віна ды спадысподу вата —
Адно, што мяне розніць ад прымата.

### *2. Васілёк*

Стракочуць зычна конікі ля ганку
Салона прыгажосці, дзе ад ранку
Дзяўчына з вёскі беларускай Петракі
Наколкі робіць і праколвае пупкі.

А недзе там лагодны ветрык вее,
Сінее васілёк і жыта палавее...
І ў забыцці выколвае рука
Замест пачвары кветку васілька.

### *3. Сіндбад*

Скажы мне, самотны Сіндбад-мараплаўца,
Ты ж марыў застацца калісь назаўжды
У белым ад ззяйнай сланоўкі палацы
На жоўтым пяску каля сіняй вады?

А тут жа ніводнай салёнае пырскі,
Сланоўкі й ядвабу няма й пагатоў:
Замест адаліскі паненка з Сімбірска
У брудныя міскі накладвае плоў.

А, зрэшты, я й сам не ўтрымаўся на бруку,
Што вёў між муроў да прыступак у схоў
Да цёмных абкладаў сівых старадрукаў,
Да скарбаў замкнёных нязведаных слоў.

### *4. Краявід*

У сеціве арматуры
Абыклы паўстаў краявід:
Вяршыня архітэктуры —
Закуты ў граніт «маналіт».

Малдоўцы, в'етнамцы, кіргізы —
Найноўшы з усіх Вавілон...
Няветлае неба, а знізу
Прысыпаны снегам бетон.

Спытацца б, каму вежы-гмахі
Стаўляе брат-гегемон?
Ды здрадлівы вецер пад пахі
Падхопіць, штурхне — і гамон.

### *5. Вераб'і*

Пад купалам чорнага неба,
Што крые чужую зямлю,
Рэшткамі белага хлеба
Чужых вераб'ёў кармлю.

Як ім, мне без розніцы, скуль я,
Што думаю, што раблю...
Мо зрэдчас уджаліць куляй
Нязвыклае слова «люблю».

### *6. Сам-насам*

Зіхнула сонца зыркім пасам —
І патанула.
Вось і застаўся я сам-насам
З маім мінулым.

На жаль, як сонца, другарадзь
Не запраменіш.
Шкада, нічога, як ні радзь,
Не пераменіш.

### *7. Маркіз дэ Сад*

Каля парожняе цыстэрны
Праз ноч не моўкне брэх халерны
І крышыць слодычныя сны.
Мінуў і гэты век, цукровы...
Маркіз дэ Сад нахмурыў бровы
І ў куфры лашчыць бізуны

У асвятленні электрычным
Чаруе вока бляск магічны
Выгафтаваных дзержакоў,
І, звітыя паводле нана-
Адкрыццяў, цешацца ільсняна
Пруткі, спрагнёныя на кроў.

Каля парожняе цыстэрны
Праз ноч не моўкне брэх халерны...

### *8. Каляды ў Маскве*

Замест хоць раз сыпнуць мне сытнай манны,
Панастаўляў ты, горад велізманны,
Абапал вуліцы жалезныя платы,
Свае вартуючы ад прыхадняў палацы...
Рыпіць пад ботам снег. Я хукаю на пальцы.
Мне б завярнуць пагрэцца, ды куды?

У гуле-рэхаце нахабныя рэкламы
Дзікунскія па небатвары крэсляць плямы
І засцяць зоркам зрок, а наўскасы
Над іхным полыскам, заўсёдна і нязманна,
Птушыны Шлях кладзецца следам санным
На захад... ды рыпяць усё няісней палазы.

## XCVIII. ЯК ДАГАРАЕ СВЕЧКА...

### *1. Свечка*

А ты ці ведаеш, як свечка дагарае?
Спачатку полымца здрыгнецца, заміргае,
Тады раптоўна зырка палысне
І нікне долу, покуль не засне...
Адно віецца над парэшткамі дымок
На знак таго, што ўладца свету — Змрок.

### *2. Гісторыя*

А той, хто на каўчэг не быў узяты Ноем,
затхнуўся пад вадой і ўдатным стаўся гноем
для вінаграднікаў, якія Ной
пасадзіць сваёй собскаю рукой
на яшчэ мокрых ад Патопу схілах...

А перад тым, зірнуўшы на магілы,
тапельцаў, ўсклікне: «Бог мяне збярог!
І я з усёй сям'ёй вось тут, на ўзвышшы,
з каўчэга цеснага на сухазем'е выйшаў».
Потым зашыецца ў будан і, без ніякіх засцярог,
гісторыю людзей нанова перапіша,
бо ўсе да аднаго, хто запярэчыць мог,
пайшлі на дно...
Апошнюю паставіць кропку — і ажно
зіхне вясёлка весткай злагады й заціша!

### *3. Тутэйшыя*

Калісь з імпэтам нетутэйшым тут
Мы аўгіевых стайняў гной і бруд
Выносілі, каб з холаду й сутоння
На сонца вывесці бялюткіх коней.

Дзе тыя коні? Як заўжды — ў палоне.
А ўжо зіма нам пасівіла скроні...
І наш запал, юначы наш імпэт —
У небе чорным мэтэора след.

### *4. Цень*

За спінай сонца свеціць — ды дарма:
Бо ценю ад мяне наперадзе няма.
Я бацьку перажыў ужо на цэлы дзень —
І знік перада мной ягоны цень.

### *5. Эцюд*

О, божухна, якая засуха —
Жыццё адродзіцца наўрад.
І дзівіцца апошні класік
На першы ў жніўні лістапад,

На парудзелыя дазвання
Палі, дзе ў бляску слюдзяным
Стагі пасталі, бы ў саване
Ад сквару жарыя сланы.

### *6. Відок з гаўбца*

Вунь там, дзе пад сіняю шыльдай жаўцее
Апалае лісце — я ўсё адно
Бачу з гаўбца, што там залацее
Пад сіняю гладдзю азёрнае дно.

А там, дзе сонца найбольш зіхотка
Па даху бляшаным праменнем б'е,
Я бачу ветрам падшытую лодку,
І ў гэтай лодцы — сябе і яе.

І там, на самым адонні, мы бачым,
На вострым каменні сярод жарствы,
Як серабрацца ў бляску дрыжачым
Лісцінкі драбнюткія жабер-травы.

І кажа яна: «Варта да скроні
Лісцінку прыкласці — і ўзапраўды
Прышласць адкрыецца, як на далоні,
Жыццё зыначыцца назаўжды».

Хацеў, ды спужаўся чамусь з той лодкі
Па жабер-траву я даць нырца...
І вось я тут — стаю наўзлакоткі,
Адзін, у лодцы бетоннай гаўбца.

### *7. На паўстанку*

Калі чамусь на паўстанку нейкім
Захрас мой цягнік і насунуўся змрок,
Пазелянелі перон і рэйкі
Ад святла, што шыбала знекуль здалёк.

А па хвіліне, вагон за вагонам,
Сустрэчны цягнік бясшумна праплыў —
Кожны вагон яго ярка-зялёным
Ззяннем нязвыклым аточаны быў.

І хоць дзіў-вагоны плылі нядоўга,
Паспеў я ў смарагдава-ззяйным акне
Пазнаць самога сябе, маладога,
І тую, што колісь кахаў, пры мне.

Калі ж наапошку, на развітанне,
Зіхнуў за паўстанкам прывід-цягнік,
Я зразумеў, што бачыў вяртанне
Сваё ў край дзяцінства, які даўно знік.

Той край быў таксама смарагдава-ззяйны,
Як тое акно прамільгнулае, ды
Адсюль, дзе паўстанак самы звычайны
Цьмянеў, я не прагнуў вярнуцца туды.

Бо мне, старому, і мне, дзіцяці,
Ці не ўсё роўна, які канец?
Ці з крыкам вярнуцца ў чэрава маці?
Ці моўчкі легчы ў пясчаны капец?

## *8. Сабака*

*Бурхану*

Сабака — ён адданы чалавек,
Ён вые, калі ты сышоў навек,
Не разумее, чаму татка родны
Ляжыць каля яго, няўзрушны і халодны,
Крыўдуе, як ты мог настолькі здрадзіць,
Што ўжо не можаш ні абняць, ні па галаве пагладзіць.

### *9. Лодкі*

*А. Аблажэю*

Не сумуй, што не вяснуем,
Што мацнее халадок,
Што ў вачах снуецца змрок:
Усё роўна павяслуем
Мы на лодках каляровых
Праз тунэля жарало
У вясёлае кубло
Бесцялесных і здаровых.

### *10. Рыфмар*

Твой прытул, трыпутнік,
Як і мой, — дарога...
Вечны ты пакутнік,
Але ж бачыў многа.

Глянь, бялюткай сцежкай
Чорная кабета
Ў змрок вядзе з усмешкай
Рыфмара-паэта.

Хоць ён гольма голы,
Але ніштаваты,
І такі вясёлы,
Бы на неба ўзяты.

### *11. Эпітафія*

Навошта гэтак ты хварэў на вершы,
Не спаў начмі, трымцеў, занепадаў,
Сягаў у свет, жахліва-нетутэйшы,
А тут сам пра сябе зусім не дбаў?

Няўжо каб пры размове двух эстэтаў
Адзін з пасмешкай у другога запытаў:
— А Хведар Ніцка... Ведаеш, хто гэта?
— Так, быў такі. Здаецца... вершыкі складаў!

## XCIX. НА ПАГАРЫ
*(Паводле Эдгара По)*

Знекуль напоўз куродым,
Шашу засланіўшы спрэс.
З задушлівага самахода
Спусціўся я ў Чорны Лес.

Хто б адказаў, куды я
Так доўга йшоў наўздагад
Цераз пагары тыя,
Той дурманлівы чад?

Згары мне на голаў сеяў
Попел. Дыміўся мох...
За праваднічкай Псіхеяй
Я не пайсці не мог.

Да нізкага выйшлі балотца,
Якога не ўзяў пажар.
Праз дым прабівалася сонца.
У цішы звінеў камар.

І хоць не ведаў, дзе я,
Ды гэта было канцом
Шляху майго, бо Псіхея
Збялела, як перад Чыстцом.

Раптам наўколле ўзрушыў
Крылаў траскотны гук —
З неба агністая птушка
Пала на зломлены сук.

Пала на сук сасонцы,
Як з яснага неба гром,
Пералівала на сонцы
Кожным сваім пяром.

Ад мяне невысока
Села яна насупроць,
Паліла пякучым вокам
Маю слемазарную плоць.

Ведаў: яна ўсім чужая,
Маўчыць і гнёздаў не ўе,
І толькі ўва мне ажывае
Палкі голас яе.

Ён пранікаў неаднойчы
У цела маё цераз скронь
І раздзімаў сярод ночы
Знутры іскрысты агонь...

Усё пра дзівосную птушку
Я прыгадаў, акрамя
Ейнай забытай мянушкі,
Сцёртага часам імя.

Пакуль падбіраў ёй назвы:
Страцім? Багрым? Вісажар? —
Птушка, як згустак плазмы,
Рынула ў чорны гушчар.

За папяловай завеяй
Глуха гула шаша...
Мовіла раптам Псіхея:
«Імя тваёй птушкі — Душа!»

## С. КУКАБАКА І ЛЮСТРА

Вунь, у люстры, мой адбітак,
Не адбітак — перажытак:
Зжоўклы твар у зморшчках спрэс,
Плех на месцы, дзе быў лес...

Эх, падсела, падгніло,
Пане Дух, тваё жытло,
У якое мімаходзь
Запіхнуў цябе Гасподзь!

# ЭДГАР ПО
*(1809–1849)*

## КРУМКАЧ

Неяк змрочным часам ночы, калі я заплюшчыў вочы,
Разбіраючы прарочы сэнс старых пажоўклых кніг,
Раптам стук пачуў праз стому, ціхі стук у дзверы дому,
Быццам нехта невядомы прыпыніўся каля іх.
«Гэта нейкі госць, — я мовіў, — прыпыніўся каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх».

Быў, я помню, снежань слотны, у каміне неахвотна
Гаснуў жар, і цень дрымотны варушыўся ў зборках штор.
І чакаў я час світання, як збавення, бо чытанне
Не прынесла мне адхлання ў смутку вечным па Лінор,
Па святой, якой анёлы кажуць там цяпер «Лінор», —
Безыменнай тут з тых пор.

Неакрэслены, трывожны шолах штор, іх зморшчкі кожнай
Нейкім жахам прыварожным да сябе прыкуў мой слых,
І стаяў я спалатнелы, паўтараючы нясмела:
«Гэта нейкі госць спазнелы там, каля дзвярэй маіх,
Гэта нейкі госць спазнелы прыпыніўся каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх».

Развязаўшы так пытанне і адкінуўшы зляканне,
«Пан, — я мовіў, — або пані, выбачайце, што на міг
Я заснуў і Вас, як брата, не пусціў адразу ў хату,
Дый пастукаліся надта ціха Вы ў дзвярах маіх...»
Дзверы я штурхнуў... нікога, толькі цемра каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх.

Я ўзіраўся ў прадчуванні немажлівага спаткання
У ахутаны маўчаннем і цямрэчаю прастор,

Ды пачуў у непрабуднай цішы толькі водгук скрутны
Толькі водгук ледзьве чутны слова ціхага «Лінор?».
Гэта я шапнуў, і рэха прашаптала мне: «Лінор?»,
Прашаптала, як дакор.

І, гаруючы ад страты, я вярнуўся ў жальбе ў хату,
Як знячэўку стук зацяты зноў пачуўся і аціх.
«Так, — я мовіў, — мне не сніцца: стукнуў нехта ў аканіцу,
Трэба вызнаць таямніцу незвычайных стукаў тых.
Гэта вецер — вось разгадка таямнічых стукаў тых,
Вецер ля акон маіх».

Ды калі акно шырока я разнасцежыў — са змроку
У пакой паважным крокам крук, як прывід дзён сівых,
Увайшоў хадою цвёрдай, і пратупаў з пыхай лорда
Ля мяне ў паставе гордай проста да дзвярэй маіх,
І на бюст Палады ўзбіўся там, каля дзвярэй маіх,
Сеў панура і заціх.

Чапурысты і паважны выгляд птушкі нехлямяжай
Скруху мройную разважыў, і сказаў я: «Хоць абдзёр
У сутычцы нейкі вораг на тваёй макушцы пёры,
Ты не страціў смелы нораў, змрочны дух начных пячор,
Як Плутон цябе мянуе ў нетрах тых начных пячор?»
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»*

Трапны сказ начнога птаха на душу мне ўпаў, як плаха.
Быў бы дзень — не меў бы страху, а цяпер які выбар?
Калі ноч і бездарожжа, калі, быццам дух варожы,
Уваходзіць крук нягожы і сядае насупор
На скульптурны ўзгруд Палады, над дзвярыма, насупор,
Крук з мянушкай Nevermore.

А тым часам крук пануры знерухомеў на скульптуры,
Бы душу ўсю ў слова ўнурыў страшнае, як прыгавор.
«Як сябры мае, — ледзь чутна я шапнуў, — крумкач прыблудны

* Ніколі больш (анг.)

Знікне заўтра ў каламутным цемрыве начных пячор,
Як мае надзеі, знікне ў цемрыве начных пячор».
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

Напалоханы адказам, я ачуўся не адразу
І прамовіў: «Гэта фраза, несумненна, ёсць паўтор
Скаргі нейкага нябогі, што пад гнётам лёсу злога
Праз усю сваю дарогу паўтараў, нібы дакор,
На хаўтурах мар да скону паўтараў, нібы дакор,
Толькі слова «nevermore».

Усміхнуўшыся з мянушкі крука, сеў я на падушкі
Тварам да дзвярэй і птушкі, спінаю да цьмяных штор,
На вельвет усеўся ў крэсла і задумаўся над сэнсам
Слова, што прынёс злавесны змрочны дух начных пячор.
Што паведаміць хацеў мне змрочны дух начных пячор
Гэтым словам «nevermore»?

Так у вусцішным паўзмроку я раздумваў над вырокам
Птаха, што пякучым зрокам працінаў мяне ва ўпор.
У святле сядзеў няісным каганца ды ненаўмысна
На падушку прыхіліўся — так мяне адолеў змор.
Ах, ніколі на падушку не прыхіліцца Лінор
Ля мяне, о, nevermore!

І здалося, пасмы дыму паплылі перад вачыма
І за спінай серафімы павыходзілі з-за штор.
«Хлус! — я ўсклікнуў. — Без сумнення, дзіўнае тваё
з’яўленне —
Боскі знак майго збавення ад журботы па Лінор!
Дай мне зелля, каб забыцца, каб не помніць пра Лінор!»
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

«О вястун, — я ўсклікнуў, — служка д’яблаў ты ці проста
птушка!
Хай прыслаў цябе двурушны, хай прынёс цябе віхор
У бязрадны мой закутак, дзе пануе вечны смутак, —
Ці пазбаўлюся пакутаў я ля Галяадскіх гор?

Ці знайду я панацэю там, ля Галяадскіх гор?»
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

«О вястун, — я ўсклікнуў, — служка д'яблаў ты ці проста птушка!
Дзеля Бога, што ўсім душам прагне даць прытул і спор,
Адкажы душы гаротнай, ці ўзляціць яна ў зіхотны
Райскі сад да бессмяротнай, што завецца там Лінор?
Да святой, якой анёлы кажуць там цяпер «Лінор»?»
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

«Хай жа гэта слова стане знакам нашага расстання! —
Крыкнуў я. — Ляці да тхланяў, скуль прынёс цябе віхор!
І не ўздумай неўзаметку скінуць мне пяро, як сведку
Злой хлусні сваіх адведкаў, і не трэба так ва ўпор
Мне ў душу глядзець, і з бюста прэч нясі свой чорны ўбор!»
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

З той пары крумкач закляты, быццам знак бяды і страты,
Асланіўшы ўзгруд Палады, вечна дрэмле насупор.
Ён вачыма патарочы соннымі за мною сочыць
І пад лямпай цень свой змрочны на падлозе распасцёр,
І душой я з таго ценю нізашто цяпер да зор
Не ўзлячу, о, nevermore!

## УЛЯЛЮМ

Неба шэрым рыззём па-сірочы
Навісала над лісцем сухім —
Над пакурчаным лісцем сухім:
Быў кастрычнік, тужлівы і змрочны,
У няласкавым годзе маім:
Слаўся золкі туман нездароўчы,
Сеяў жудасць у лесе глухім —
З боку возера Обэра ноччу
Поўз урочышчам Віра глухім.

Тут, сярод кіпарысаў магутных,
Я аднойчы з Псіхеяй блукаў —
Між Тытанаў з Псіхеяй блукаў.
Я тады, як паток каламутны,
Палкім сэрцам бурліў, шлехатаў
І з жаролаў вулканаў раскутых
Ў край сцюдзёны на Полюс сцякаў —
Па адхонах вулканаў раскутых
Ў край злюднелы на Полюс сцякаў.

Мы хаваліся ў словах сірочых,
Як у выстылым лісці сухім —
У пакурчаным лісці сухім;
І хаця быў Кастрычнік прарочы
У бязлітасным годзе маім
(Ноч Начэй завалодала ўсім!) —
Мы забылі, што гэтаю Ноччу
У гамонішчы зданяў глухім,
Каля возера Обэра ноччу
Вір блукае па лесе глухім.

А тым часам на ранак патрохі
Павярнуў небазорны цалік,
Прыйсця ранку пачаўшы адлік,
І ў канцы нашай мройнай дарогі
У расплывістай далечы ўзнік
І, нібыта паўмесяц двурогі,
Таямнічы паўстаў маладзік —
Як Астарты паўмесяц двурогі,
Чарадзейны заззяў маладзік.

І сказаў я: «Астарта абліччам
У сатканай з уздыхаў начы
Не ўступае Дыяне нічым,
Яна ўсе нашы слёзы падлічыць,
Праз уздыхаў эфір летучы,
За сузор'ем Ільва таямнічым.
Яе цёплыя вочы ўначы,

Яе чулыя вочы ўначы
Зіхацяць і ў Нябёсы нас клічуць,
Дзе мы знойдзем нарэшце спачын —
Там, у Леце, за Львом ваяўнічым
Знойдзем мы забыццё і спачын.

Ды Псіхея сказала: «Не веру
Бледнай зорцы, што ў небе ўстае —
Здраднай зорцы, што там устае:
Ах, не стой жа! Ах, пойдзем наперад!
Ейны бляск забыцця не дае!»
Так Псіхея сказала і ў шэры
Прах занурыла крылы свае —
Спалатнела ад жаху і ў шэры
Прах занурыла крылы свае —
Белапёрыя крылы свае.

Адказаў я: «Твой страх — недарэчны:
Дрогкай зоркі не маніць святло!
Акунёмся ў жывое святло!
Гэта ззянне Сібіліна сведчыць,
Што ўначы Спадзяванне ўзышло! —
Прывядзе бляск Астарты бясспрэчна
Нас у Неба, што днець пачало —
Ах, даверыцца можна бясспрэчна,
Каб у Неба нас ззянне вяло,
Дзе ўначы Спадзяванне ўзышло».

Гэтак я супакойваў Псіхею,
Каб развеяць смугу ейных дум,
Ейных горкіх і роспачных дум,
Як упёрлася раптам алея
Ў склеп замшэлы, адкуль веяў сум —
Невыносная жальба і сум,
Мовіў я: «Хто ў тым склепе гібее,
Апавіты ў жалобу і сум?»
Адказала яна: «Улялюм! —
Там магіла тваёй Улялюм!»

Сэрца жалем зайшлося сірочым
І пакрылася лісцем сухім —
Мёртвым, скурчаным лісцем сухім:
Год назад у Кастрычніку змрочным,
Год таму перад склепам нямым
Я ўжо плакаў над горам сваім —
Я ўжо плакаў у змроку глухім
Над няўцешным адчаем сваім!
Ах, якім чараваннем благім
Зноў сюды я зававлены ноччу,
Каб пакутаваць ў змроку глухім —
Каля возера Обэра ноччу
Тут, ва ўрочышчы Віра глухім?

І ў слязах мы сказалі абое:
«Ах, няўжо духі дрэў і вады —
Духі чулыя дрэў і вады —
Каб не даць нам сустрэцца з журбою,
Не хацелі пускаць нас сюды —
Да жудлівага склепу сюды —
І наслалі сваёй варажбою
З пекла зорку граху і бяды —
З нетраў пекла сваёй варажбою
Зіхатлівую зорку бяды?»

## АНАБЭЛЬ ЛІ

Можа, й помніце вы: вельмі-вельмі даўно
Ў каралеўстве прыморскай зямлі
Мной каханая страсна дзяўчына жыла
З дзіўным іменем Анабэль Лі —
Мы кахалі й хацелі быць разам заўжды,
Толькі гэтым мы з ёй і жылі.

Быў я гэткім жа самым дзіцём, як яна,
Ў каралеўстве прыморскай зямлі,
І мацней за любога кахалі мы там —

Я і юная Анабэль Лі —
Серафімы і тыя зайздросцілі нам
І каханню, якім мы жылі.

І таму з вышыні вельмі-вельмі даўно
Ў каралеўстве прыморскай зямлі
Неяк ноччу дыхнуў сцюжны вецер з-за хмар
На каханую Анабэль Лі;
Сваякі яе шэсцем хаўтурным прыйшлі,
І яе ў мяне з рук узялі,
І схавалі у склеп, каб кахаць не маглі
Мы ніколі ў прыморскай зямлі.

І анёлы на небе не зведалі той
Асалоды, ў якой мы жылі:
І таму з вышыні (тое знаюць усе
Ў каралеўстве прыморскай зямлі)
Неяк ноччу дыхнуў сцюжны вецер з-за хмар
І забіў маю Анабэль Лі.

Але ж людзі так моцна кахаць не маглі,
Хоць старэйшыя значна былі
І мудрэйшыя значна былі, —
Ні анёлы з бязмежнасці райскіх далін,
Ані дэманы з нетраў зямлі
Не маглі разлучыць мяне з Анабэль Лі,
З незабыўнаю Анабэль Лі.

І так ззяе ўгары месяц мне з той пары,
Каб я сніў маю Анабэль Лі;
І так зорка мігціць, каб не мог я забыць
Вочы любай мне Анабэль Лі;
І таму я ўначы тут ляжу на плячы
Самай юнай, каханай і пекнай з жанчын
Ў каралеўстве прыморскай зямлі —
Тут, у склепе прыморскай зямлі.

# ДАНТЭ АЛІГ’ЕРЫ
*(1265–1321)*

## БОСКАЯ КАМЕДЫЯ
*(Урывак)*

### *Пекла*

### Песня першая

Калі прайшоў я паўжыцця зямнога,
дык апынуўся ў змрочных гушчарах,
бо праўдная згубілася дарога.

Так цяжка апісаць, ах, каб ён спрах,
той дзікі лес, суворы і мярцвячы,
які дасюль у думках будзіць страх!

Ён горкі, быццам смерць сама няйначай,
але ж у ім такі я скарб здабыў,
што раскажу пра ўсё, што там пабачыў.

Не помню, як туды ўвайшоў, бо быў
сам не ў сабе я ў часе падарожжа
і ўжо даўно праўдзівы шлях згубіў.

Аднак калі да горнага падножжа,
што замыкала лес, глухі, бы скон,
які чарнеў з усіх бакоў варожа, —

я выйшаў і зірнуў на стромы схон,
ужо заліты промнямі свяціла,
што ўсіх вядзе да ісціны спакон,

тады на дне душы адчуў я сілы,
якія ўтаймавалі той спалох,
што ўночы ледзяніў мне кроў у жылах.

І быццам той, хто, падаючы з ног,
на бераг выйшаў і назад у мора
бурлівае глядзіць, дзе згінуць мог,

так беглы дух мой азірнуўся ў зморы
на шлях у згубным лесе, чый абдым
нікога з смертных не пушчае ўгору.

Пасля пярэдыху на горны ўздым
наўпрост я рушыў так, што з кожным крокам
вышэй я трохі быў, чым перад тым.

Ды адышоў ад лесу недалёка,
бо спрытная пантэра папярок
дарогі стала, вымкнуўшы са змроку.

І, за наскокам робячы наскок,
мяне змушала збочваць і памалу
цясніла долу ў непраглядны змрок.

Быў час світання, й сонца выплывала
паміж тых самых зор, чый карагод
у дзень светастварэння выпускала

з ім разам Боская любоў у лёт.
Так што страшыцца не было нагоды
плямістаскурай рысі, ды прыход

раптоўны льва, яго пагляд галодны,
наноў мяне ўсяго жудой скаваў,
калі хацеў я ўжо ўздыхнуць свабодна.

Такі пагрозны наступ быў ільва
і выгляд, што, здавалася, трапеча
наўкол у спудзе лісце і трава.

І з ім ваўчыца йшла, чыя худнеча,
здавалася, насіла ў сабе плод
усіх пажаднасцяў; яна ў галечы

прымусіла жыць не адзін народ.
I я, калі ашчэр яе пабачыў,
ураз згубіў надзею на ўзыход.

Як скнара той, што ў час ліхі змантачыў
усё, што доўгія гады збіраў,
над страчаным дабром смуткуе й плача,

гэтак і я няўцешна гараваў,
калі звяруга пхнуў мяне ў лагчыну,
куды прамень святла не дасягаў.

Тым часам, як ваўчыца без спачыну
мяне цясніла, той, хто праз гады
маўчаць быў змушаны, паўстаў перад вачыма.

«Ратуй мяне ад гэтай ліхаты, —
яму я крыкнуў, — хто б ні быў сабою,
ці прывідам, ці чалавекам ты!»

«Не чалавек я, быў ім, — ён з журбою
сказаў, — меў у Ламбардыі бацькоў,
што з Мантуі паходзілі абое.

Пры Юліі ў канцы яго гадоў
народжаны, я бачыў Рым за слынным
і добрым Аўгустам ў час зманлівых багоў.

Паэтам быў я і спяваў пра сына
Анкізава, які прыйшоў здалёк
ад Іліёна, што ў агні загінуў.

А ты, нашто ты павярнуў у змрок?
Чаму не ўсходзіш на гару, якая
усякай нашай мудрасці выток?»

«Дык ты — Вергілій, ты — крыніца тая, —
сказаў нясмела я, — што з берагоў
выходзіць, калі слова прамаўляе?

О, гонар і святло ўсіх песняроў,
шукаць твой том было нялёгкай справай,
ды змушвала вялікая любоў.

Ты — мой настаўнік, прыклад мне яскравы:
адзіны ты, каго я ўзяў за ўзор
прыгожы стыль, які прынёс мне славу.

Глядзі, як люты звер мяне прыпёр
так, што ўздыхнуць ад спуду я няздольны,
прашу, настаўнік, дай яму супор!»

Ён, бачачы, як жудасна мне й больна,
сказаў: «Абраць шлях іншы мусіш ты,
калі пакінуць хочаш край нядольны;

бо гэта здань, што столькі страхаты
нагнала на цябе, не саступае
нікому і ламае ўсім хрыбты.

Натура ж у яе такая злая,
што не насыціцца яна ніяк
і па ядзенні большы голад мае.

З ёй спараваўся не адзін хіжак,
і будзе яшчэ больш іх, покуль самцы
не стрэнецца, на гібель ёй, ганчак.

Не срэбрам і зямлёю сілкавацца
Хорт будзе, а з любові й добрых спраў,
і род яго між лямцам будзе й лямцам.

Затуліць ён ад зла, як цвёрды сплаў,
Італію, якой жыццё Каміла,
І Эўрыял, і Турн, і Ніс аддаў.

Ваўчыцу ж Хорт загоніць жывасілам
у пекла, аж да самага нутра,
дзе зайздрасць яе чорная ўскарміла.

Таму табе, дзеля твайго ж дабра,
каб вечныя мясціны без затрымкі
прайшоў ты, буду за павадыра.

Там ты пачуеш роспачныя крыкі
звячэлых духаў, што ў Тварца сабе
другую просяць смерць у муках дзікіх.

І ўбачыш тых, хто і ў агні жальбе
не паддаецца, бо на шчасны бераг
на лодцы мар з надзеяю грабе.

З табой жа ў тыя радасныя сферы
узнімецца больш годная душа,
а мне туды зачыненыя дзверы:

Не ўпусціць Уладар у свой абшар
са мной нікога, бо Яго законы
я ў паняверцы колісь парушаў.

Паўсюль Ён правіць, але там Ягоны
адвечны горад і святы пасад:
туды абраным быць — вялікі гонар!»

А я яму: «Дзеля Таго, чый лад
ты не прыняў, прашу, Паэт, цябе я,
каб не зазнаць мне горшы заняпад,

вядзі мяне ў цямрэчу, дзе гібее
гурма няшчасных, змучаных ад бед,
і там, дзе брама Пётрава бялее».

І рушыў ён, і я за ім услед.

**Песня другая**

Змяркалася, і шарая гадзіна
усім істотам несла перадых
ад іх турботаў, толькі я адзіны

свой дух да бітваў рыхтаваў цяжкіх
з завадамі дарогі і з цярпеннем —
не схібіць розум, апісаўшы іх.

О Музы, паспрыяйце мне ў здзяйсненні
задумаў! О шляхотны розум, дай
адбітаму ў табе багаславенне!

Пачаў я так: «Перадусім няхай
мой праваднік пацвердзіць, што адвага
не здрадзіць мне ў вандроўцы ў сумны край.

Ты кажаш, што ў пякельныя абсягі
спускаўся бацька Сільвія, хоць дзён
пражыў яшчэ нямала. Ды павагі

і ласкі заслужыў нядарма ён
ад ворага ўсіх злыбед, які справы
вандроўцы мужнага прадбачыў плён —

праз сына й ён сабе дамогся славы,
калі той быў абраны за цара
і Рыма, і ўсяе яго Дзяржавы.

Ён і Яна, калі прыйшла пара,
Зрабіліся мясцінаю святою
наступніку вялікага Пятра.

Праз той паход, услаўлены табою,
спазнаў ён рэчы, што ўчынілі цуд, —
і посах папскі ўзнёсся над зямлёю!

Пасля яго абраны быў Сасуд,
каб стуль прынесці суцяшэнне веры,
што ёсць пачатак збавы ад пакут.

А я? Чым заслужыў таго даверу?
Я не Эней, не Павел і сярод
людзей не вызначаюся звыш меры.

Ці не вар'яцкі будзе мой паход,
якi я распачаў з такім імпэтам:
ты мудры, ты ўсё знаеш наўпярод».

І быццам той, хто роспаччу заспеты,
былы намер мяняе на вачах,
адмовіўшыся ад жаданай мэты,

гэтак і я ранейшы свой замах
адолець спуск пустэльны і суровы
пакінуў і да вычынаў ачах.

Прамовіў цень: «Калі я ў сэнс размовы
тваёй пранік, хоць кажаш ты здалёк,
дык страх апанаваў цябе нанова.

Шмат хто ад страху падаваўся ўбок
ад намыслаў, як звер перад змярканнем,
які губляе раптам вострыы зрок.

Каб ты хутчэй расстаўся са зляканнем,
скажу, чаму на гэты голы стром
прыйшоў і як пранікся спачуваннем.

Са сціжмы тых, хто між дабром і злом,
я гэткай пекнай быў пакліканы жанчынай,
што ёй служыць пакляўся ўсім нутром.

Нібы анёлак, ззяючы вачыма,
яна нягучна пачала такі
аповед на сваёй гаворцы чыннай:

«Мантуйца слынны цень, чые радкі
па сёння не спазналі тлення й зносу
і жыцьмуць яшчэ доўгія вякі,

той, хто быў сябрам мне, але не лёсу,
супынены й павернуты жудой
на стромым схіле, што вядзе ў нябёсы.

Узрушаная сумнай навіной,
я да яго зляцела на падмогу,
хоць, можа, ўжо паспех і марны мой.

Дык жа развей хутчэй маю трывогу,
руш да яго й бальсанам мудрых слоў
і ўсім, чым трэба, уратуй нябогу.

Я, Беатрычэ, з мілых мне краёў
сышла й хачу туды вярнуцца зноўку,
а ў гэты змрок звяла мяне любоў.

Як буду зноў ля Госпада, дык слоўка
замоўлю за цябе і ўсякі раз
буду хваліць!» — Сказала так і змоўкла.

Прамовіў я: «О, пані цноты, праз
чый клопат мы вышэйшыя стварэнні
пад небам, што бліжэйшае да нас,

твой смутак бачачы, ад нецярпення
гару й хачу дапамагчы спаўна,
дай толькі знак — і рушу без спазнення.

Аднак скажы, як без жуды й адна
адтуль, куды вярнуцца прагнеш страсна,
да самага змагла спусціцца дна?»

«Скажу каротка, — мовіла прыязна, —
калі ўжо ты пра гэта запытаў,
чаму сюды сышла я безбаязна:

страшыцца трэба толькі тых праяў,
што могуць бліжняму зрабіць благое,
страшыцца іншага няма падстаў.

Уладца мой стварыў мяне такою,
што вашых я не ведаю пакут
і застаюся ў гэтым полымі жывою.

Ёсць Пані ў вышыні — таго, хто тут
так церпіць, яна ведае нягоды
і просіць у Суддзі змякчыць прысуд.

Яна ж Лючыю клікнула ў гасподу
і мовіла: — Хачу, каб памагла
таму, хто верны быў табе заўсёды. —

Лючыя, неўтаймоўны вораг зла,
туды ўвайшла, дзе, седзячы з Рахіллю,
старой, як свет, я гутарку вяла,

і мовіла: — Той гіне ў гэту хвілю,
хто так кахаў цябе й над тлумам дзён
дзеля цябе расправіць здужаў крылле.

Ці ж ты не бачыш, як знясілеў ён
перад патокам, што страшней за мора?
Ці ж плач табе ягоны не чуцён? —

Ніхто да поспехаў не бег так скора,
і не ўцякаў так спешна ад нягод,
як я з нябеснай рынула прасторы

пасля тых слоў сюды, на самы спод,
радкам тваім даверыўшыся смела,
якім гучаць пад сонцам з роду ў род».

Сказала так і позірк, дзе зіхцела
сляза няпрошаная, адвярнула ўбок,
без словаў дасказаўшы, што хацела.

І да цябе я свой прыспешыў крок,
і ўратаваў ад жудаснага звера,
што шлях кароткі ўгору перасёк.

Чаму ж, скажы, дрыжыш ты, як папера?
Дзе твая смеласць і адвага дзе?
Чаму спыніўся ды не йдзеш наперад,

калі такія пані тры ў Судзе
Нябесным дбаюць аб тваёй пуціне,
і я заўжды дапамагу ў бядзе?»

Бы кветкі, што панiклі ўноч ад стыні,
ледзь толькі сонца іх кране няўзнак,
выпростваюць галоўкі на сцяблiне,

гэтак і я расправіў свой гарбяк
і, акрыяўшы ўраз ад заняпаду,
як вольны чалавек, прамовіў так:

«О літасцівая, што без адкладу
мне памагла! І ты, хто тут цяпер,
яе паслухаўшы, дапамагчы мне рады!

Ты словам разагнаў мой недавер
і моцы даў для новага змагання,
і ўмацаваў ранейшы мой намер.

Дык жа вядзі, бо ў нас адно жаданне:
ты правадыр мой, радца і ўладар!»
Так мовіўшы, за ім я без вагання

ступіў на шлях, што ў дзікі вёў гушчар.

**Песня трэцяя**

«Вяду я ў край адплаты й адчужбення,
вяду на стогнамі засланыя палі,
вяду да страчаных навекі пакаленняў.

Быў справядлівы Створца мой, калі
я з Мудрасці, Першалюбові й Дбання
вялікага паўстала на зямлі.

Няма старэйшага на свеце збудавання,
я вечная, як Неба жыхары.
Пакіньце, хто ўваходзіць, спадзяванне!»

Такі я чорны надпіс угары
на Браме прачытаў і ў страху ўсклікнуў:
«Настаўнік, што ён значыць? Гавары!»

І ён, дасведчаны, сказаў: «Хай знікне
без знаку страх твой, бо ляклівы тут,
калі не будзе цвёрды, не абвыкне.

Казаў я, што цябе ў пякельны кут
я прывяду, дзе ўсцяж гібеюць цені,
згубіўшы розум ад цяжкіх пакут».

З тым даў руку мне для супакаення,
у бок мой светлы твар звярнуў і ўвёў
мяне ў атвор таемных сутарэнняў.

Такія ўздыхі й стогн з усіх бакоў
пачуў я ў глыбежы бяззорнай, дзікай,
што плач мой зліўся з плачам бедакоў.

Усіх на свеце моваў тлум вялікі,
клянбёны, лямант болю, і скугор,
і пляскат рук, і енк, і гневу крыкі

зліваліся ў адзін нязрадны хор,
які кружляў у цемрадзі імкліва,
нібы пясок, укручаны ў віхор.

Настрашыў мяне галас той жахлівы,
і я шапнуў: «Настаўнік, адкажы,
што за народ тут енчыць так жалліва?»

Пачуў: «Яны — мізэрныя смаўжы,
з тых, хто ад земскіх ганьбы й славы воддаль
у ракаўцы сваёй утульнай жыў.

А спаміж іх анёлы з той пароды,
што не прымалі Бога й не клялі,
а пасярэдзіне былі заўсёды.

Нябёсы, каб без плямаў быць, змялі
сюды двурушных, пекла ж не пушчае,
каб грэх з віной хваліцца не маглі».

Я зноў: «Чаму яны ў такім адчаі
праклёны шлюць і скаргі наўзгалос?»
А ён: «Што тут казаць — іх прыгнятае

нясцерпнае існенне з болю й слёз,
а смерць іх не бярэ... Дык асалодай
здаецца ім усякі іншы лёс.

Пакінула іх боская лагода,
і Вышні Суд не чыніць ім паслуг,
і свет забыў на іх. Зірні — і ходу!»

І я зірнуў і ўбачыў, што наўкруг
імчыцца сцяг, лунаючы злавесна —
здавалася, быў вечны яго рух.

А ўслед за ім ланцуг такі даўжэзны
людзей спяшаў, што я ледзь веры даў,
што стролькіх сцяла смерць касой жалезнай.

Спасярод іх я аднаго пазнаў,
хто мог быць слынным у сваім народзе,
але, праз боязь, славы не дастаў.

І ўцяміў я, што ў страшным карагодзе
нікчэмнікі бягуць, з якімі Бог
і ворагі Яго былі не ў згодзе.

Аголеным ад галавы да ног
гаротнікам, што не жылі ніколі,
ад шэршняў і асвы было няўзмог,

што джгалі іх. Кроў са слязьмі паволі
цякла пад ступні ім, і рабакі
яе смакталі тлустыя на доле.

Далей, каля Вялікае Ракі,
натоўп людзей я ўбачыў, што, як лава,
да цёмнай плыні сунуў напрасткі.

Спытаўся: «Хто яны й што за праява
іх гоніць з гэтага на бераг той,
наколькі бачу ў змроку? Будзь ласкавы,

з’ясні!» А ён: «Як дойдзем мы з табой
да берагоў журботных Ахерона,
сам будзеш сведкам, што там, за імглой».

Так з тропу збіў мяне адказ ягоны,
што я далей, маўчаннем сцяўшы рот,
ішоў да стромых берага адхонаў.

І вось у чорным чоўне, пасярод
ракі, плыве сівы, як лунь, старэча,
гарлаючы: «Дрыжы, пракляты род!

Забудзьце Неба пасля гэткай стрэчы:
звязу я вас адсюль на бераг той,
дзе сцюжа, сквар ды вечная цямрэча.

А ты ўцякай адсюль — душы жывой
не месца сярод мёртвых!» Аж пабачыў,
што я здранцвеў, прамовіў: «Тут не стой,

бо іншы край, а не прадонне плачу,
і човен не такі, як мой, стары, —
куды лягчэйшы лёс табе прызначыў».

А Павадыр: «Харон, свой гнеў скары,
так звыш хтось хоча й нат у падысподнай —
гэта закон! І больш не гавары».

Схмурнеў уладца рэчкі чарнаводнай,
і вогненныя колцы пачалі
зіхцець вакол вачэй яго страхотна.

А голыя, што да ракі дайшлі,
сабе пачуўшы вырак, ва ўтрапенні
зубамі скрыгаталі, і клялі

свой час зачацця й месца нараджэння,
і бэсцілі і Бога, і бацькоў,
і род людскі, і ўсё яго насенне.

Пасля ўсім схлупам, плачучы наўзроў,
да берага натоўп няшчасных рынуў,
дзе месца ўсім, хто зрокся Божых слоў.

Харон-злыдух з вачыма, як жарыны
рухомыя, склікаў іх і вяслом
марудлівых лупіў наўзмах у спіны.

Як дрэва восенню ліст за лістом
на дол цярусіць — і ўжо сук чарговы
убор свой бачыць, скінуты суздром,

так і сыны Адама джгалі ў човен,
бы птахі, якіх лоўчы-звадыяш
у сетку вабіць на птушыных ловах.

І адплылі па цёмнай плыні, аж
на бераг той шчэ не сышлі нябогі,
як зноў быў повен душаў бераг наш.

«Мой сыне, — мовіў мне Настаўнік строгі, —
памерлы ў боскай непрыязні люд
з усіх краёў сюды вядуць дарогі.

І так жахае Божы іх прысуд,
што трапіць на той бераг прагне кожны,
каб толькі збыць для іх нясцерпны спуд.

А добрая душа туды не можа
прайсці... Дык зразумей, чаму зварот
Харона да цябе быў так варожы».

Ледзь змоўк ён, як ад жудасных грымот
дол так здрыгнуўся, што дасюль на твары,
калі згадаю, праступае пот.

Па тым на скрушныя, счарнелыя абшары
барвовы бляск з прадоння палыснуў,
дыхнуўшы з нетраў серкаю і скварам.

І ўпаў я, быццам той, хто ўміг заснуў.

## АРЦЮР РЭМБО
*(1854–1891)*

### П'ЯНЫ КАРАБЕЛЬ

Адчуў я, калі ўніз па сонным плыў цячэнні,
Што ўжо не цягнуць асначы мяне сілком —
Тубыльцы-крыкуны зрабілі з іх мішэні,
Распнуўшы на слупах стракатых галяком.

Самохаць я паплыў, і мне было ўсё роўна,
Хто мной кіруе й чым наладаваны трум,
Фламандскім збожжам ці брытанскаю бавоўнай, —
Абы толькі не чуць аснацкі гвалт і тлум.

У злосным плёскаце прыліваў і адліваў,
Зазімкам больш глухім, чым розум немаўлят,
Я ўцёк, і з месц сваіх зрываліся імкліва
Паўастравы, каб мне ўслед пракрычаць: віват!

Маланкі мой запал марскі перажагналі,
І я з пагардай да ўзбярэжных маякоў,
Як корак, танцаваў дзесяць начэй на хвалях —
На гэтых возніках тапельцаў-мерцвякоў.

Зялёная вада, салодкая, нібыта
Няспелы яблык для дзяцей, прайшла праз дно
І змыла плямы ад віна й засохлыя ваніты,
І знесла прэч бусак, і выбіла стырно.

І з таго часу я плыву праз белапенны
І зоркавы настой Паэмы Мора, дзе
Па ватэрлініі тапелец задуменны
У нерат бездані няспешліва ідзе.

Дзе выпарэнні мрояў, што блакіт фарбуюць,
І рытмы, што плывуць змярканням наўздагон,

Кахання горкія адценні фермянтуюць,
Мацнейшыя, чым спірт, чым нашых ліраў звон!

Я плыў пад небам у расколінах маланак,
Я зведаў плыні й буруны, прыбой і смерч,
І, бы чародка галубоў, экзальтаваны ранак,
І тое, што ніхто не бачыў насамрэч!

На сонцы я лічыў містычных жахаў плямы,
Калі яно паўзло ў ліловых згусткаў зыб,
Дзе хвалі, рыхтык як акторы з грэцкай драмы,
У далеч неслі бляск дрыготкіх сваіх шыб!

Я сніў смарагд начэй сярод снягоў сліпучых,
Цалункі ў вочы мораў! Нечуваны ток
Магутных сокаў! Зіхатлівы рух пяючых
Блакітных фосфараў, ускалыхнутых незнарок!

Я дзень пры дні плыў па гайданцы, што ў жывёльнай
Пажадлівасці брала сугі скал,
І забываў, што й дотык ног Марыін здольны
Скарыць раз'юшанага Акіяну шал!

Я натыркаўся на Фларыды, дзе, як вугаль,
Гарэў пагляд пантэр са скурай дзікуноў!
Вясёлак лейцы рваў, нацягнутыя туга
Над спінамі зеленагрывых табуноў!

Я бачыў рошчыну балотаў, пасткі гнілі,
Дзе здохлага Левіяфана труп завіс,
Шквалы, уздыбленыя сярод мёртвых штыляў,
І далечы, што вадаспадам льюцца ўніз!

Ледавікі, са срэбра сонцы, сквар нябёсаў,
Плытнечы гнюсныя ў рудой дрыгве, дзе чорны пах
Плыве ад з'едзеных клапамі змей-калосаў,
Што падаюць і рассыпаюцца наўсправх!

Хацеў бы паказаць я ў сініх плынях дзецям
Пяючых гэтых рыб, дарадаў залатых...
Мой вольны бег каранавала пены квецень,
І ў радасці вятры пераціналі дых!

Часамі мора між сваіх гайданак жорсткіх,
Ачмуранае зменай зон і палюсоў,
Выкідвала мне кветак жоўтыя прысоскі
І, як жанчыну, пакідала ў смутку зноў...

На карку гойдаў я бяльмастых птушак табар,
Памёт і сваркі іх, і не спыняў свой бег,
А праз распораў вязь спіной назад, як крабы,
Тапельцы сонныя спаўзалі на начлег!..

І вось я, карабель, у рагах твані й солі,
Узняты віхрам у такія Нікуды,
Скуль нават Манітор і брыг з Ганзы ніколі
І кодаўб не асталі б мой, сп’янелы ад вады;

Спатнелы, вольны, асядланы фіялетам,
Я, хто дзіравіў высь, чырвоную, бы мур,
Дзе зваба-сочыва наліпла для паэтаў:
Лішайнік сонечны і ў сопелькі лазур;

Я, звар’яцелы брус, што бег з эскортам чорных
Канькоў, заплямлены разрадамі, калі
Збівалі ліпені сінечу неба ў жорны
Распаленых віроў і на мязгу таўклі;

Я, хто здалёк дрыжэў, пачуўшы, як лютуюць
Мальстромы й Бегемоты, каб спатоліць юр,
Я, вечны вязень сініх безмежаў, шкадую
Еўропы кожны спрахлы парапет і мур!

Я бачыў выспы й зорныя архіпелагі,
Чые шалёныя нябёсы ўсім адкрыты — ці ж
Не ў гэткія вось ты прадонныя абсягі,
О будучая Моц, жар-птушка, збегла й спіш? —

Але занадта доўга плач сціскаў мне горла!
У сонца горкі смак! Пачварны ў поўні твар!
Каханне ёдкае мне ўшчэнт нутро раздзёрла:
Дык трэсні, кіль мой! Забяры мяне, абшар!

Калі ж вада Еўропы зноў — дык не марская:
Лепш лужына для сумных гульняў хлапчука,
Куды ён, седзячы на кукішках, пускае
Караблік хліпкі, быццам крылцы матылька.

О хвалі, не змагу цягаць зноў без аддыху,
Спазнаўшы вашу млявасць, грузы на плячах,
Ні бачыць вымпелаў гандлёвых суднаў пыху,
Ні плыць у катаржных пантонаў на вачах.

# ШАРЛЬ БАДЛЕР
*(1821–1867)*

## ДА ЧЫТАЧА

Прывыкла ў нас душа і цела без агіды
Прымаць паскудства, грэх, дурноту і крутню.
Мы сыцім без згрызот нам любую гайню,
Як тыя жабракі, што кормяць вошы й гніды.

Вынослівы наш грэх, а каянне як рыба,
Што гіне без вады, — і кожны з нас бяжыць
У радасці назад, у твань, з надзеяй змыць
Няшчырымі слязьмі заганы нашы й хібы.

Вучоны Трысмегіст загойдвае памалу
На ложы зла й граху ачмураны наш дух,
Аж выпарыў нашчэнт з нас гэты хімік-зух
Усе да аднаго каштоўныя металы.

Так, гэта Д'ябал нас трымае пад апекай!
І звабай гідкае ўсё пляміць назнарок;
Глядзім без жаху мы ў прапахлы серкай змрок,
Штодня спускаемся на крок бліжэй да Пекла.

Бы ўбогі рэспуст той, што звялую пахвіну
Старой гетэры ссе й цалуе наўсалодзь,
Гэтак і мы сабе шукаем слодыч, хоць
Яна ўжо выціснутым стала апельсінам.

Нібы мільён глістоў у мозгах карагодзіць
Зданнё са світы Сатаны, і неўпрыкмець
У нашы лёгкія з удыхам кожным Смерць
Ракою цёмнаю са стогнам уваходзіць.

Калі яшчэ штылет, пажар, яд, юр жывёльны
Не вышылі на тле нікчэмных лёсаў свой
Злавесны сілуэт, дык гэтаму віной
Нямогласць нашых душ, ні да чаго не здольных.

Аднак сярод гіен, шакалаў, павіянаў,
Грыфонаў, павукоў, гадзюк, нетапыроў,
Жахлівых монстраў, што выццём халодзяць кроў,
У збрыджаным наскрозь звярынцы ўсіх заганаў, —

Ёсць горшая з пачвар, найбрыдшая з мярзотных!
Хоць лішні жэст і крык не на яе капыл,
Ды ўсю зямлю яна раструшчыла б на пыл
І позехам адным зглынула б свет ахвотна;

Завуць яе Нуда! — пакурвае цыгару
Няспешліва й глядзіць на эшафот праз дым
Слязлівым вокам. Ты, чытач, мой пабрацім,
Ты знаеш гэтую галантную пачвару!

**АЛЬБАТРОС**

Бывае, ловяць часцяком дзеля забавы
Вялізных птушак-альбатросаў маракі,
Якія ўслед за караблём падчас выправы
Над горкай безданню вандруюць напрасткі.

Кладуць на дошкі іх — і гэты князь блакіту,
Адважны й спрытны ў час палёту птах,
Няўклюдна валачэ два крылы, што нібыта
Два вёслы цяжкія звісаюць па баках.

Імклівы ў небе, незвычайнай прыгажосці —
На палубе такі няўклюдны й смешны ён!
Пад рогат яму ў дзюбу пхае люльку хтосьці,
Другі кульгае небараку наўздагон.

Паэт падобны рыхт у рыхт да князя хмараў,
Які смяецца з Перуна й праз шторм ляціць,
Ды, зрынуты на дол з падвоблачных абшараў,
Праз крылаў даўжыню не можа ён хадзіць.

## ГІЁМ АПАЛІНЭР
*(1880–1918)*

### АДНАЧАСОВАСЦІ

У цямночы гарматаў пальба
Быццам хвалі раз'ятраных сэрцаў
Дзе вялікая спее журба
Ад якое нікуды не дзецца

Паглядае яна з-пад рукі
На прывабу часоў недасяжных
Ў гэтым громе вялікім які
Над зямлёю расце незаўважна

Вунь яна зняўшы каску ўспамін
Пра лілею вітае пра ружу
Пра квітучы над Сенай язмін
Што пялёсткі на сцежкі цярушыць

І пад каскай яна ўсё адно
Валасоў хвалі цёмныя мроіць
Той што ўжо не чакае даўно
О ліловасць вялікага мора

Спарышы прыгажосці з ляшчын
Марна вас абівае Шал гэткі
Тых сініц што ў цябе на плячы
Перазовы звіняць для брунеткі

Наша любасць прамень Напрасткі
Ён з пражэктара сэрца шыбае
Да нязгаснага палу які
Вышыні майгача дасягае

О майгач маіх згадак О дым
Чорны дым валасоў Магдалены
Бляскі стрэлаў у змроку начным
Дадаюць сваю светласць нязменна
Тваім пекным вачам Магдалена

## МІДЗЬЕНІ
*(1911–1938)*

### НОЧ

Багіня? Жанчына? Адкуль невядома
Сышла з вышыні да майго ты жытла,
І ветрык дыхнуў, і салодкая стома
Трывогаю сэрца маё апляла,
І толькі гадзіннік стукоча ў паўзмроку,
Ды чуецца водгалас песні далёкай,
Што з высяў, адкуль ты зляцела, ліецца.
Ідзі ж да мяне! Чую стук твайго сэрца!
У вочы твае і на вусны
Гляджу неапусна!
Мяне галізна твайго цела
Пажадаю цвеліць!
Маўчанне тваё і лагоду
Прымаю за згоду!
Так, я не мылюся! У мяккім сутонні
Нас вір асалоды закруціць сягоння...

### ВОСЕНЬ ПРЫХОДЗІЦЬ

На вулкі й твары восень скруху сцеле,
Канае сонца, вецер дзесь скуголіць,
Пакутуе душа ў знямоглым целе,
Трапеча звялае жыццё на голлі.

Апошні танец барваў сухазлотых.
(Вар'яцкі лёт і сутаргі лістоты!)
Надзеі нашы, радасці й пяшчоты
Канаюць па чарзе ў абдымках слоты.

Вунь дуб, застыглы ў высілку тытана,
Крывёй сплывае ў бруях слёз нябесных,
«Жыць! Жыць хачу!» — галосіць апантана
І нікне ў стогне, грозным і балесным.

І гэты стогн ляціць па наваколлі,
Захраслым у імгле. І дрэвы голле
Дарэмна цягнуць у мальбе, бо знаюць:
Няма ратунку, й хутка ўсе сканаюць.

На сэрцы смутак, а на вейках слёзы
У час, калі не грэе кроў у жылах,
А груд магілы свежай у нябёсы
Расце пад скогаты вятроў панылых.

На вулкі й твары восень скруху сцеле...
Дык плачце над усім, што не збылося,
Смуткуйце над лісцьмі, што адшамрэлі, —
Над тленам іх, што гэтак красяць восень.

**З. Б.**

Зыбаліся вячорныя абрысы
На тле зары ў праменні косым,
На пурпуровых шатах ціса,
На сінім покрыве нябёсаў,
І адбіваліся ў сінечы
Тваіх вачэй, у глыбіні каторых
Каханне ўзнікла, ціхае, як мора
У час, калі над ім трапеча
Галубка, бы вястунка надыходу
Суцехі, шчасця і лагоды...
Каханая, ад той хвіліны
Я мару горача й няспынна
Пра светлае і чыстае каханне
Вачэй блакітных, што адхланне
І радасць дораць у жыцці глухім
Пяшчотным позіркам сваім.

## ЛЕАНІДА ЛАРЫ
*(1949–2011)*

### ГАДЗЮКА

Аднойчы на базары спыніў мяне жабрак
З дзівоснаю гадзюкай, што сыкала на вуха:
«Смуткуеш ты, згадаўшы пра смерць сваю, аднак
“Яшчэ не заўтра!” — кажаш — і адступае скруха».

«Бяры за так! Не шкода аддаць мне гэткі цуд! —
Сказаў стары і раптам у роспачы заплакаў. —
Удзень аддам, а ўранні яна ўжо тут як тут —
Вось так я і гарую з праклятаю вужакай...

Няма ўжо моцы несці цяжкі гэты праклён!» —
«Бяру! — сказаў я цвёрда. — Бяру й не пашкадую!
Я — малады, хоць вечна хай сыкае пра скон:
Яе ручной зраблю я, а не — дык увартую!»

І вось гадзюка стала маёй... І хутка смак
Жыцця я страціў цалкам, бо сык нястомны слухаў:
«Смуткуеш ты, згадаўшы пра смерць сваю, аднак
“Яшчэ не заўтра!” — кажаш — і адступае скруха».

А ноччу дзікім жахам яе сухі фальцэт
Мяне працяў, і з хаты я выбраўся без гуку,
Ды ўбачыў: мой набытак паўзе за мною ўслед...
І я камень намацаў і кінуў у гадзюку.

І адпаўзла гадзюка, у вочы мне на міг
Зірнуўшы з нейкім жалем і з нейкім недаўменнем.
І апусціў руку я, і раптам я спасціг,
Што, ўкленчыўшы, прашу я ў гадзюкі прабачэння...

Зноў скардзіцца камусьці ў натоўпе той жабрак
На насланнё-гадзюку, што сыкае на вуха:

«Смуткуеш ты, згадаўшы пра смерць сваю, аднак
“Яшчэ не заўтра!” — кажаш — і адступае скруха».

**КЕНТАЎР**

Кентаўр ужо даўно сачыў за мной...
Займеў ён звычку з-за муроў падглядваць,
як па пяску іду я басанож,
і скарпіёнаў кідаць мне пад ногі —
не, не са зла, ён не хацеў пакрыўдзіць,
ён проста сам не ведаў, што хацеў.
І я не крыўдавала на яго,
не адганяла і не парушала
ягоную адвечную самоту.
Я разумела: ён — кентаўр і жыць
ні між людзей, ні без людзей не можа.
А ціхі дом на ўскрайку цёмнай пушчы
з пляскатым каменем замест парога,
які стаяў далёка ад паселішч
над сіняй сажалкай, — яго, кентаўра,
нібы магнэс, прыцягваў, зразумела.
Я вочы ў вочы з конечалавекам
не сустракалася ні разу. Толькі неяк
убачыла, як ён неасцярожна
у сажалцы плёскаўся пад поўняй.
Адчуўшы позірк мой, ён стрымгалоў,
раскідваючы пырскі, знік у змроку.
Назаўтра я на беразе вільготным
знайшла глыбокія сляды з вадою,
разгладзіла дрыготкаю рукою
і жоўтым жвірам іх пазасыпала —
і гэта ўсё, што я магла зрабіць...
Я ведала, што ён умее думаць,
бо ўсё мянялася з ягоным прыйсцем:
само паветра! І трава крычала
пра цяжар цела, што яе дратуе.

Магчыма, гэтак бы ўсё і прайшло,
як прамінае ўсё на гэтым свеце,
калі б не прага, палкая, сляпая,
што спела й разгаралася ўва мне:
убачыць зблізу дзіўны твар ягоны!
І вось, вар'яцкай ноччу, не стрывала
той прагі я і выйшла з дому ў цемрадзь,
каб адшукаць яго сярод травы...
Ён спаў на дзірване, аднак пад грывай,
пад дзікай, варанoй, калматай грывай,
дзіцячы твар, як малако, свяціўся...
Ці вам здаралася смяяцца нішкам
ад несвядомай радасці, ад шчасця,
страсаючы, як зжоўклы ліст з галіны,
сумненняў і журботаў даўніх рэштку?
Ён быў такі! Ніякая, напэўна,
моц іншая не здолела б змякчыць
пакуту, што скажала рысы твару
удзень, калі ён мэнчыўся сабою.
І я глядзела — ў чым мая віна,
што адарвацца не магла? — глядзела.
І ён, прачнуўшыся, зусім як мы,
па-чалавечы, зазірнуў мне ў вочы,
забыўшыся на цела, у такой
шалёнай радасці, што боль і сорам
мне скроні сціснулі, і я не смела
ні варухнуцца, ні ўздыхнуць: у страху,
што ўспомніць ён усё і — зразумее...
Дзесьці ў імгле цурчэў ручай, і ціха,
было так ціха... Толькі цёплы ветрык
ды нашы душы... І яны зліліся
паглядамі, і велічна заззялі,
і паімчалі разам цераз цемру,
як светачы два ў неўтаймоўным віхры.
...Ды дзень прыйшоў! І сонца, быццам Юда,
пацалавала промнем лоб кентаўра —
і ўбачыў ён сябе! У дзікім спудзе,

не верачы яшчэ, што капыты,
і цяжкі крыж, і поўсць яму належаць,
ускочыў і мо ўпершыню ўсвядоміў,
што сам сабе зрабіць павінен ён...
Лавіла чуйным слыхам я ўвесь дзень
стук капытоў у нетрах цёмнай пушчы,
стук капытоў ля паляўнічай сцежкі —
і ў роспачы няўмольны стрэл чакала.

## ТОМАС ВЕНЦЛАВА

*(н. 1939)*

### МУЗЕЙ У ХАБАРЦЕ

Спакон бязлюдны край. Глухі базальт.
Спрадвечных хваляў маятнік рухавы.
Дакладней, хоць тубыльцаў ёсць няшмат,
што ацалелі пасля трох аблаваў,
ды гэта неістотна. Вось іх спрат —
паўвыспа з прахам продкаў. Іх паставы

убогія зацеміўшы, паэт
заўважыць нехаця: «Люд занядбаны...»
(Яшчэ нядаўна тут ляжаў шкілет,
аднак яго спалілі — мо з пашаны,
а мо як абрыдлелы ўсім прадмет,
каб месца не займаў.) Але ж заганна,

калі пустуе месца. І наноў
зацягваюцца у прасторы дзюры.
Свет узнавіла жменька мастакоў,
спакуснікаў, абранцаў авантуры,
не надта вінаватых. А без слоў —
Гулаг брытанскі у мініяцюры:

пазней у небыццё сышоў і ён...
Тут самы мірны кут на ўсёй планеце.
Усё мінула. І магнітафон,
здараецца, у хібах прызнаецца.
І, з вечнасці пастаўшы, аўтахтон
застрашыць нас з экрана марна пнецца:

Нахіленая галаў, нізкі лоб,
які не раняць церні. Сёння клопат
уладаў нават мёртвыя ўзахлёб,

напэўна, славілі б. І недахопаў
у яго мове, пэўна, менш было б.
Ды ўсё гэта, бадай што, сфера ўтопій.

Хіба што на сваім напрамку час
І турмы ўдасканальвае патроху.
Каля муроў акруглых вабіць нас
бляск ветразяў, казыча вецер бронхі,
а той, хто зведаў гарадскіх прыўкрас,
назад білет свой не вяртае Богу,

як і кампанія «Ансэт». Спакой.
Прылады племя зніклага. Кайданы
за шклом нябіткім з'едзены іржой.
Гісторыя бы сцёрты грош мядзяны.
І антарктычнай поўняцца імглой
уступы гор і роўнядзь акіяна.

Сякера ў каранёх. Валун. Для вас
я ўжо не брат, хоць і сусед па зале,
дзе часу вертыкаль рассекла час,
дзе здымкі й альфабэты жоўкнуць сталі,
дзе штось яшчэ крычыць разбіты сказ
і попел у вітрыне з немым жалем.

Што значыць забыццё? Цурчыць ручай
і капаюць клапсідры. Лямпа сонна
гайдаецца, успыхвае адчай
з Сусветам цесным побач ці з адхонам.
Пласты пяску, мірганне майгача.
На ветры знакі. На вадзе пісьмёны.

* * *

Абрыс дзвярэй, вядро, і крэсла, і замок —
бы ў воблаку. Даўно за поўнач. Ад парога
адсунецца ў журбе адліву зорка ў змрок,
каб госця ў доме не магла пазнаць падлога.

Струмок над вогнішчам збляднее на вачах,
хіснецца долу і прыгне сцяблін галовы,
а човен сам адвяжацца, і ў небе птах,
паводле звычкі, перагоніць марнасць слова.

Мо ўздумаў мёртвы гаспадар дамоў прыйсці
і, не знаходзячы запалкі, з кута ў кут блукае,
і штось вышэйшае ад нас існуе ў небыцці,
што быццам музыка і лёд нас сустракае.

Разломіць цішу ручая цяжар ступні,
нябачная рука з суглінку здыме дзёран,
і сувязь рэчаў уваскрэсне ў цішыні,
надоўга, пэўна, абясцэніўшы прастору.

## ЯН БЖЭХВА
*(1900–1966)*

### ПОМСТА

Як пірат, як заваёўнік, ува ўсіх навідавоку,
Замест ветразя цябе я разапну на цвёрдай рэі,
У аголенае цела ўп'юцца вострыя вяроўкі,
Твае вушы прасвідруе свіст прадонняў і завеі.

Валасы твае разветрыць мокры подых навальніцы,
Будзе віхар рваць і шарпаць грудзі, кволыя ад зморы,
Каб глядзелі ў змрок нязводна неамыльныя вачніцы,
Каб вяла мяне на бітвы і рабункі цераз моры.

Як палотнішча на мачце, сонца скуру тваю спаліць,
Будуць енчыць твае вусны, спляжыць дождж твае
прынады,
Рукі зробяцца шнурамі, сэрца стук — усплёскам хвалі,
Будзем разам Атлантыды адкрываць за даляглядам.

Хай грот-мачту, бы канаты, абвіваюць твае сцёгны,
Разамкнёныя калені хай лунаюць, бы штандары,
Паплывем у вір страшлівы, дзе скавычуць штормаў
стогны,
Ў скавытанне, невяртанне, дзе трухлее дых карсара.

Ведаю, што ты — віхура, што нянавісць твайго цела,
Мною ўзнятая, праз смерчы панясе мяне ў край смерці,
У якім — разгадка мора; паімчыць мяне злюцела
За найдальшыя бязмежжы да найбольшай крутаверці.

З караблямі ўсіх флатылій у твой гонар біцца буду,
За армадаю армаду патаплю й параскідаю,
Дасягне глыбінь трывога, мора ўспеніцца ад спуду,
Толькі ўжо пра нас з табою аніхто не прыгадае.

Абмінем усе фіёрды, выспы, сушы і ўзбярэжжы,
Ўсе, ад Поўначы да Поўдня, акіяны прамінема,
Буду бачыць, як вятрыска тваё цела трэпле й рэжа,
Буду слухаць, як галосіць у бяссіллі твая немач.

Нават там, за крэсам помсты, калі ўжо мая судзіна,
Натыркнуўшыся на скалы, рыфам днішча прасвідруе,
Ветразі паапускаю ўсе, апроч цябе адзінай,
І пайду на дно з табою, і да смерці не дарую.

## ЗБІГНЕЎ ГЕРБЕРТ
*(1924–1998)*

### КАЛЯ БРАМЫ ДАЛІНЫ

Пасля зарападу
на выжарышчы голым
пазбіраліся ўсе пад ахову анёлаў

з ацалелага ўзгорка
ахапіць вокам можна
увесь статак двуногаў рыклівы трывожны

папраўдзе іх няшмат
з улікам нават тых
хто прыйшоў з кронік казак і жыццяпісаў святых

але досыць развагаў
перанясемся паглядам
да гарлавіны даліны
адкуль чуецца крык

пасля свісту выбуху
пасля свісту цішы
гэты голас трымціць бы ў крыніцы жывая вада

як мы высвятляем
гэта крык матак у якіх адбіраюць дзяцей
бо ўратоўваць нас
тлумачаць нам
будуць паасобна
анёлы суворыя вартавыя
і трэба адзначыць занятак у іх нялёгкі

яна просіць
— схавай дзіця ў воку
у далані у плячах

заўсёды былі мы разам
не можаш мне адмовіць цяпер
калі памерла й прагну твае чуласці

старшы анёл
з усмехам уладжвае непаразуменне

бабуля нясе
парэшткі канаркі
(усе звяры й птушкі загінулі трошкі раней)
— была такая мілая — мовіць з плачам —
што ні скажаш
усё разумела нібы чалавек
голас ейны тоне ў супольным гармідары

нават дрывасек
якога цяжка ў чымсь западозрыць
стары згорблены селянін
прыціскае да грудзей сякеру
— праз усё жыццё была мая
зарабляў ёю на хлеб там
заераблю й тут
ніхто не мае права —
кажа —
не аддам

тыя хто як здаецца
без болю паддаліся загаду
ідуць з апушчанымі галовамі ў знак пакоры
але ў сціснутых кулаках хаваюць
шматкі лістоў стужкі й пасмачкі валасоў
і фотаздымкі
якія спадзяюцца наіўна
не будуць у іх адабраныя

вось так яны выглядаюць
на момант
перад апошнім падзелам

на тых хто скрыгоча зубамі
і тых хто спявае псальмы

## СТАРЫ ПРАМЕТЭЙ

Піша мемуары. Спрабуе ў іх высветліць
месца героя ў сістэме канчатковасці
існавання, узгадніць спрэчныя паняткі
побыту й лёсу.

Агонь весела жухаціць у камінку, на кухні
кратаецца жонка —
экзальтаваная дзяўчына, якая не змагла
нарадзіць яму сына, але
цешыцца, што й гэтак увойдзе ў гісторыю.
Падрыхтоўка да вячэры,
на якую мусяць прыйсці мясцовы пробашч і
аптэкар, найблізшы цяпер
прыяцель Праметэя.

Агонь жухаціць у камінку. На сцяне
пудзіла арла й падзячны ліст тырана
Каўказа, якому, праз вынаходства Праметэя,
пашанцавала  спапяліць узбунтаванае
места.

Праметэй ціха смяецца. Гэта цяпер
адзіны ягоны спосаб выказаць нязгоду
са светам.

## ЧЭСЛАЎ МІЛАШ
*(1911–2004)*

### КАЛЯДЫ

Нядобрыя анёлы,
Запляміце вы стойла,
Хоць срэбныя ў вас крылы,
Іх густа кроў пакрыла.

О матка, над зямлёю
З чырвонаю расою
Ляцелі мы штосілы
І замачылі крылы.

Нядобрыя анёлы,
З абдзёртых крыл упала
На лоб яму крапліца
Густая, як жывіца.

О матка, глянь, што стала,
З чала Яго заззяла
Крыві крапліца ўшыркі
Дзівосным бляскам зыркім.

О матка, глянь, што стала,
Яна ўгары заззяла,
Над цёмнай ноччу земскай
Ёсць зоркай віфлеемскай.
Gloria, gloria in excelsis Deo.

*Варшава, 1942*

## СКАРГА ПАНЯЎ МІНУЛАГА ЧАСУ

Нашы суткі з брыжамі падзёрліся ўшчэнт на дарогах,
Перлы ў бездань гісторыі ўпалі й памерклі ў зямлі,
Разагнаў рэштки спаленых стужак вятрыска па водах,
З нашых пальцаў пярсцёнкі нядобрыя людзі знялі.

Нашы дзіва-прычоскі, ў якія майстры заплятаі
Зоркі срэбныя, яркія райскія пёры, півоні,
Спрахлі й попелам паабсыпаліся ў шэры суцём.

А калі з мора ўстала зара і абсягі заззялі,
Галяком па прыступках мы ў новым ішлі Вавілоне,
Штось прыпомніць спрабуючы з зморшчаным, хмурым
чалом.

*Гошыца, 1944*

## ПЕСЕНЬКА ПРА ПАРЦАЛЯНУ

Ружовыя сподкі, гаршчэчкі,
Квяцістыя філіжанкі,
Ляжаць на беразе рэчкі,
Там, дзе прайшліся танкі.
Над вамі ветрык віецца,
З пярыны пух цярушыць,
На чорны след кладзецца
Зламанай цень ігрушы.
Дол, куды я ні гляну,
Крохкай пенай засланы.
Нічога мне так, прабачце,
Не шкода, як парцаляны.

Ледзьве займецца на ранне
Над кругаглядам пляскатым,
Там, дзе гудуць раскаты,
Сподачкаў бразгатанне.
Сны майстроў залатыя,

Застыглыя лебедзяў пёры
Плывуць у падземныя норы,
Дзе іх забыццё акрые.
Мінаю, устаўшы рана,
Гэта ўсё ўсхвалявана.
Нічога мне так, прабачце,
Не шкода, як парцаляны.

Да самага сонца прастора
Шкарлупкамі густа ўкрыта.
Скрыпіць пад ботам бадзёра
Пласт парцаляны разбітай.
Забаўкі, што колісь кідкай
Сваёй весялілі барвай,
Цяпер, ах, заплямлены брыдкай
Запеклай чырвонай фарбай.
На доле свежаўскапаным
Ляжыць вушка, дзенца ад збана.
Нічога мне так, прабачце,
Не шкода, як парцаляны.

*Вашынгтон Д. С., 1947*

## НАТАТНІК: ПЕНСІЛЬВАНІЯ

«Ва Ўсходняй Еўропе заўжды штосьь благое,
Ва Ўсходняй Еўропе заўжды штосьь не тое,
Ва Ўсходняй Еўропе заўжды ўсё старчма,
Жыў-быў чалавек — і праз хвілю няма.
Забудзь яе, хто б ні збіваў цябе з тропу,
І маўчы, што родам з Усходняй Еўропы».

Так пані Бакар да дачкі казала Катрыны
І каву сабе налівала з блішчастай машыны.
Муж пані Бакар празываўся Пекар,
Хоць здабываў чорны вугаль з зямлі ўжо чвэрць веку.
Ціхі то быў чалавек, сялянскага сэрца,

А народжаны дзесьці паблізу Мельца.
Бацька пані Бакар на саксах калісь вандраваў,
Палі брандэнбургскія жаў і араў.
Матка пані Бакар пасвіла авечкі
У падгалянскай вёсцы ля соннай рэчкі.
Граў ёй на золку сцюдзёным ражок пастушы,
Які пані Бакар, прынамсі, не ўзварушыць.

Абпёршыся локцем на падваконне й смакуючы каву,
Яна за акном асеннюю бачыць аправу:
Зялёныя дахі з палоскай неону наверсе,
Станцыя Amoco, побач станцыя Esso.
І там, дзе кастрычнік зыначыў клёны,
Стаіць на гарах лес цёмна-чырвоны,
Злёгку зацягнуты сіняй смугою. Здаецца,
Бачны ён цераз магічнае шкельца.
Звалаў пад лесам вялікія шэрыя плечы
Да занядбанай фартэцы падобныя ў нечым.
Лябёдка пад'ёмніка кружыць няспынным рухам,
І пыхкае склычаны ветрам дымок без аддухі.
Дробныя хаткі бягуць ніжэй, па ўзбоччы,
Бы выцінанка лобзікам, што цешыць вочы.
А ў дрэвах, дзе канчаецца ўжо наваколле,
Горнае мястэчка над рэчкай свіціцца праз голле.

*Вашынгтон Д. С., 1950*

# КАНСТАНТЫ ІДЭЛЬФАНС ГАЛЧЫНСКІ
*(1905–1953)*

## ВІЛЕНСКІЯ ЭЛЕГІІ

Тонуць у веснім дажджы мерныя тахты верша,
ды суціхае дождж, гучаць толькі струны рытму —
формы капелюшоў, крокі прэлатаў на бруку
зноў пераносяць мяне, бы ў сённяшнім сне, да Рыма.

Шкода, бракуе фарсы на ваяж да Ватыкана.
Зноў трэснула люстра дажджу, хлешча з гатыцкіх рынаў.
Хмары бягуць угары, як цягнікі са зброяй.
Калі б з МЗС не сышоў, консулам быў бы ў Рыме.

На Вастрабрамскай, 9 месціцца Клуб дыскутантаў,
іхнія прозвішчы: Marx, Sorel, Vilfredo, Pareto...
Гром шпурляю на Клуб, пытаецца Клуб: — Чаго хочаш,
хмараў галандскіх стод, нічога не варты паэта?

Ля Штраля (vis-a-vis Пошты) сходзіцца прафесура:
Дэмбінскі, Іво Яворскі, Манфрэд Крыдл, Срэбны
атэньчык;
і над сталом струхлелым, над дрогкаю шклянкай
паўчорнай
з «Фаўста» рушаць цытаты, як штурмавыя аддзелы.

Ля Базілікі тлум. Дзынкаюць шпоры маёраў.
Вулічныя кабольды ў сподках нясуць пралескі:
— Пан, усяго пяць грошаў пучок пралесак каштуе...
Свежыя... Толькі што з лесу... Купі, пан! Купі, пан! Купі,
пан!

О, таямнічая Вільня! Аранжавая ў зеляніне!
Вечарам асабліва, калі, бы ў бутэльцы ад піва,

сядзіш між муроў барока, а ў іх, бы ў празрыстых шафах,
здрадлівыя кандэлябры, балады, водары скону...

Назвы мастоў: Зверынецкі, Зялёны, адкуль магік Боска
Навідавоку ўзнёсся ў паўночнай імглы настальгічнасць.
І над Вілейкай масткі з парэнчамі ў форме трытонаў —
Скочыць з іх у ваду — гэта адна рамантычнасць.

З вуліцы Мыльнай жыды, з Падвойнай, Шкляной, Гаона,
з ЛЯЛЕК НАПРАВЫ жывуць і ЗАЛІВАННЯ
ГАЛЁШАЎ,
вокам пачырванелым шукаюць знакаў на хмарах,
смажаць цыбулю й вераць у прыйсце Гога-Магога.

Вымеці, служка, пакой! Ужо мая пані блізка!
Пыл з вазонаў сатры. Стужак дадай да гітары.
Ура! самалёт над местам, а ў самалёце Наталля.
О, рассвяці, Наталля, жыцця майго прыцемак шары!

*1935*

## АДАМ МІЦКЕВІЧ
*(1798–1855)*

### СМЕРЦЬ ПАЛКОЎНІКА

У глухім гушчары перад плотам
Леснічоўкі старой стала рота;
А ў дзвярах стаіць бледны ахоўнік —
Там, у хатцы, канае палкоўнік.
З вёсак збегліся людзі: няйначай
Быў вялікай ён моцы і славы,
Калі так просты люд па ім плача
Й пра здароўе пытае, цікаўны.
Загадаў асядлаць напачатку
Ён каня — і ў пакой яго ўводзяць,
Каб шчэ раз ён таварыша ўбачыў,
Незаменнага ў кожнай прыгодзе.
Загадаў даць мундзір свой стралецкі,
І штылет свой, і пас, і ладункі;
Вой стары — хоча ён, як Чарнецкі,
Перад сконам зірнуць на рыштункі.

Пасля розвітаў гэтых у дзверы
Ксёндз вясковы ўвайшоў з Панам Богам;
І ад жалю збялелі жаўнеры
І ўсе ўкленчылі перад парогам.
Нават воі Касцюшкі, што ў бітвах
Сто разоў сваю кроў пралівалі
Без адзінай слязы — не стрывалі
І ў слязах паўтаралі малітвы.

У капліцы біў звон на світанні;
Кінуць хату стральцам давялося.
Бо маскаль у ваколіцах гойсаў.
Увайшлі да героя сяляне.

Ён ляжаў у куце на тапчане —
У руках святы крыж, а пры боку
Яго верныя нож, дубальтоўка.

Але, хоць і ў жаўнерскім убранні,
Быў у лыцара твар надта гожы
І высокія грудзі... Ах, Божа,
Там дзяўчына, ліцвінка была там,
Камандзерка — Эмілія Плятэр!

*1882*

## КАЗІМІР ПШЭРВА-ТЭТМАЕР
*(1865–1940)*

### НА ДЗЕНЬ АНЁЛА

На Дзень Анёла б'юць званы,
Марыю славяць хай яны
і Бога славяць хай яны...
На Дзень Анёла б'юць званы,
растануць гукі іх, як сны...

У цемрадзі гадзіны шарай
ідзе праз пусткі, праз імшары,
па топкіх багнах, па разлогах
і па закінутых дарогах
задумлівасць палёў, Журбота...
Ідзе і сыпле смутку мліва
на пушчы, скутыя дрымотай,
на водаў глыбежы й разлівы,
бы інь, што поўню аплятае...
Вядзе з сабою жаль з маркотай...
Вунь выйшла на пагост санлівы
і на магілу той сядае,
што смерць спаткала маладою:
сядзіць і ў свет глядзіць з нудою...

На Дзень Анёла б'юць званы,
Марыю славяць хай яны
і Бога славяць хай яны...
На Дзень Анёла б'юць званы,
растануць гукі іх, як сны...

Па ціхіх водах цені ходзяць,
імгла па выдмах карагодзіць,
а рэчка ціха плешча ў змроку
і ўсё далей адносіць хвалі...

Хтось скардзіцца ў ёй, хтось заводзіць
плач несуцешны, поўны жалю...
А рэчка ўсё цячэ й дзесь гіне,
губляецца ў гарах, аблоках
і ўжо не вернецца з тых даляў,
куды так сумна адыходзіць,
і прападзе ў марскіх глыбінях,
і ўжо не вернецца з тых даляў...

На Дзень Анёла б'юць званы,
Марыю славяць хай яны
і Бога славяць хай яны...
На Дзень Анёла б'юць званы,
растануць гукі іх, як сны...

Дымы ўздымаюцца няспешна
над вёскай, крытаю саломай —
снуюцца, цягнуцца ў бязмежжа,
завіснуць хвілю нерухома
і дзесьці гінуць у прасторы...
Мо даганяюць рэчак хвалі
і далятуць калісь да мора...
А змрок пасоўваецца ў далеч,
усё гусцейшы і цяжэйшы
і ўсё шырэйшы і шырэйшы,
заліў даверху горы й пушчы,
заткаў усю зямлю мярэжай
і ў неба ўспёрся, невідушчы...

На Дзень Анёла б'юць званы,
Марыю славяць хай яны
і Бога славяць хай яны...
На Дзень Анёла б'юць званы,
растануць гукі іх, як сны...

Ідзе душа ў самоце полем,
ідзе са злом сваім і болем,
ідзе па лесе і па збожжы

і злыбед, болю цягне ношу,
бадзяжны лёс свой праклінае,
кляне ў слязах свой кон страшлівы,
з вялікай скаргай і адчаем
ідзе наўпрост па соннай ніве,
ідзе, нібы закляты прывід,
а поруч вецер свішча й скача —
куды ні зверне і ні скрывіць,
паўсюль чакае шлях жабрачы —
нідзе не знойдзе ні супынку,
ані прытулку, ні спачынку...
Ідзе праз поле і ад мукі
над галавой ламае рукі...

На Дзень Анёла б'юць званы,
Марыю славяць хай яны
і Бога славяць хай яны...

## ЮЛЬЯН ТУВІМ
*(1894–1953)*

### ПРА ПАНА ТРАЛЯЛІНСКАГА

У мястэчку Спевавіцы
Ёсць завулак Весялінскі:
Там жыве спявак славуты
Пан Траліслаў Траляпінскі.
Яго жонка — Тралялёнка,
І дачушка — Тралялюшка,
І сыночак — Тралялёчак,
І сабачка — Траляпячка.
Ну, а котка? Ёсць і котка
Па мянушцы Тралялётка.
А яшчэ ёсць папугайка —
Вельмі смешны Траляляйка.

Пасля снедання сямейка
Рассядаецца ў гасцінай,
Каб пацешыць Тралiслава
Улюбёнай кавацінай.

Вось узняў пан Тралялінскі
Свой смычок-дручок угору —
Замаўчалі ўсе і раптам
Заспявалі дружным хорам:
«Траля-траля,
Траля-ляля,
Траля-траля,
Траля-ляля!»

Так вясёлай песні хваля
Тралiслава славіць-хваліць,
Што і ён з усімі разам
У натхненні, у запале

Заспяваў магутным басам:
«Траля-траля, траля-ляля!»

Заспявалі ўсе суседзі,
Падхапіў праходны недзе,
І ўжо ў доме, і ўжо звонку
Чуцен спеў пра пана звонкі:
Пяе шофер — Тралялёфер,
І кухарка — Тралялярка,
І служанка — Тралялянка,
Паштальён — Тралялялён,
Паліцэйскі — Тралялейскі,
Адвакат — Тралялякат
І пан доктар — Тралялёктар!
Нават крышка-мышка,
Мышка Траляліішка,
Хоць баіцца коткі,
Коткі Тралялёткі,
І яна ў закутку,
Цёмным тралялютку —
І яна пішчыць ціхутка:
«Траля-траля, тралялютка...»

# ЦЫПРЫЯН КАМІЛЬ НОРВІД (1821–1883)

## ВЯДОМЫЯ ІСЦІНЫ

1

Калі з вясною дух Паэта,
Як матылёк, п'е мёд паветра,
Тады ён мовіць толькі гэта:
«*Зямля — круглістая — планета*!»

2

Аднак калі ад сцюжы дрогкай
Змаўкае лісця хор хвалебны,
Тады яшчэ дадаць патрэбна:
«*Ля палюсоў — прыцята злёгку*...»

3

Ёсць і яшчэ адна выснова
Па-над сілам усіх прыгостваў
Паэзіі і красамоўства:
* * * * * * * * * * * * * *
*Даць рэчы тоеснае слова*!

## ПРОШЛАСЦЬ

1

Не Бог творца *прошласці*, мукаў і смерці,
А той, хто касуе закон,
Бо не церпіць ён — дзён;
Бо *ўспаміны* жадае адсунуць і сцерці!

2

А не быў жа, як хлопчык, што едзе на возе
І гаворыць: «Пабач!
Дуб ад нас... уцякае!.. наўскач...»
Калі дуб нерухома стаіць пры дарозе.

3

*Прошласць*? — *сёння*, што ў далеч збягае паволі,
Як за коламі гай,
А не... *нейкі там край*,
*Дзе нага не ступала ніколі*!..

## У ВЕРОНЕ

I

Над Капулецi й Мантэкі дамамі
Мокры блакіт, узараны грамамі,
Зорным раскрыўшыся вокам;

II

Моўчкі глядзіць на руіны варожых
Замкаў, на рэшткі глухіх агароджаў —
І скідвае знічкі звысоку;

III

Шэпчуць праз сон кіпарысы, што гэта —
Слёзы лятуць для Рамэа з Джульетай
З неба... і ў труны сцякаюць;

IV

А людзі, што маюць дапытлівы розум,
Кажуць: лятуць камяні, а не слёзы,
І — іх ніхто... не чакае!

**ПІЛІГРЫМ**

I

Ёсць найвышэйшы *чын між чыноў*,
Як над дахамі места вежа
У небе пахмурым...

II

Вы мяркуеце, што я не з паноў,
Бо дом мне рухомы належыць
З вярблюджай шкуры...

III

І ўсё ж я ў небе бываю, калі,
Як піраміду, яно ўвышыню
Душу парывае!

IV

І усё ж і *я столькі маю зямлі,*
*Колькі патрапіла мне пад ступню,*
*Пакуль ступаю*!..

**ЗДАНЬ**

1

На лонданскім бруку слотным
У белай імгле спаткаеш
Шмат каго — ды істоту,
Зляканы, адну прыгадаеш.

2

Чало яе ў цернях? ці ў брудзе?
Таго распазнаць няможна;

На вуснах маленні аб цудзе...
Ці? пена са слоў бязбожных!..

3

Сказаў бы, што гэта мокне
Біблія ў гразкім балоце,
Па якую ніхто ўжо не скокне,
Не час бо думаць... аб цноце!

4

*Роспач* і *грошы* — два словы —
Як бельмы ў вачох галодных.
Скуль рушыць?.. хавае ў сховы,
Куды?.. у *нішто* — верагодна!

5

І ты, чалавецтва, як пошасць
Гэтая, плачаш і кпіш;
— Як гісторыя?.. толькі б: «*крыві*!..»
Як грамадства?.. выгукваеш: «*грошы*!..»

**СТАЛІЦА**

I

О! вуліца, вуліца...
Гарадоў, над якімі крыж;
Шыбы твае іскрацца й жмурацца,
Як зрэнкі ката, што ловіць мыш.

II

Ажалоблены чорна натоўп шматгалосы
(Барвай стоікаў*),

* Чорны колер адзення ўзялі хрысціяне ад стоікаў (заўв. Норвіда).

Але кожны крычыць, што аж млосна
Сярод крыкаў столькіх.

III

Толькі два жэсты й два рухі:
Фабрыкантаў, што й з нэндзы сыцеюць,
І тых, хто корміцца адным трыумфам,
Згубіўшы працу й надзею.

IV

Сутаргі дзве, дзве з'явы балючыя:
Закупленага — з каптуром — неба
І фабрычнага курчу
Пра... кавалак хлеба.

V

— Ідзе араб сярод тлуму й млосці,
Ступае, як жрэц, спаважным крокам:
Белы, бы статуй з слановай косці —
Гляджу на яго... адпачываю вокам!

VI

Ідзе няспешна жалобнае шэсце,
Збочвае з вуліцы шырокай;
Пайду за ім, адпачну жэстам,
адпачну вокам!..

VII

Або — нягледзячы на твары сустрэчных,
Думкай туды ўзлячу, дзе скавыш
Сонечны шар гоніць па сінечы,
А ў аблоках?.. крыж!

## ПУРЫТАНІЗМ

*(з ліста да М. С.)*

Чаму? я на пурытанізм так строга
Гляджу (пытаеш); primo: анічога
Да мыла чыстага я кепскага не маю —
І пену, яго вартасць, ухваляю!
Але дазволь чыркнуць пяром гусіным
(Што пры жыцці ў вадзе не раз бывала),
Што мыла — не разьбярскі мармур слынны;
На лазню добрае — а не на ідэалы!

*

Бо ж ідэал трывалым быць павінны —
Хоць у сучаснікаў трываласць не ва ўжытку:
Куміраў яны льюць са стэарыну

(Даволі танны спосаб, але гідкі).

*

Словам — у мыла веру непахісна;
Аднак калі б хто ўласнымі рукамі
Пабудаваць уздумаў зоркаблісны
Багам прытулак з трыумфальнай брамай
З такога найчысцейшага эфіру,
Як наш пурытанізм — дык... ўзвёў бы, можа,
Ён не касцёл, а... страх і сорам Божы —
Збялелыя, як снег самой Сібіры!

*

І быў бы белы, як дзяўчына тая
У шаматкой і гожай сукні з шоўку,
Што перлы ды язмін у твары мае —
Бясхібная — ад ног і да галоўкі.
Аднак навошта? перлы ёй... не знае
(Бо цнотная, пра тое больш — ні слоўка!),

Пакуль пярлінкі градам не расплача
І церні на чале сваім не ўбачыць —

*

Ergo: выснову я пішу чарнілам
(Каб у заганным коле не круціцца),
Што мармур — мармур і што мыла — мыла,
Якое нам прызначана, каб мыцца.

*

А польскіх прачак ўспомніўшы, што з жарам
Па-над ставамі пераць штось, бы хмары,
Насычаныя вільгаццю і змрокам, —
Аж падтыкаюць фартухі пад бокам
Рукамі, што гудуць ад цяжкай працы...
(Іх хтось намаляваў — і вельмі міла! —
Калі ставы ад сонца залацяцца) —
Вітаю двойчы ВЫНАХОДСТВА МЫЛА!

## ЯК...

Як калі нехта камусь цісне ў вочы
Жменю фіялак й тлумачыць не хоча...

*

Як калі нехта акацыю плаўна
Ускалыхне, каб, падобны туману,
Водар з пялёсткамі белымі ўпаў на
Белыя клавішы фартэпіяна...

*

Як калі нейкай на ганку асобе,
У валасы яе ўплёўшыся, месяц
Лоб бярэ ў зыркую німба аздобу —
Ці каласы на ёй срэбныя крэсліць...

*

Як з ёй размова, нязначная быццам,
Падобнай бывае да ластавак лёту:
Хоць мітуслівы — перад навальніцай
Летніх грамоў ён прарочыць грымоты,
Перш чым маланка іх пульс перагоніць —
Так...
...ды змаўчу — бо мне сумна сягоння.

## РОДНАЯ МОВА

«Спярша пярун — а ўжо пасля грымоты;
Вунь тупат коней стэпавых чуцён;
Спачатку дзеі!.. а словы? думкі?.. потым!..
Бацькоўскай мовы не дамо на скон», —
Так Лірніку крычаў Ваяр суровы
І біў у шчыт, ажно гудзеў прастор;
А той . . . . . . . . . . . . . .
. . . . «Не меч, не шчыт бароніць мову,
А — дасканалы твор!»

## КРЫЖ І ДЗІЦЯ

1

— Тата! човен твой
Плынь на мост кіне —
Зломіць мачту!.. Вой!..
Усё загіне.

2

Глянь! які там крыж,
Крыж небяспечны —
Мачта мчыцца ўзвыш,
Мост — папярэчна!

3

Сынку! Сполах збудзь:
То знак збавення;
Рушым! Будзь што будзь —
Час мо штось зменіць...

*

Вось — ушыр і ўзвыш
Усё — так сама.

*

— Дзе падзеўся *крыж*?

*

— Стаўся нам *брамай*.

## СЭНС СВЕТУ

I

Застаўся без месца я каля стала,
Калі за бяседу паселі, —
Суцешылі, каб не трымаў ў сэрцы зла:
«На хуткае гэта *вяселле*!»

II

Я келіх паднёс свой, ды сталася зноў —
Адонкі ўлілі мне з графіна.
(Што запавядае на *поспех* ва ўдоў...
Або — на народзіны сына!..)

III

Паплыў я за мора... і зноў навіна:
Разбілася ў шторм маё судна —

Стуль шмат тлумачэнняў, а сутнасць адна:
Мой век будзе доўгі і цудны.

IV

Падступны наш свет, бо, відаць, неспраста:
Як месца бракуе — дык жэняць,
А як пахаваюць — жыві хоць да ста;
А як забываюць — дык цэняць!

## ЧАМУ

Дарэмна праклінаць сябе самога
І захапленню ўпарціцца свайму —
Каб зноў вярнуцца да яе парога,
У страху не застаць яе?.. *чаму*!..

*

Успамінаць абразлівае слоўка,
Што сказана было мне аднаму;
Спрачацца *з ёю без яе* — і зноўку
Вярнуцца ў страху не застаць?.. *чаму*!..

*

Зайду і ўбачу шумную гурму
Вакол яе — не будзе нават хвілі
Для слова шчырага... чаму й чаму
Не я — яны ўвесь дом запаланілі?
Іх твары свецяцца, нібы ўзышлі на трон —
Шчаслівыя — імя ім Легіён!..

*

Перачакаць усіх?.. пусты намер,
Вяртаецца з пытаннем кавалер:
І хоць ён на гадзіннік пaглядае,
Ты звыкла ўжо не давяраць яму —

Зняў капялюш і ў крэсла зноў сядае,
Пальчаткі сцягваючы з рук — *чаму*?

*

Хвіліна цягнецца — а гэта азначае,
Што час сыходзіць мне, а не яму;
І я ўстаю, каменны ад адчаю,
І з неахвотай рушу прэч — *чаму*?

*

І будзе месяц — як спакон — знямелы,
І з зор ніводная не задрыжыць,
У вочы гледзячы мне зрэнкай ашклянелай,
Нібы няма ў Нябёсах ні душы,
Якая б Богу расказаць пасмела,
Што — троху тут ніжэй — так шмат пакут!
Спытала б у Нябачнага: *чаму?*

## КРЫНІЦА

Калі ў Пекле блукаў, пра якое не вольны
Заспяваць, бо на вусны наліплі праклёны,
Быццам мухі, што ятрацца ў сквар неадольны, —
Бо як толькі пачну — пазяхаю стамлёны;
Калі выйшаў нарэшце па доўгай, панылай
*Каланадзе пакут* цераз *сенцы капрызаў*
Да *магільні асілкаў* яшчэ неастылай,
Што пад брукам каменным уздрыгвала знізу;
Калі вымераў крокамі перадпакоі
*Дурных нерваў*, што ўвесь час прымервалі строі,
Між якімі не бачыў я ўбранняў вясельных!..
— Калі пераступіў *парог нэндзы* й найгоршы
Прамінуў з *лабірынтаў злачынстваў* суцэльных,
Паабклееныя ўсюды прысудамі права, —
Апынуўся я там, дзе пад ступнямі лава
Астывала — й прадоўжыў далей падарожжа

У святле, што было самым шчырым *бязбожжам*!..
— Па разорах, абвугленых магмай вулкана,
Ці то ў моры, што страціла рух нечакана,
Сярод хваль, што застыглі старчма, твар да твару —
У здзіўленні ад звычак пякельных абшараў —
Быццам Сфінксы — між іх колькі штук пеліканаў
Перасохлыя глоткі свае разяўлялі,
І вышэй — дзве крывавыя зоркі ў мярцвяным
Змроку гаслі...
...там брыў (цяжка ўспомніць без жалю!..) —
Там я брыў — наўздагад... покуль парастак дробны,
Да чагось, вышыванага спехам, падобны,
Не шапнуў: «*...ёсць крыніца...*» — і я, за імглою,
Прахалоду адчуў.
З таго самага боку
Смех даносіўся горкі і плёскат далёкі:
Гэта Муж, рукі ўскінуўшы над галавою,
Як калі хто выкладвае ўсю сваю сілу
Ў ступні ног, — дратаваў *жыццяводную жылу*,
Што, бы стужка, сандалі яго аплятала
Ці то зноў, утаптаная ў трухлядзь, знікала —
Смех вар'яцкі мужчыны так бухаў панура,
Быццам бубна раскацісты пульс на хаўтурах,
Там сарказм чаргаваўся з нянавісцю лютай:
«*Пaглядзі!.. як Дух-творца мне чысціць абутак!..*»

**НЕРВЫ**

Быў я там, дзе з голаду люд пухне —
У сырых, як труны, катухах:
У падвале, на прыступках струхлых,
Паслізнулася нага!

*

Тут бы і гамон мне — ды паспеў
Ухапіцца за брусок збуцвелы...

(Цвік, бы ў крыжы, у бруску сядзеў!..) —
Цудам я застаўся цэлы!

*

Сэрца?.. раскалолася — няйначай —
Весялосць?.. прапаў і след!
Прамінаў натоўп, як торг быдлячы;
Абрыдлеў мне свет...

*

Сёння мушу быць у баранесы,
Што прыняць умее з густам,
Седзячы ў атласным крэсле —
Што ж? скажу ёй праўду...
...Трэсне люстра,
Кандэлябры скрывяцца на рэалізм,
І з плафона столі гучным граем
Расквечаныя папугаі
У спудзе закрычаць: «Сацыялізм!»

*

А таму — у крэсле для прыліку
Пасядзеўшы трохі — рушу ўпрочкі,
Не раўнуючы, як фарысей вялікі —
Моўчкі.

## ПАВЕДАЙ ІМ, ШТО ДУХ СТАМІЎСЯ ВЕЧНЫ

I

Паведай ім, што дух стаміўся вечны,
Што пальцы больш не датыкнуцца клавіш,
Што ўгнуўся і зрабіўся небяспечны
Мост над праваллем!..
...яны скажуць: «Баіш!»
І ў крэслы сядуць, быццам пераможцы,

Каб сцвердзіць, што зямля трымае моцна
І што яны існуюць на планеце
І мчацца з ёй (угору!) па сусвеце.

II

Здзіві іх раптам, што жыццё і сонца
На палатне ўвасобіў нечы пэндзаль,
Нібы на веях духа, што ў бясконцы
Глядзіць абшар і да здзяйсненняў рвецца:
Пачуўшы гэта, шморгнуць носам моўчкі,
Маўляў, што чулі, і... задрэмлюць зноўку.

III

А крыкні ў радасці, што ў Віфлееме
Бог нарадзіўся...
                    ...дык жа з той нагоды
Прывучана здаўна людское племя,
Дасыта есць на сене кожным годам
Пад зыркім і таемным зорак знакам:
Есць рыбу, мёд і клёцкі з дробным макам!

## АКРАСА ЧАСУ

Лілеі згаслі і пялёсткі ружаў
На ветры ў белай кружаць завірусе:
*Краса* сягоння не ў цане ў... паэтаў —
Аматараў — маэстраў — і кабетаў —
— Бо ўсе шукаюць зваблівай *спакусы*
І *ўражанняў*, якімі можна ўзрушыць!

*

*Спакуса* і *шуміха*... вось дзве сілы,
Што свет трымаюць сёння!.. Вось два крылы
Ураніі — дзве ейныя прынады.

*

Абдыме?.. ці засіліць?.. і слязіну
Ці абатрэ?.. — спазнаеш ў дамавіне —
— — — — (не скончана балада).

## СЛАВЯНІН

Як славянін, які нудзіцца ад пераймянняў
Звычкам чужым і шукае ў *сабе* паратунку
На тых разлогах, дзе едуць купцы з вандраваннеяў
І тэлеграмы дрыжаць у дратах над чыгункай;
Як славянін, што хадзіў ужо рознаму ўтропы
І ад *сябе* ў паняверцы чакае суцехі, —
Так і жыццё часам пэўнасць губляе, калегі,
Зацная шляхта, жыды, гандляры і халопы!

Быццам валун на мяжы, прыцярушаны снегам,
Розныя войскі з якім штурмавалі акопы;
Каравякі пры ім толькі ды мышы-палёўкі —
Сам жа з зямлі ён тырчыць, нібы косць з валатоўкі
(Я дзеля пэўнасці гэта зрабіў параўнанне) —
Але ж ці косць? Ці валун там? — пытанне з пытанняў.

# БАЛЯСЛАЎ ЛЕСЬМЯН
*(1878–1937)*

## ТАЯМНІЦА

Ніхто нас не бачыў — хіба матылёк,
Што па-над намі лётаў.
І так нам салодка, што сіні змрок
Нашу схаваў пяшчоту.

Сястра твая меншая, верас рвучы,
Падслухала шэпт наш далёкі...
І, апусціўшы павекі, маўчыць,
Нас напаткаўшы няўрокам.

І ў сад выбягае, і дапазна
Спеў яе там лунае.
І так нам салодка, што і яна
Пра нашу пяшчоту знае.

## ВУСНЫ І ВОЧЫ

Знаю столькі пяшчотаў тваіх! Ды калі зазіхоча
Зорка ў небе, я згадваю гэту пяшчоту — без слоў,
Што загад аддае тваім вуснам шукаць мае вочы...
Так зазвычай мяне выпраўляеш у дзіўны край сноў.

Ах, чаму ты цалуеш павекі мне на развітанне
Перад тым, як я ўбачу прывабу дзівоснай зямлі?..
Надараецца: з боку азёраў устане світанне
І прыспешвае пальцы расплесці, што ў сне мы сплялі.

У халоднае з ночы аконнае шкло пазалотай
Сонца ўдарыць і раптам святла вадаспады пральле.
Твае вусны — на вейках! Што хочаш мне гэтай пяшчотай
Распавесці? Кажы — не скранай толькі вусны свае!

## ДЗЯЎЧЫНА

Дванаццаць мраяроў-братоў мур напаткалі за туманам,
Няўцешны голас плакаў там, дзяўчыны голас занядбаны.
І пакахалі голас той яны і мару пра Дзяўчыну,
І вуснаў уяўлялі кшталт з таго, як спеў ад жалю гінуў.
Сказалі: «Плача — значыць, ёсць!» І больш ужо
не гаварылі,
Перажагналі цэлы свет — і свет задумаўся ў той хвілі.
У мур ударыў молат-зух, і — задрыжэў цагляны волат!
Не ведала сляпая ноч, хто чалавек з іх, а хто — молат.
«Хутчэй мы скрышым цэглу, чым Дзяўчыну змые смерці
хваля!» —
Так адзінаццаці братам казаў дванаццаты ў запале.

Ды марнай праца іх была, і гарт цяглііцаў быў дарэмны!
Спавіў іх целы сон, які за мурам панаваў нядрэмна!
Трухлеюць косці, тлее ўсё, бляднее твар, пусцеюць вочы...
І ўсе памерлі ў адзін дзень, узятыя адною Ноччу!
Ды, стаўшы ценямі, яны трымалі молаты ў далонях!
І толькі іншы час плыве — і іншым звонам молат
звоніць...
І звоніць ён і ўзвыш, і ўздоўж! І разганяе вечны холад!
Не ведала сляпая ноч, дзе цень няісны, а дзе — молат!
«Хутчэй мы скрышым цэглу, чым Дзяўчыну змые смерці
хваля!» —
Так цень дванаццаты казаў астатнім ценям у запале.

Ды не хапіла ценям сіл, а цемрам цень не замінае!
І паўміралі яшчэ раз, бо ўсякі шмат разоў канае...
Хто прагне назусім сканаць, той скон сабе такі
не знойдзе!
І знік іх след! І згінуў сэнс! Аповесць скончана — і годзе!
Ды молаты — о, Божа мой! — не паддаліся таму жалю!
І ў мур грымелі самахоць, і меддзю звонкаю гучалі!
Ад поту мокрыя, свой звон, свой стук раскідвалі наўкола!
Не ведала сляпая ноч, дзе молат, а дзе ўжо не молат.

«Хутчэй мы скрышым цэглу, чым Дзяўчыну змые смерці
хваля!» —
Так сваім молатам-братам казаў дванаццаты ў запале.

І рынуў мур — і скалануў грымотным водгуллем даліны!
А па-за мурам не было ніякай сплаканай Дзяўчыны!
Ніякіх вуснаў, ні вачэй! Ні ў кветках лёсу залатога!
Бо толькі голас там і быў! Адзіна ён — і больш нічога!
Нічога — толькі плач, і жаль, і страта, і цямрэча цішы!
О бедны свет! Нядобры свет! Чаму не можаш быць ты
іншы?
З прычыны здрады зманных сноў і цудаў, што не сталі
явай,
Палеглі молаты на дол у знак завершанае справы.
І быў жах цішы. І пустэль у небе! А ты ў той пустэлі
Чаму дрыжыш, калі яна яшчэ не цьміцца ў тваім целе?

* * *

Ў час, калі, мной цалаваная, ад асалоды
Млееш на ложку ты — прагну табой завалодаць

Я назаўжды... Ды дарэмна, дарэмна ўсё гэта!
Ты не мая ўжо, не чуеш, не бачыш мяне ты:

Вочы твае непрагляднае цемрыва засціць —
Слепнуць яны ў завірусе шаленства і шчасця!

Ты нечакана ва ўласным губляешся змроку,
Целам валодаю я, але целам — бязвокім!..

Ты западаеш знянацку ў прадонне глухое,
Дзе я не быў... хоць кахаю цябе для яго я!..

## ГАД

Ішла з малаком у грудзях цераз сад,
Ажно ля альхі падсцярог яе гад.

Заціснуў, абвіў з галавы і да ног,
І песціў, і лашчыў, і джаліў, як мог.

Вучыў забывацца, знямоглую, сном
І гладзіць саскі прахалодным ілбом,

І ад асалоды, салодшай за скон,
Дрыжэць, і звівацца, і сыкаць, як ён.

— Пажады маёй ты ўжо зведала жар:
Пусці — каралеўскі займею я твар!

Табе я з дна мора дам скарбы наздзіў...
Стань яваю ява, а сон — прападзі!

— Не скідвай луску і свой твар не мяняй:
Усё, як і ёсць, застанецца няхай!

Люблю, калі джалам вядзеш ля брывоў,
Раўняючы іх, калі ссеш з вуснаў кроў.

Люблю, калі ўешся ты ўздоўж маіх ног
І перыш ілбом аб улоння парог.

З абодвух саскоў маіх пі наўзамен!
Не трэба мне скарбаў, не прагну я змен.

Салодкая сліна вужакі на смак —
Будзь гадам і песці і гэтак, і так!

## ЗАКЛЯЦЦЕ

Нетапыр, табе ўсё на тым свеце вядома —
Што нябожчыкі чыняць? — Ляжаць нерухома.
А яшчэ што? — Ляжаць без дыхання ў здранцвенні,
І няма ім ні сонца, ні ветру, ні ценю!
Не галосяць, не спяць і не вераць нікому —
Толькі так і ляжаць! Так ляжаць нерухома.

Хай дзяўчына, якой авалодаць не здолеў,
Ляжа ў холад магільны той змрочнай юдолі!
Непрытомная, слабкая, змружыўшы вочы,
Хай заходзіцца юрам адна сярод ночы!
Хай не плача, не спіць і не верыць нікому —
Хай ляжыць для мяне — хай ляжыць нерухома!

## СВІДРЫГА І МІДРЫГА

То не конь стрыжэ вушамі, коню даўгалыгі,
Гэта скачуць два прапойцы — Свідрыга з Мідрыгам.

А не так дрыжыць і ходзіць пад цапом стадола,
Як той поплаў пад нагою цупкай і вясёлай.

Напаткала іх на сонцы Мара-шаляніца
І не можа на танцораў-зухаў надзівіцца.

Зазірнула ім у вочы, бы ў калыску, з прагай:
«Хто мяне ператанцуе, з тым у ложак лягу!»

А Свідрыга: «Мае будуць твае шыя й грудзі!»
А Мідрыга яму кукіш: «Спаць са мною будзе!»

Той адну руку аблапіў, гэты ўзяў другую:
«Паглядзім дзявотка-скнара, хто ператанцуе!»

А яна ім проста ў вусны дыхае без дыху,
А яна ім проста ў вочы смяецца паціху.

Раздзялілася пароўну, раздзёрлася жвава:
Адна дзеўка стала злева, а другая — справа!

«Досыць маем тут на лузе дваістага цела!
Таньчы з намі, покі сонца за гару не села!

У цябе рукі чатыры — і столькі ж падвохаў!
Напаі сараматою сваёй выпівохаў!»

І злажыліся да скокаў, быццам бы да бою,
Дадалі валошкам гвалту, долу непакою.

Таньчыў з леваю Свідрыга, а Мідрыга — з правай,
Той абцасам пыл узвейваў, а гэты — халявай.

То ўпрысядку, то з падскокам, а то з выдрыгонам —
Патапталі канюшыну, мяту і рамоны.

Першы кажа: «Дык сканай жа!», а другі: «На ліха!»
Танцавалі аж да ўпаду і ажно да здыху!

Аж пачулі, што дзяўчына на падмогу кліча —
І памерла адначасна ў двух сваіх аблiччах.

«Будзем гараваць над ёю мы не надта шчыра,
Бо іх дзве было у скоках, а ў смерці — чатыры.

Пахаваем на кладзішчы, дзе за дрэвам — дрэва,
Скажам пацеры супольна — і правай, і левай».

Ў дзве труны яе паклалі, ды ў адну магілу —
А ўжо скачуць тыя труны каля іх штосілы!

Скачуць, заглынуўшы целы, сыта і прапашча
І штораз на іх з падскокам разяўляюць пашчы.

Скачуць, таньчаць і віруюць з грукатам і звонам,
То ўпрысядку, то з падскокам, а то з выдрыгонам.

І ўжо смерць ў абдымку з імі круціцца і свішча,
Аж здрыгаюцца вантробы згубнага кладзішча!

Аж згубіла сябе кола скокаў тых страхотных!
Аж зрабілася пад долам весела й грымотна!

Аж глузды папагублялі Свідрыга-Мідрыга,
Бы вятрыска іх на крылах ветрака раздрыгаў!

І нашчэнт яны забылі ў той крутні цямравай:
Дзе бок свету левы будзе, а дзе будзе правы?

І ў якой труне якая дзеўка спачывае?
І якую пасля смерці кожны з іх прыдбае?

Гэткая ў вачах снуецца цем-неразбярыха,
Што не знаюць, хто Свідрыга, а хто з іх Мідрыга.

Ды сказала смерць ім з прорвы, ад бязмеру чорнай:
«Будзеце вы тут, як дома, спрытныя танцоры!

Аднаму труна вось гэта, другому — другая,
Тутка вечнасць правым вокам, левым — там міргае!»

Звар'яцелыя над прорвай ўкленчылі з адчаем,
На кукішках заскакалі па-над ейным краем.

Заскакалі чацвярыцай, заскакалі плазам,
Так і гэтак — і разгэтак, разам і не разам!

Аж, укручаныя ў цемру трунаў тых, як трэскі,
Дагары нагамі ўгору паляцелі з трэскам!

## ВЯТРАК

Ён стаіць на зыры над раўнінай з ядвабу,
Як пустэльнік, які ўсё адпрэчыў наўкол,
Сваім крыллем драўляным рыпіць і, як д'ябал,
Цень разгаты адкідвае ў сонцы на дол.

Падарожнік з уткнутым заўжды ў зямлю кіем,
Каму шапкай дубовай паклоны ты б'еш?

Што штуршкі твае значаць і ўздрыгі глухія?
З кім ты жэстамі крылаў гамонку вядзеш?

Каму верыш? Што бачыш на небе ў лазуры?
Калі б раптам ажыў — дык які меў бы твар?
Што за здань тоіш пад сукаватаю скурай?
Хто ты ў месяцы, што вызірае з-за хмар?

## ПЧОЛЫ

У глухім сутарэнні, у змроку жыллёвым,
Дзе нябыт замест даху нябожчыкам служыць,
Пэўнай ноччу Адвечнай (для нас жа — Ліпнёвай)
Загуло штось праз сон... Смерць наструніла вушы...

Гэта — пчолы, што збіліся ў цемры са шляху,
Уляцелі ў край мёртвых, бы ў вулей гаротны!
І так гучна звіняць, так іскрацца зіхотна,
Што няможна глядзець на іх ззянне без страху!..

І нябожчыкі, трэскамі рук сваіх кволых
Засланяючы праймы вачніц ад зіхцення,
Са здзіўленнем глядзяць і крычаць сцень да сценю:
«Пчолы! Помніце пчол? Далібог — гэта пчолы!»

Боль, прытуплены сном, іх нанова вярэдзіць!
І, за рану балючую ўдзячныя пчолкам,
Углядаюцца ў бляск заблукалай вясёлкі,
Што сліпуча залоціцца ў логаве смерці...

Зналі некалі цуд залатога выплоду,
А сягоння са змроку свайго заняпаду
Сочаць за іскракіднай крылатай шарадай
І разгадваюць рэбус гуллівага лёту!

Але выйсце да сонца знайшоўшы ў цямноце,
Пчолы ў свет усім котлішчам рынулі з ночы!

Вунь, апошні раз бліснуўшы на павароце,
Зніклі ўжо!.. а нябогі глядзяць ва ўсе вочы...

## УРСУЛА КАХАНОЎСКАЯ

Калі я пасля смерці ўзышла на нябёсы,
Бог мяне прытуліў і пагладзіў па косах.

І сказаў: «Ты, Урсула, зусім як жывая...
Што зрабіць, каб ты гора не ведала ў раі?»

«Так зрабі, — прашаптала, — каб у Паднябессі
Усё стала такім, бы ў маім Чарналессі!»

І замоўкла, і спуджана ўскінула вочы,
Баючыся ўгнявіць яго просьбай сірочай.

Усміхнуўся, кіўнуў — і вось з Божае ласкі
Дом паўстаў, рыхт у рыхт такі самы, як наскі:

Стол, і посуд, і кветкі ў гаршках, і фіранкі —
Дых зацяла ад радаснай неспадзяванкі!

«Чарналескае ўсё, што ні бачыш у хаце...
Пацярпі: хутка прыйдзе ўжо бацька і маці!

Ды і сам я, калі зоркі спаць пакладу,
Да цябе неаднойчы ў адведкі прыйду!»

І пайшоў... А я ўвішна, забыўшы знямогу,
Накрываю на стол, падмятаю падлогу,

І ружовую сукню сваю надзяваю,
І сон вечны ганю — і гляджу — і чакаю...

Ужо ранішні промень заззяў на шпалеры,
Калі крокі пачула і грукат у дзверы...

І бягу стрымгалоў! Б’е вятрыска ў званы!
Заміраю ўся... Не! Гэта — Бог, не яны!..

## ШАВЕЦ

Зацьміўся месяц у сутонні.
Лязо ў чуб коміна заткнуўшы,
На дыбачках ліхтарня рушыць
У цемру, дзе ўжо вулка тоне.
Шавец аблудны, клышаногі
Глядзіць у вір цямноты страшнай
І шые боты пану Богу,
Імя якога — Неабсяжны!

Будзь блаславёнай, работа,
Бо з твае моцы творчай
Гэткія шыюцца боты
Сярод срэбнае ночы!

Бог воблакаў, Бог светлых росаў,
Мой неацэнны дар насі Ты,
Абы не быў у небе босы,
Не раніў ступні аб блакіты!
Хай дух, што ў зорках карагодзіць,
Навіну разнясе ў бязмежжы,
Што там, дзе ў свет шавец прыходзіць,
Бог прыабуты, як належыць!

Будзь блаславёнай, работа,
Бо з твае моцы творчай
Гэткія шыюцца боты
Сярод срэбнае ночы!

Даў кус жыцця без жалю мне ты,
Што хопіць мне на ўсю дарогу —
Прабач, што апроч ботаў гэтых
Даць не магу Табе нічога.
Ў шыцці — шыццё ўсяму аснова,
Дык, значыць, шый, пакуль ёсць сілы!
Ў жыцці — жыццё ўсяму выснова,
Дык трэба жыць аж да магілы!

Будзь блаславёнай, работа,
Бо з твае моцы творчай
Гэткія шыюцца боты
Сярод срэбнае ночы!

# ЛЕАПОЛЬД СТАФ
*(1878–1957)*

## СЛОТА

Імжака з ранку і да ночы
Плюскоча мерна і хлюпоча,
Бесперапынна, манатонна,
Бы енк калікі перадсконны.
Наўколле абляпілі хмары
Вільготнай каламуццю шарай...
Імжыць, хлюпоча дождж санлівы,
Сцяжэлы, моташны, лянівы...

Над шэраю вадою бруднай,
Разлітай па зямлі бязлюднай,
Сядзіць рахіт-нячысцік брыдкі,
Прамоклы да астатняй ніткі.
Свой велізарны, зжоўклы голаў
На грудзі звесіў, невясёлы,
Блукае соннымі вачыма
Па каламутным дне лагчыны,
І, ад макрэчы асавелы,
Б’е па вадзе рукой схуднелай,
І пырскі ў лужыне ўзбівае,
А нудны дождж сваё спявае.

Шрот кропляў сыпецца няхоццю
У вочы багны на балоце,
Сцякае па счарнелым плоце...
Аб дах стукоча без скапчэння
І сее навакол стамленне
І непрытомнае здранцвенне...

Няспынны дождж без перабою
Шуміць, дудніць над галавою,

Дзесь вобліз хлюпае па слоце...
Пра штосьці мрою я ў дрымоце...
На беразе раўніны воднай,
Здранцвелай ад імжы нязводнай,
Думка ўсё кволей, непрытомней...
Ляцяць дажджынкі на чало мне...
Нячысцік ўсеўся нада мною
У твар мне тыча мазгаўнёю,
На дне вачэй нечалавечых
Зласлівы свеціцца агеньчык.
Набраклы тхлінай багны, ў вочы
Глядзіць з усмешкай патарочы,
І з бессэнсоўнасцю вар'ята
Мне ў голаў хворую зацята
Б'е зжоўклай, высахлай далонню
У тахт дажджу, што мерна звоніць
У лужынах краплістым шротам
Мелодыю апрыкрай слоты.

**САМОТНАЯ ВІЛА**

Я даўно прадчуваў гэты цень, што жальбою
Лёг на наша каханне. Згадай, як з табою
Мы ўздоўж мура ішлі, з-за якога свяціла
Сваёй беллю, у квецені тонучы, віла,
Апавітая пахам і цішай глыбокай.
На нябёсах ружовыя гаслі аблокі,
Змярк блакітны гусцеў, напаўняў нас журботай.
Сталі мы каля кратаў сцямнелых варотаў
І ў маўчанні занурылі нашы пагляды
У глыбокі паўзмрок таямнічага саду,
У якім закаханым прызначана прасці
У абдымках пяшчоты бясхмарнае шчасце.
Мы ўзіраліся ў сад, і здалося нам, быццам
Ён чакаў тых, хто прагнуў у цішы забыцца,
І быў спратам, якога нам так не ставала.

Браму пхнула міжволі рука і... апала.
На замку была брама. І ты пабляднела,
Бо, відаць, як і я, у той міг зразумела:
Той павалены помнік Гермеса за брамай,
Што яснеў у сутонні бялюткаю плямай
На зялёным ядвабе травы, як груд снегу, —
Быў пасланцам кахання і згоды, што ў бегу
Браму ў сад нам хацеў расчыніць, ды не здужаў,
Паваліўся ў траву, быццам сцятая ружа,
І пакінуў дваіх нас, тугой ахінутых,
Перад брамаю светлага шчасця — замкнутай.

**ХВІЛЯ**

У залаты спякотны поўдня час
Паіў калодзеж у квітучым садзе нас.
Пілі з вядра ў задуме
Сцюдзёную ваду мы.

Потым у глыб крыніцы паглядзелі мы,
Скуль веяў нам у твар замшэлы зруб турмы:
І ўбачылі галовы
У квецені вішнёвай.

Яшчэ глыбей, за калыханнем белых дрэў,
Імклівым ценем птах бясшумна праляцеў.
Мы паглядзелі ўгору
У сінюю прастору.

Птах знік... і маладосць, вясна сплывуць, як дым...
Кахання жар гарыць у поглядзе тваім...
У студню капае вада,
Бы хвілі, якіх нам шкада...

## КАХАЦЬ І ГУБЛЯЦЬ...

Кахаць і губляць, прагнуць і расставацца,
Адпрэчваць і ўмольваць «вярніся назад!»,
І падаць балесна, і зноў уздымацца, —
Вось наша жыццё: і нямнога, і шмат...

Збягаць у пустэльню за мараю дзіўнай,
За перлам дзівосным скакаць у раку,
Каб тут пасля нас засталіся адзіна
Кругі на вадзе і сляды на пяску.

## ПЧОЛЫ

Залатыя князёўны, увішныя пчолы,
Служкі верныя працы і мудрасці боскай,
Трункам Пяста гасцінным вы поіце вёску,
Здабываеце свечкі пабожным касцёлам.

Богам дадзена вам зведаць слодыч пялёсткаў
Пахкіх кветак і горкасць дурманлівых зёлак:
Людзі гэтак жа цешацца хвіляй вясёлай
І гаруюць, спавітыя скрухаю жорсткай.

О, дзявоткі з вуллёў, мёдам поўніцца келіх —
Слодыч зёлак і слодыч жыцця ў ім бруіцца
І на клейкія вусны цячэ ў час вяселля.

А гаркота жыцця разам з горкасцю зелля
Воскам робіцца светлым, бы твар у чарніцы,
Мяккім воскам, з якога смерць лепіць грамніцы.

## ВЫСОКІЯ ДРЭВЫ

О высокія дрэвы, краса над красою,
Вашы постаці ў бронзе згасальных праменняў
Над шматфарбнай, як пер’е паўліна, вадою
Адбіваюцца ў роўнядзі голля скляпеннем.

Пах вады, пазалочанай захадам, плыўна
У нязрушным паветры зыбаецца, мгліцца,
Калі конікі з лугу спякотаю жніўнай
Цішыню стрыгуць тысяччу срэбных нажніцаў.

Моўкне ўсё пакрысе і ў глухмень западае,
Змярк ахутвае стрункія кроны імглою,
І прывідамі з іх вольны дух вырастае...
О высокія дрэвы, краса над красою!

## ПА АБЕДЗЕ Ў БЕДНУЮ НЯДЗЕЛЮ

Чым заняцца? Канчаецца тыдзень рабочы
Хоць і весняй нядзеляй, ды мглістай і сіняй,
Голым паркам бязлістым не цешацца вочы,
Дый астатняе цемніцца шарай гадзінай.

Аміякам прапахла мястэчка й бензінам,
Вокны крамаў замкнёных глядзяць па-сірочы,
З кіназалы, дзе тлум, калатня, тузаніна,
Тхне такою задухай, што хочацца збочыць.

Зноў на мітынг цягнуцца няма штось імпэту —
Лепш вярнуся дамоў, закуру цыгарэту,
Сяду ў крэсла пад лямпай і буду да золку

Разбіраць свой старэнькі гадзіннік без лупы,
Дбайна чысціць дэталькі і складваць да купы,
На паперыну чыстую шрубкі і колкі.

## НАПРАДВЕСНІ

Вясна, што будзіць гойнымі вятрамі
У дрэвах кроў і ў свет нясе лятунак,
Бы ў далакопа, чорнымі рукамі
Раскопвае паўсюль разораў труны.

З праталін у садах, палях, гародах
Б’е ў голаў хмельны дух зляжалай гнілі
З міязмамі ад тхліны, са смуродам
Гніення, з мляўкім водарам магільным.

Ды пахам потнага, жывога цела
Шыбае ўжо з-пад спрахлага абруса...
Такі вось пах святы, напэўна, мела
Магіла уваскрэслага Ісуса.

## НЕПРАЎДАПАДОБНАЕ МОРА

Колер гладзі марской... да чаго ён падобны?
Да смяхотнага пекны  і неверагодны:
Скрозь фіялкава-цёмны, як быццам жалобны,
І, аднак жа, ад радасці дзікай зіхотны.

Тут знікае мяжа паміж явай і казкай,
А былі б людзі тут, не паверылі б, пэўна:
Хвалі цягнуць далоні, гатовыя пляскаць...
Невідушчы Гамер рушыць з лютняю спеўнай.

## МІТЫНГ

Ґусты натоўп, галовы і галовы,
Нібы галодны цмок тысячавухі.
Пляц, як заліты клеем папяровым,
Дзе пры адной адна прыліплі мухі.

Прамоўца на трыбуне штось тлумачыць,
І, кулаком махаючы, шпурляе
У іх маланкі слоў, і наастачу
«Ура» крычыць, нібы рыззё здзірае.

Як па загадзе чарадзея, ўгору
Ляцяць грыбы капелюшоў, і глянцам

Блішчыць аголеных патыліц мора,
Нібы ікра ў расчыненай бляшанцы.

## ФАНТАН

Фантан — лілея водная,
Прыгожая, але бясплодная.
І квецень, з выгляду жывая,
Ніякіх водараў не мае.

Фантан шкляным крылом трапеча,
Прыкованым навечна.
За ветрам хіліцца з падножжа,
Ды матылька дагнаць не можа.

Крыло, лілея і фантан:
Падман ці не падман.
Вясёлкавая пырска —
Для тройцы ўсёй калыска.

## НАД СВЕТАМ...

Над светам змрок павіс і болем сэрца нудзіць.
Ах, праца больш не вабіць чалавека,
Жыццё больш не жыццё і людзі больш не людзі,
І толькі гноем гной застаўся, а здзек здзекам.

Над прорвай прорва паўстае і ў прорве гіне.
Няма ні хлеба, ні кахання, ні надзеі.
Ніхто жытла сабе не знойдзе між руінаў.
На падліне і на граху рабак сыцее.

Не знішчаць пошасці ні меч, ні дождж агністы,
Ды хоць усё ў смяротным курчы захлынецца:
Пакутны чалавек ўва мне святы і чысты,
Дзеля збавення свету, застанецца.

## НАЗАЎТРА

Ад’ехаў прэч картэж юнацтва
З вясновым тлумам і суцехай.
Забраў з сабою смех і песні,
А мне пакінуў толькі рэха.

Настала, ўласна, тая хвіля,
Калі світанак, чысты, боскі,
Над мітуснёю распускае
З бутона цемрадзі пялёсткі.

І поўніць радасцю, хоць знаю,
Што знікне цераз міг без знаку.
І так спакойна мне, нібыта
Я гладжу галаву сабакі.

## ВАСІЛЬ СТУС
*(1938–1985)*

* * *

Зноў згадка: вечар, вецер і туга
пранізлівая цела маладога,
што да мяне ўплыло з дзвярэй, халат
шпурнуты на аплечча крэсла й тонка
пайшло, пайшло, пайшло па тонкай лінзе,
аж па-над столлю стогн глухі завіс.
Акно ў сінечу. Жоўтыя фіранкі
прыспушчаны нядбайна. Чорны стол
нахілены, трымціць нягучна шклянка
танюткім шклом — дзын-дзын, дзын-дзын. Пара
наблізіцца, ў вагон убіцца пругкі,
што выкаваны зграбна, як падсвечнік.
Чаруй мяне, чаруй мяне, прынада
далёкіх берагоў, куды я плывам
плыву, плыву, плыву — й не даплываю,
бо хваля часу зносіць не туды.
І толькі змярк той, вецер і туга,
і ты, як згустак крыку маладога, —
з’яўляецеся пад паўночным сонцам
і супакоіцца не даяце.

* * *

Твой боль як алкаголь агоній,
як вымерзлы дарэшты жаль.
Перадрукоўвайце праклёны
і перапісвайце скрыжаль.
Жыццё тваё бы збан спусцелы,
і свет, і сам ты ў забыцці.

У цела собскае ўвайсці
ёсць шанец толькі ў звар'яцелых.
Дык сатаней сваёй тугой,
да скону сатаней, аж покуль
не ўчуеш тупат сваіх крокаў
над галавой сваёй сівой.

* * *

Як добра, што я смерці не баюся
і не пытаю, ці цяжкі мой хрост.
Што перад вамі, суддзі, не хілюся
У прадчуванні невядомых вёрст.
Што жыў, кахаў і не набраўся бруду,
праклёну, каяння, нянавісці, маны.
Народзе мой, і ў смерці жыць я буду,
вярнуўшыся з далёкай стараны
нязлым аблiччам, доляю гарэснай.
Як сын, схілю чало перад табой,
і ў твае вочы пагляджу я чэсна,
і параднюся з роднаю зямлёй.

## ІВАН ФРАНКО
*(1856–1916)*

### XXIX

Прысніў я дзвюх багіняў сярод ночы.
Твар першай быў ад бляску прамяністы,
Бязмежным шчасцем зіхацелі вочы,
І кудзеркі блішчэлі залаціста.

Другой багіні твар крыў чорны вэлюм,
І, быццам з чорнай хмары бліскавіца,
Праз вэлюм вочы чорныя блішчэлі —
Была яна што летнім ранкам навальніца.

Сказала мілым голасам з іх тая,
Што ззяла: «Свеце мой, не плач, не кленчы,
Вось дар табе мой — кветка залатая!»

І расквітнелы мне дала сланечнік.
Другая ж церні моўчкі ўклала ў рукі —
І ўраз адчуў я радасць з лютай мукай.

*18 верасня 1889 г.*

### XXX

І першая сказала: «Я любоў,
Што грэе, быццам сонца, ўсё зямное.
Не раз павернеш ты ў смузе гадоў
Сланечнік свайго сэрца ўслед за мною

І свет, і людзі толькі светлы бок
Табе паказваць будуць. Пра благое,
Паганае пачуеш мо здалёк,
Нібы праз рэшата. Мой дар перад табою

Раскрые чыстых, шчырых душ багата,
І ад найлепшых свайго веку многа
Дабра й любові зведаеш, нябога.

Дык жа шануй мой дар бясцэнны свята!
Любоў людзей, як хлеб той у засекі,
Грамадзь і абярні ў любоў да чалавека!»

*18 верасня 1889 г.*

**XXXI**

«Нянавісць я, — сказала мне другая, —
Сястра Любові, сябра неадступны.
Я ненавіджу ўсё, што абражае:
Падман і здзек, нялюдскі лад падкупны.

Я ненавіджу тое, што піхае
Зняверaных людзей на троп бяспутны,
Што зайздрасцю нам сэрцы аплятае,
Што цягне ў вір злачынстваў каламутны.

Не сэрца родзіць зло! Яго аснова —
Цямнота й тая моцная Будова,
Што збурана людзьмі і іх жа губіць.

Зло і табе праесць да косці цела,
Каб, зненавідзеўшы яго, з ім біўся смела!
Хто зло прымае, той людзей не любіць!»

*18 верасня 1889 г.*

## МІКОЛА ЗЭРАЎ
*(1890–1937)*

### САНЕТЫ

### *Pro domo*

Якая ж горкая, о Божа, гэта чаша,
І дзікі густ, і старасвецкі лак,
І мраяры без крыл, якімі так
Паэзія праславілася наша.

Што ні мастак — то флегма і нясмак,
Што ні паэт — то слёз і ўздыхаў каша...
О не! Пегасу неабходна паша,
Каб не захрас у твані, небарак.

Пластычнасць, яснасць формы, контур строгі
І логікі жалезнай каляя —
Вось дзе, паэзія, твае дарогі.

Леконт дэ Ліль, Жазэ Эрэдыя,
Парнаскіх зор нязгасныя сузор'і, —
Яны адны вядуць на верхагор'і!

*23/IV 1921*

### *Дантэ*

Дзівоснай сагаю, без ветразя й вясла,
Мы праплывалі ўдвох, я й чараўнік Вергілій,
Ён быў як з бронзы — а на небасхіле
Рака лілеямі бялела і цвіла.

Без ліку жальбы там пляліся і хула,
Світала ў пустцы, хвалі ў човен білі;

З нябесным пасланцом мы ціха гаманілі,
А спераду да нас лілеяў бель плыла.

Я чуў: «Лілеі, што нас гэткім пояць чарам,
Далёка ад зямлі, ад valle lacrimarum,
Ўзраслі тут засевам патужнае рукі;

Далёкія ад бед і ад зямное сваркі,
Гайдаюцца і сняць спрадвеку двайнікі
Санетаў ненароджаных Петраркі».

*22/IV 1921*

### *Класікі*

Вы ўжо даўно ступілі за парог
Жыцця зямнога, лірнікі-паўбогі,
І голас ваш, рапсоды й эклогі
Звіняць ў імгле Аідавых дарог.

І чорны сум, бязмоўны жаль налёг
На бераг наш, на ўбогія разлогі —
Няўжо вавек не знойдзеце спрамогі
Наведаць наш паўночны снег і мох?

І ваша слова, густ, і лад, і строі
Для нас памкненне толькі й марнасць мроі
Ды востры боль у часе горкіх хвіль.

Адно яшчэ, што цешыць дух паэта,
Што адраджае ваш высокі стыль, —
Празрыстазвонкая закончанасць санета.

*15/XII 1921*

### *Латафагі*

*Адысея, IX, 82–104*

З-пад Троі і крывавага туману,
Ад чорных дзён зацятае вайны
Цар Адысей прыгнаў свае чаўны
На плёсы сонныя ціхмянага ліману.

І там наш гурт зрадзелы, горам гнаны,
Сустрэлі латафагі; сакаўны
Ліст лотаці далі гасцям яны,
Спажытак нам салодкі і нязнаны.

І елі мы, і забывалі дым,
Сям'ю і род свой, у краі чужым
Да скону ласыя так жыць на дармаўшчыне.

Ды мудры цар не даў загінуць нам
І сіламоц нас павярнуў айчыне —
Ў навуку іншым людзям і вякам.

*2/5 1926*

### *Лестрыгоны*

*Адысея, X, 80–134*

«Тут, цару, дзікі край нясытых лестрыгонаў
Ды іхніх служак, што авечак сцерагуць.
Які закляты шлях, якая каламуць
Цябе занеслі ў кут нядолі ды праклёнаў?

Ты кажаш: Паліфем!.. Нашчадак Пасейдонаў,
Ён знаў агонь, а тут — сырое мяса рвуць;
Неўтаймаваны іхні шал. Не прызнаюць
Яны святых гасціннасці законаў.

Не йдзі, застанься тут. Між скалаў ёсць адмель.
Я ўночы спраўлю твой ставёслы карабель
У край народаў хлебаедных і лагодных.

Сам застануся тут у горы ды бядзе,
Я толькі думкаю да скал памкнуся родных,
Я толькі чайкаю... з табою... па вадзе!»

*1926*

### *Самавызначэнні*

Я ведаю: мы ёсць бібліяфагі
І мудрасць наша — шафа пыльных кніг.
Мы надта рэзьбім строфы слоў скупых,
Прыхільнікі мастацтва раўнавагі.

Ніхто не скажа нам: «Жрацы і магі!
Вы дзівы творыце ў радках сваіх...»
Убогая чуллівасць наша з тых,
Што не натоліць маладое прагі.

Што вытанчанасць слова? Вабіць гук
Акторскіх рэплік і ўдаваных мук,
Слёз праліўных і істэрыі плыткай.

І прамаўляе крытык: «Скінь кашкет!
Вось светач наш, ён грэе й ззяе кідка:
Кахай і пакланяйся: то — паэт!»

*29/XII 1929*

### *Таямнічы востраў*

Такія добрыя, ручныя таямніцы!
Агонь плыўцам, нядужаму — хінін,
Піратам — выбух справядлівых мін
І куля пнеўматычнае рушніцы.

Гадаюць у базальтавай святліцы
Пяць каланістаў — хто, з якіх прычын
Іх даглядае між віроў, цяснін?
Існуе ён ці, можа, толькі сніцца?

Грукоча гром, і цераз грот-тунэль
Па чорных водах дзіва-карабель
Плыве — і развязана ўміг праблема.

Дык вось каго чуў вострым слыхам Топ!..
І мірыцца з людзьмі бяссмертны Нэма,
Індыйскі прынц, ласкавы мізантроп.

*6/VI 1930*

### *Пад Новы год*

Ішоў дадому, цукар нёс пайковы,
Як на жабрацтва вечнае прысуд...
Гірляндаю агнёў свяціўся Галівуд
У чарах навагодняе абновы.

Скрозь віравала радасць, смех здаровы,
Нязнанаму насустрач выйшаў люд,
Мароз прысыпаў учарашні бруд,
Што ціснуў сэрца й накладаў аковы.

Мінала зайздрасць, таймаваўся шал.
Што ж? Хай вяршыцца бедны рытуал
Цярпення радавога пілігрыма;

Хай маладосць з надзеяй давідна
Схіляюцца з бяздумнымі вачыма
Над шклянкаю ружовага віна.

*1/I 1932*

### *Суніцы*

Па шатах сосен шум ідзе разлогі
І хмараю пухнатаю цямніць
Высокі дзень, нябесную фініфць;
Ў траве глыбокай блытаюцца ногі.

Вось так бы ўпасці на краі дарогі,
Самкнуўшы вейкі, і на мірг забыць
Гайню сабак брахлівых і спачыць
Ад ніцых душаў, хамства і трывогі.

А там, па хвілі набажнага сну,
Крануць зноў рыфмы звонкую струну
І абудзіць у сэрцы рытму хвалі, —

І, моц адчуўшы сокаў земляных,
Расплюшчыць вочы й напаткаць каралі
Суніцаў пахкіх на ядвабах травяных.

*9/VII 1934*

## АЛЕКСАНДРЫЙСКІЯ ВЕРШЫ

### *Lucrosa*

Пад дахам сельскіх муз, у багнавай Лукрозе,
Дзе спіць і розум, і чуццё ў анабіёзе,
Жывём мы, кінуўшы не Кіеў — Баальбек,
Наводдаль ад размоў, людзей, бібліятэк
Няўроднае мы засяваем жытам лона,
Часамі служачы ўладыку Апалону,
І тлее ладан наш на ўбогім алтары...
Гэтак у Ольвіі прышэльцы-разьбяры
Сярод будзёных спраў і шкурнае армады
Сон песцілі ў душы далёкае Элады
І для наўкольных орд, для скіфаў-дзікуноў
Рабілі з мармуру нябачаных багоў.

## *У стэпе*

Высокі, роўны стэп. Зялёны рад магіл
І далеч мройная, што змрокам сініх крыл
Чаруе і заве да элінскіх калоній.
На небакраі вунь пастаці дзікіх коней,
Намёты, і вазы, і скіфы-арачы.
І з выраю ляцяць, курлычачы, ключы,
А з мора вецер дзьме, гарачы, нецярплівы.
Але навошта мне ягоныя парывы,
І жаваронкаў спеў, і прарастанне траў?
З якою б радасцю ўсё гэта прамяняў
На гоман прыстані, ліманаў сініх плесы,
На брук і вуліцы старога Херсанеса!

## *Да альбома*

Налёг цяжар гадоў рабочых мне на плечы,
Сціх бестурботны смех, і пацяжэлі рэчы,
І голас чую я настырна-шарпаткі:
«Ліслівы найміт, дзе ж даробак будзь-які?
Дзе плён тваіх задум? Што з творчасцю тваёю?
Ці ж добра ты рабіў над чорнаю раллёю?
Ці ўспееш, пакуль дзень, закончыць свае жнівы?»
Як горка чуць той церпкі голас, незычлівы,
І як мне не зайздросціць маладосці вашай,
Той поўнае віна і ненадпітай чашы,
Той вострай свежасці світанкавых гадзін,
Той стужачцы зары над ціхім сном далін!

*I/III 1922*

## *Хаўтуры*

З пяці нямудрых дзіў евангельскае прытчы
Ты посах узяла і светач вандраўнічы.
Вясёлая, ў вянку жывых надзей і мрой
Ступіла ты на шлях на зловарожы свой,

Чакаючы дзівос, напраўдашніх герояў...
А дні цяклі ў журбе, затканыя слатою,
Без ранкаў сонечных, без гераічных дзей:
Сны згаслі раннія, і дагарэў алей;
Па кроплі апусцеў пачуццяў свет багаты,
На горды дух ляглі бадзяжніцтва і страты,
І вось прыйшоў твой час, і ў той святочны час
Твой посах зломлены і светач твой пагас.

* * *

Ідзеш у снах маіх ты просінню нятускнай,
Каліны гронкамі палаюць твае вусны.
Вачыма, што чарней ад восеньскіх начэй,
Алебастроваю акругласцю плячэй
Ты неадступна скрозь з пачуццямі маімі.
Праменне слоў тваіх агнямі трапяткімі,
Стажарамі гараць заўжды ў маім акне...
Ты просінь даўнішнюю нагадала мне,
Разлеглы стэп, святло ставоў люстраных
І грабы ў шатах, яркім золатам затканых,
Паветра з сіняга і залатога шкла
І жыццядайны дар апошняга цяпла.

### *Неўміручасць*

Утешься: не увял Овидиев венец.

*А. Пушкин*

Вянок Авідзія не будзе ведаць скону.
Бяссмертны, горкі, незраўнаны «Плач» ягоны,
Духмень элегіяў, як ззянне весніх лоз,
І чары сонечных яго «Метамарфоз»,
І мудратонкасці вучонага кахання.
Хай Цэзар гневаецца, хай гады выгнання
Сагнуць высокі стан і сівізну ўплятуць
І хай дудзіць сармат і геты смерць нясуць,

А гнеўны Понт раве, і горы набягаюць, —
Народы і вякі не раз яшчэ згадаюць
Ягоных песняў лёгкі і свавольны лад
Стагнаннем ніжніх альб і звонам серэнад.

## *Авідзій*

Suppositum stellis nunquam tangentibus aequor…

*Ovid., Trist., III, 10, 4*

Братэрства даўніх дзён, раскошлівае грона!
Хоць раз успомніце выгнанніка Назона,
Старога, кволага, сасланага туды,
Дзе царства цэлы год зімы, бяды й нуды,
Ды мора цяжкі рык, ды варвары наўкола...
Убогі, дзікі край! Вясною бруд і холад.
Улетку чорны стэп: ні зацішных гаёў,
Ні вінаграднікаў, ні залатых палёў.
А там марозы зноў і неба ў шэрай рызе.
І вось рыпяць вазы, капыты б'юць па крызе,
Ўрываецца сармат, і сплюжвае ўсё ўскрай,
І вояў лавамі піхае за Дунай.

## *Арганаўты*

*М. Рыльскаму*

Так, сябра дарагі, пасуе нам адно:
Старое творчасці адборнае віно,
І мёд атыцкіх пчол, і перазвон касталій.
Хай кволыя дзядкі свае разводзяць жалі,
Хай пра сучаснасць нам наспеўвае схаласт,
Хай культаў і фактур няважаны баласт
Бярэ з сабою ў човен футурыст грымлівы, —
Мы на самоце йдзём па хвалі белагрывай
На мудрым караблі, ставёсельным Арго,
А ты як Тыфій нам, і ад стырна свайго

Ўжо бачыш светлы цень змагання й цяжкіх плавань:
Дуб з залатым руном, Калхіды блізкай гавань.

*30/IV 1924*

### *Звозка збожжа*

Спачынку лепшага нямашкі дый не трэба!
Высокі летні дзень узняўся ў безмеж неба,
Прыбіўшы да зямлі атару белых хмар.
Паперу на стале пакарабачыў сквар,
Ды і сама яна на жоўтым сонцы жоўкне,
І шолах ветрыка, што ні на міг не моўкне,
Сплывае з вершалін зялёных груш і ліп.
І ўраз ўрываецца рытмічны роўны скрып,
Нібы разгойданы валовымі рагамі,
Ідзе запрудамі, гародамі, садамі
І залатым дажджом прымятага сцябла
Б’е па сухіх тынах паўсоннага сяла.

### *На аддаленні*

Над сіняводнай горнай Цебярдою,
Ва ўпадзінах, сяленнях супакою,
Мінае лёгкі час, як контур дальні гор.
У бархаце нябёс патокі ззяйных зор
Нас закалыхваюць і ціснуць на павекі.
Паветра льецца некранутае спрадвеку,
І весяліць мяне, і поіць, і п’яніць.
Тут пахкі, смаляны, жывы агонь гарыць,
Неалітычных чар і міфатвору поўны.
І сны каля агню ў калматай, цёплай воўне
Туземных бурак!.. Хто іх прамяняе зноў
На зручнасць гарадскіх, такіх нервовых сноў!

*1928*

* * *

Я не складаў табе ні вершаў, ні паэм,
Адборнага віна замест лірычных тэм
Шукаў я за тваім услаўленым убраннем.
Ў сухіх праточынах над цемнабокім раннем
Угору ідучы да сініх верхавін,
Кляў мулкую жарству і дзеразу ажын.
На горах, поблізу зялёнакорых букаў
За ветрам стэпавым, за пераборам гукаў
Не бачыў ні Алмы, ні ўхваленых крыніц,
Каб зараз, воддаль ад тваіх марскіх цяпліц,
Заўзята праслаўляць у вершах «заняпадных»
Жарству тваіх дарог і схілаў вінаградных.

## *Вечар*

У сіняй сіняве рагалікам акруглым
Стаў жоўты маладзік, і ноч абводзіць вуглем
Па-над дарогаю самотны ясакар.
А вунь дзе скрозь зарос ажынай вогкі яр,
І над руччом вярхі тапаляў срэбралістых.
Хадзем, дзе валуны абочынаў скалістых
І цёмны аксаміт Гурзуфскага сядла
Напаўпразрыстая зліла ў адно імгла, —
Каб кругагляд марскі, пустэльны, сіні, голы,
Заклініўся ў агні і гоман сухадолу,
Як смутак за смугой разлогіх рэк, далін, —
У бестурботны лад спачынкавых гадзін.

## СТАРЫ ДОМ

*(Спроба апавядання)*

Апавяданне пра тое, як нехта выпадкова заначаваў у старым закінутым доме і потым, куды б ні сыходзіў, усё адно прачынаўся ў тым самым зачараваным месцы, — магло б, напэўна, зрабіцца маім самым улюбёным апавяданнем. Бо ўсё маё жыццё складаецца з незразумелых вяртанняў да нейкага зыходнага пункту, у якім усё існае страчвае раптам сэнс ды ператвараецца ў нагрувашчванне нічым не звязаных спаміж сабою аскалёпкаў. Відавочна, што менавіта з гэтай дзіўнай асаблівасці майго існення і выкрышталізаваўся вобраз нейкага зачараванага месца, куды так лёгка патрапіць, аднак выбавіцца адкуль ужо немагчыма.

Няхай гэткім месцам будзе самая звычайная хата ў прыгарадзе: драўляная, крытая ржаваю бляхаю, з вокнамі, забітымі дошкамі, у атачэнні зарасцяў дзядоўніку і крапівы. Няхай і герой апавядання будзе самы звычайны: працуе на заводзе, жыве бязжонцам у інтэрнаце. Што такое нашыя інтэрнаты, чытач, мусіць, ведае. Даўжэзныя, прапахлыя застарэлай кісляцінай і хлоркаю калідоры, сцены, пафарбаваныя ў нешта брунатна-зеленкаватае, адна засмечаная кухня-варыўня і дзве мыйніцы-прыбіральні на паверх, доўгі шэраг абшарпаных дзвярэй, што вядуць у цесныя пакойчыкі-катушкі на чатыры ложкі. Словам, суцэльны дыскамфорт, з якім герой апавядання ніяк не можа звыкнуцца. Натуральна, што ў нейкі момант, шукаючы цішыні і спакою, ён апынаецца ў прадмесці з надзеяй зняць пакойчык у прыватным доме або нават, калі пашэнціць, дык і цэлую хатку. І ўжо зусім няцяжка ўявіць, як ён, заўважыўшы за густа пераплеценым веццем здзічэлага саду ржавы дах, штурхануў лядашчыя весніцы нечае сядзібы.

Пакінуты гаспадарамі дом быў незамкнёны, і герой увайшоў усярэдзіну. У мяне ўзнікае спакуса змясціць у гэтую звычайную будыніну якісь не зусім звычайны спакмень або хоць бы нейкую дробную дэталь, якая б пасяліла ў душы наведніка цьмяны страх перад неведдзю, нейкую цёмную трывогу. Аднак стары дом, як звонку, так і ўсярэдзіне, самы звычайны. У сен-

цах — ззелянелы мядзяны вяшак для вопраткі ды пукі перасохлых зёлак пад столлю. У пярэднім пакоі — печка-грубка, цёмны, паточаны шашалем стол і пара гэткіх самых услонаў. Збоку ад дзвярэй — карэлая паліца-суднік і водаправодны кран. За пажоўклаю фіранкаю — другі, большы пакой, дзе месціцца выцертая ад доўгага ўжытку канапа ды расхістаная кніжная этажэрка. На сценах — плямістыя, паабдзіраныя дзенідзе шпалеры, паўсюль павута і пыл. З вокнаў, праз шчыліны паміж дошкамі, точыцца рэдзенькае святло... Карацей, у хаце самая звычайная надоба. Галоўнае — ляжак, на які шукальнік цішыні і ўтульнасці, стомлены марнымі пошукамі і блуканнем па прадмесных вулках, кладзецца адпачыць і засынае.

Наступнага дня ўсё як зазвычай: абуджэнне ў чужым доме, праца, вяртанне пад дакучлівым вераснёвым дажджом у абрыдлы інтэрнат, ляжанне на ложку, гукі нечай бяседы-застолля за сцяной і страшэнная апатыя да ўсяго. Зрэшты, можна падкрэсліць, што ў апатычным настроі маладога чалавека ўвачавідкі праступаюць рысы той абсурднасці ўсяго існага, пра якую я ўжо згадваў. Няхай яму здаецца, быццам ён у гэтым жыцці — нейкая выпадковасць, бязглуздая недарэчнасць. Быццам ён знаходзіцца зусім не там, дзе павінен быць, дыхае не сваім паветрам і, не могучы ні за што ўчаперыцца, падае ў цёмнае прадонне. Няхай ягонае жыццё ўяўляецца яму спалучэннем выпадковых ланцужкоў даміно, якія складаюцца паміма ягонай волі. І няхай вострая туга па іншых-лепшых часінах блісне ў гэтай бездані, а потым апануе роспачная здагадка, што ў самай прыродзе быцця, магчыма, ляжыць злом, выпадковасць, абсурднасць і ўсялякія пошукі сэнсу — адно толькі спроба запоўніць пустэчу існавання мудрагелістымі карункамі думак і ўяўленняў, заглушыць страх перад халоднай моўчаддзю гэтае пустэчы... У такой плыні сумных роздумаў герой наш нарэшце засынае.

І зноў мяне цвеліць спакуса даць у апавяданні фрагмент сну, які нешта праясніць у абраным мною сюжэце. Напрыклад, шэраг змрочных, рыхт у рыхт падобных адна да адной цэляў, па якіх наш герой ідзе ўва сне. І адчуванне, што ісці ўжо не варта, што лепш спыніцца ў адной з цэляў, няважна ў якой,

бо ўсё ў свеце — толькі паўтор таго самага. Аднак, нягледзячы на спакусу, мяне астуджае думка пра тое, што прыём гэты (выкарыстоўванне сну) досыць зашмальцаваны, і таму сон нашага героя самы звычайны, ніяк не звязаны са старым домам, дзе ён надоечы начаваў. Тым больш, што тут увесь цымус у моманце абуджэння. Спачатку хлопец не разумее, дзе апынуўся, потым — здзіўленне і разам з тым непамыснае адчуванне, што нешта нядобрае здарылася з часам. Ён спрабуе асэнсаваць незвычайную прыгоду, даць разумнае тлумачэнне: можа, хлопцы з інтэрнату перанеслі яго сюды ноччу? Але ж ён нікому не распавядаў пра дом?! Побач з загадкавым і трывожным будзённа-смешнае: адзенне засталося ў інтэрнаце...

Назаўтра прыгаломшаны герой прачынаецца ў той самай хаце, на той самай канапе, і да ягонай свядомасці дапінае, што ён патрапіў у незвычайную пастку. Хлопец не ідзе на працу, уважліва разглядае ўсё, што толькі можна, у доме і садзе, аднак нічога таямнічага ды загадкавага не знаходзіць. Зноў жа, мне карціць збіцца на дэтэктыўна-фантастычны тор, маўляў, ёсць у старым доме нешта такое, што дае хоць які налуск на разгадку. Мне ўжо хочацца, дзеля займальнасці, увесці новага персанажа і закруціць нашага героя ды ўведзеную асобу ў коле неверагодных падзеяў і ўчынкаў. Але я ўстрымліваюся ад чарговай панады, бо галоўнае тут тое, што дом-пастка сам сабою ёсць невытлумачальная немінучасць, якую застаецца толькі адно *прыняць на веру*. Немінучасць гэтую прынцыпова нельга спасцігнуць розумам, яна — пазатлумачальная.

А таму, адагнаўшы спакусу, я пакідаю ў апавяданні толькі марныя высілкі нашага героя выбавіцца з пасткі. Ён спрабуе не начаваць у інтэрнаце, спрабуе ўвогуле не спаць, едзе на электрычцы за горад, нават спальвае хату. (Хата, як тая птушка Фенікс, варта было толькі нашаму герою заснуць, аднаўляецца ў сваім першапачатковым выглядзе.) Нарэшце апошні высілак: самалёт пераносіць яго на марское ўзбярэжжа — за дзве тысячы кіламетраў на Поўдзень. Начаванне ў гатэлі — гэтым разам нічога не здараецца! — і кволае спадзяванне на збавенне. А назаўтра — тая самая хата, тая самая рыпучая канапа, голле здзічэлага саду за акном...

Вось бадай і ўсё апавяданне. Для мяне тут важна тое, што аніякіх сродкаў выбавіцца з заганнага кола ў прынцыпе не існуе. Застаецца хіба самагубства або (што больш верагодна) пакора перад немінучасцю, тым больш, што амаль нічога не замінае маладому чалавеку жыць звычайным ягоным жыццём... Я ўнікаю новай спакусы — выдумляць, як жудлівая пастка-дом усё больш і больш апаноўвае сваю ахвяру ды вядзе яе да немінучай гібелі. Магчыма нават, што жыхар старога дома з цягам часу пачынае адчуваць нешта блізкае да пачуцця асалоды ад сваёй татальнай немачы і бязвыйснасці становішча. Адчуванне гэтае досыць складанае і патрабуе адмысловага абзаца ў апавяданні, бо яно хаваецца ў самай глыбіні недасканалае чалавечае прыроды...

У рэшце рэшт, апавяданне пра стары дом — гэта ўсяго толькі матэрыялізацыя маёй навязлівай ідэі пра вяртанне чалавека да аднаго таго самага пункту, у якім рэчаіснасць і сама чалавечая душа страчваюць сэнс і ператвараюцца ў нейкі кангламерат абсурду, выпадковасці і злому. Вяртаючыся да гэтага зыходнага пункту — своеасаблівага «ab jove principium» («пачатка пачаткаў») — чалавек пачынае разумець, што свет па-за мурамі «старога дома» — плашчыня без глыбежы, штосьці накшталт «благой бясконцасці», калі карыстацца матэматычнай тэрміналогіяй.

Зрэшты, апошнім часам мне здаецца, што сама паўтаральнасць адзначанага мною тупіковага стану — гэта ці не падказка, што шукаць іншага ўстойлівага прыстанішча, дзе б мы не нудзіліся самі сабою, дзе тоіцца ўсё, незалежнае ад плашчыні быцця, істотнае для нас, — трэба ў адмаўленні самога «старога дома», гэтай апошняй повязі, што лучыць нас са светам. Магчыма, менавіта за гэтым адмаўленнем хаваецца новы жыццядайны свет, дзе ўсё раздробленае і разарванае сыходзіцца ў адно і набывае сапраўдны сэнс. Аднак, хутчэй за ўсё, і гэтае маё меркаванне ёсць папросту чарговая ілюзія, спакуса, за якой хаваецца тая самая роспачная пустэча быцця...

«Стары дом», тым не менш, быў і застаецца заўсёднаю рэчаіснасцю майго небагатага і сумнага існавання.

*1991*

## КАРОВА

Калі б нехта зазірнуў у гэтае незапавешанае акно, дык убачыў бы ў паўзмроку жалезны ложак і чалавека, які спіць на ім. Мужчына ў пакамечаным пільчаку ляжыць на спіне, і правая ягоная рука, ненатуральна вывернутая, звісае над падлогаю. Сон у мужчыны цяжкі і трывожны, спазмы сціскаюць горла, і ён стогне, мыляючы вуснамі, быццам яму бракуе паветра. І каб не гэтыя стогны, ягоны азызлы і зарослы рэдкаю шчэцю твар мог бы здацца тварам нябожчыка, які даўно памёр і застаўся, усімі забыты, ляжаць у той самай нязручнай паставе, у якой напаткала яго смерць.

У каламутна-жоўтым святле, якое ціснецца праз шыбіну, бязгучнымі зданямі шныпараць пацукі. Адзін з іх спыняецца каля павіслай над падлогаю чалавечай рукі і ў немым здранцвенні глядзіць на агромністы бясформны кучмень, што ўзвышаецца на ложку. Хрыпата брынкае будзік, і пацук зрываецца з месца, растае ў цемрыве хаты.

Мужчына прачынаецца, ссоўвае з ложка разбухлыя, бы ў тапельца, ногі і заходзіцца астматычна-доўгім кашлем. З цяжкасцю нацягвае скарабачаныя боты, нацублівае на голаў зашмальцаваную кепурку. У сваім цесным катуху ён выглядае нібыта вялікая абмяклая лялька з ватнымі рукамі і нагамі. І, не раўнуючы, як тая лялька, ён няўклюдна ўстае і, хістаючыся, валюхае да стала. Бярэ ў абедзве рукі гарбатнік, п’е прагна, з булькаценнем, проста з піпца. Адставіўшы нарэшце гарбатнік, намацвае на стале счарсцвелы бохан, адломлівае ладны кавалак, запіхвае ў кішэню і выходзіць у сенцы.

Па нядоўгім часе мужчына коціць на ровары па чорным бруку, да якога туляцца цёмныя, акрытыя ржаваю бляхаю хаты. Панажы ровара тужліва рыпаюць у волкай цішыні, і ў цьмяным святле, якое точыцца з-пад нізкіх рудых хмараў, нясклёпістая, згорбленая постаць седака нагадвае вялікі, разлезлы ва ўсе бакі жмут зрэб’я. На першы погляд здаецца, што чалавек едзе па вёсцы, аднак анідзе, як вокам кінуць, не відаць ніводнага дрэва ці хмыза. Хаты стаяць на чорнай, бы вугаль, роўнядзі, спярэшчанай глыбокімі расколінамі. Чорную гэтую

пустку абступаюць даволі высокія, невядомага паходжання піраміды-качагоры.

Прамінуўшы вёску, ровар выкочваецца на шашу, якая сталёвым лязом разразае чорную пустку і губляецца сярод качагораў. На нерухомым твары мужчыны нельга прачытаць, пра што ён думае, аднак відавочна, што несамавіты выгляд мёртвай пусткі не раздражняе і не прыгнятае яго. Здаецца, ён зусім ні пра што не думае, а толькі слухае мернае рыпенне панажоў, уталопіўшыся ў мройна-шэрае палатно шашы.

Шаша, дасягнуўшы першай ад вёскі «піраміды», пачынае паволі ўзнімацца ўгору. Цяпер бачна, што стромыя качагоры, якія грувасцяцца абапал шашы, гэта агромністыя груды шумецця, друзу, адкідаў, каторыя, нібыта сапраўдныя горы, цягнуцца да самага небакраю. Ад качагораў тхне дуротным смуродам, аднак чалавек на ровары не зважае на яго: відаць, што са смуродам ён таксама даўно звыкся. Панура ўвагнуўшы голаў, ён няспешна круціць панажы, і іхняе скрыгатанне рэжа загуслую над пірамідамі цішыню.

Бухматы ад прывідна-мярцвянага свячэння пацук шпарка перабягае дарогу. Мужчына перасмыкае плячыма ці то ад агіды, ці то ад халадэчы, прыўзнімае голаў і глядзіць некуды наперад. Шаша ўпіраецца ў неба, і яму здаецца, што хоць ён і круціць панажы, ровар застаецца на месцы, як тое бывае ў сне. Яго і сапраўды хіліць на сон, ды раптам на імглістым далягладзе вылынвае іскрыстая, падобная да дырыжабля спаруда. На пукатых баках спаруды скачуць вясёлкавыя полыскі, а з палубы, якая месціцца на ейнай спіне, чуюцца выбухі смеху, воклічы, дзынканне шкла, пасажы джазавай мелодыі. «Дырыжабаль» плыве па-над шашою, і гірлянды рознакаляровых агнёў на парэнчах палубы адкідваюць на вільготны асфальт зыркія адбіткі, якія рухаюцца насустрач ровару. І калі той апынаецца пад дырыжаблем, цераз парэнчу звешваецца, перагнуўшыся ледзь не напалам, аголеная да сыскоў жанчына з паголеным ілбом і жарымі, раскудлачанымі валасамі, з набеленым, а затым расфарбаваным тварам. Яна віскліва рагоча і шпурляе ў мужчыну пляшкаю ў серабрыстай абгортцы. Пляшка разбіваецца перад роварам і абдае седака пырскамі і

ашкелкамі. Ды той толькі ніжэй нахіляецца над рулём і гэтаксама панура і няспешна націскае на скрыгатлівыя панажы.

Трохі не даехаўшы да таго месца, дзе шаша, пераламаўшыся, пачынае спускацца долу, мужчына крута бярэ направа і знікае ў сутонлівым прахоне паміж дзвюх смеццевых пірамідаў. Ён прабіраецца па ледзьве прыкметнай, аднаму яму вядомай сцяжыне ўсутыч з пірамідай, і цяпер нават у цемені бачныя пакарабачаныя рэшткі аўтамабіляў, скруткі дроту, пагнутыя руры, шпулі ад кабелю, адломкі бетонных плітаў, россыпы бітага шкла. Пачасту мужчына змушаны злазіць з ровара, каб перанесці яго цераз друз, які перакрывае сцежку.

Нарэшце ровар выязджае на невялікую, зарослую густою травою пляцоўку. Сярод пірамідаў-шуметнікаў лугавіна гэтая выглядае як таямнічая краіна Шамбала, схаваная за няпрыступнымі для людзей гарамі. Мужчына злазіць з ровара, адвязвае ад багажніка брызентавы, згорнуты ў сувой мех і шкандыбае да вялікага валуна, што самотна бялеецца пасярод травяністай прагаліны. Да ровара падбягае пацук. Ён абнюхвае гумовую шыну і раптам замірае ад звонкага шоргату: гэта чалавек каля валуна пачынае мянташыць тонкую, з едзеную доўгім карыстаннем касу. Маленькія пацучыныя вочкі-пацеркі са здзівам назіраюць, як чалавек, паклаўшы мянташку на валун, глуха выдыхае і робіць першы пракос...

І зноўку тужліва рыпаюць панажы. Мужчына з наладаваным на багажніку мехам вяртаецца ў вёску, якая нікне ў праваллі, агорнутым загуслай нематою. А за спінаю седака ў навіслае над качагорамі ржавае неба з ціхім сіпеннем узлятаюць невідочныя ракеты і з сухім трэскам рассыпаюцца на сціжмы зіхатлівых знічак, якія павольі ападаюць долу.

Мужчына адвязвае ад багажніка мех, ставіць яго на зямлю, а ровар заводзіць у сенцы. Вяртаецца і нясе мех да бетоннай, падобнай да склепа ці, хутчэй, да дзота, будыніны, што шарэе за хатаю. Адчыняе адныя, потым другія дзверы.

Сутарэнне патыхае на яго водарам прэлай травы і перагною. Нешта вялікае тупаціць у цемені, глуха шоргаецца аб мур, шумна і глыбока ўздыхае. Мужчына ставіць мех на цэмента-

вую падлогу, абмацвае на сцяне ўлучальнік. Цьмяная лямпачка запаляецца пад нізкаю столлю, і некалькі пацукоў, нечакана выхапленых з цемры электрычным святлом, кідаюцца ў кут і, замінаючы адзін аднаму, лезуць у праломіну ў падлозе.

На мужчыну пудліва глядзяць вільготныя з бухматымі вейямі каровіны вочы. Адзін рог у каровы зломлены, пыса перавязаная бруднаю анучаю, з-пад скуры, пакрытай злямчанаю поўсцю, выпіраюць драбы і маслакі. Мужчына бярэ прыхінутую да сцяны мятлу, сунецца да каровы і змятае з-пад яе расцярушаную траву і свежыя ляпёхі ў яміну, пакрытую драўлянаю рашоткаю. Падоўжаная яміна, куды мужчына змятае гной, і сцёртая шына каля ўвахода сведчаць, што калісьці ў гэтым склепе быў гараж.

Скончыўшы пратанне, мужчына вытрасае з меха перад кароваю траву, здымае са сцяны вядро і плёскае ў яго з тэрмаса цёплай вады. Падыходзіць да каровы, развязвае мызу, заходзіць збоку і нязграбна гнецца пад карову, зазіраючы на ейнае вымя. Карова чмыхае, касавурыцца на гаспадара, нервова пераступае з нагі на нагу. Мужчына гладзіць яе па рабрыстым боку, і па скуры жывёлы прабягаюць дробныя дрыжыкі. Але паступова яна супакойваецца, пачынае есці.

Мужчына плюхае на вымя цёплаю вадою, крысом пільчака выцірае яго насуха і сцярожка дакранаецца нязграбнымі пальцамі да аксамітных, крэмавага колеру сыскоў. Цуркі малака рэзка б’юць у бляшанае дно. Але неўзабаве мерны і звонкі гук даення патанае ў шумавінні, і толькі зрэдку, калі струмок трапляе ў бок даёнкі, ён на момант заглушае цяжкое хрыпатае дыханне мужчыны і чмыханне каровы, якая прагна жве траву. У цемнаватым, парным ад перагною склепе мірсціцца, што чалавек і карова вершаць нейкі містычны, незразумелы ім самім абрад.

Калі мужчына выціскае ў вядро апошнія кроплі малака, перад мызаю каровы прабягае пацук. Карова торгаецца і ледзьве не перакульвае даёнку. Мужчына паспявае падхапіць яе. Трымаючыся вольнаю рукою за паясніцу, ён з крэктам устае, ідзе да той праломіны, у якой знік пацук, і, прыгнуўшыся, вылівае ў яе змесціва вядра. Карова выцягвае шыю да гаспа-

дара, прыглушанае рыканне вырываецца з ейнага горла. З праломіны чуюцца гучны плёскат і папіскванне. Гэта ашалелыя ад голаду пацукі пялёскаюцца ў малацэ. Крыху паслухаўшы шумны пацучыны гармідар, мужчына ставіць на падлогу перакуленае дагары вядро і грузка сядае на яго.

Ноздры казыча прыемны пах гною, малака і травы. Мужчына глядзіць на сваю карову і з асалодаю слухае ейнае чмыханне і жванне. Ён гатовы праседзець так да скону, і падобная да ўсмешкі крывая грымаса перакрэслівае ягоны змрочны азызлы твар.

Глухое басавітае гудзенне, якое імкліва нарастае і набліжаецца, вяртае яго з утульнага здранцвення. Штосьці магутнае і цяжкое праносіцца над самым дахам. Скалануліся, затрымцелі бетонныя муры і падлога, і карова, вырачыўшы вочы, у смяротным жаху шарахаецца па склепе.

Пануры і яшчэ больш згорблены мужчына сунецца ў каламутным свячэнні вясковай вуліцы. З кароваю адбываецца нешта не тое. Калі ён паклаў, як зазвычай, перад ёю бярэмя свежай травы, яна нават не дакранулася да яго. Раскірэчыўшы пярэднія ногі, безуважна матляла з боку ў бок галавою. І знячэўку мужчына заўважыў, што левы бок у каровы раздзьмуўся, распух, і зразумеў: ягоная карова захварэла.

Угінкам, каб не зачапіцца за вушак нізкіх дзвярэй, ён пераступае парог кавярні і апынаецца ў прасторнай, з двума шыхтамі паліраваных сталоў зале. Згледзеўшы ў прыцемку хударлявага аднарукага чалавека, новы наведнік скіроўвае да ягонага стала, сядае ў крэсла насупраць, моўчкі бярэ напоўнены нейкім зеленкаватым пітвом куфаль, прагна, не адрываючыся, п’е, ставіць спаражнелы куфаль на стол і толькі тады сіпата выдыхае:

— Захварэла.

Аднарукі таксама адстаўляе куфаль, выцірае далонню вусы і прамаўляе:

— Алею трэба.

— Алею? — здзіўлена перапытвае суразмоўнік.

— Так. Янук даваў сваёй алей.

— А дзе Янук?

Аднарукі косіцца на блішчасты плех бармена, які, паклаўшы голаў на руку, спіць за стойкаю.

— Забралі ўчора. Разам з кароваю. — І, хвіліну счакаўшы, дадае: — Янук сваю, калі што якое, вадзіў у «Шамбалу». Ты ведаеш, пра што я...

Цераз-пагадзя мужчына зноўку спускаецца ў склеп. У ягонай руцэ бутэлька з алеем. Ён развязвае каровіну мызу і, ухапіўшыся вольнаю рукую за рог, выварочвае мызу да столі, улівае з бутэлькі ў зяпу алей. Карова ўпіраецца нагамі, выкручваецца з ягонай пяцярні, чхае. А калі мужчына адпускае рог, з каровінай зяпы цячэ жоўтая, з камячкамі неперастраўленай ежы сліна. Карова асядае на заднія ногі і, раскірэчыўшы пярэднія, сядзіць так, не могучы ўстаць.

Пад навіссю атрутна-жоўтых хмараў паволі сунуцца двое. Спераду — вялікі камлюкаваты чалавек, за ім, на вужоўцы, пакорліва тупае карова. Мыза ейная перавязаная анучаю, на капытах таксама анучы, і таму карова ступае мякка, амаль бязгучна. Затое на каровінай шыі боўтаецца званок, які журботна і неяк няісна бомкае ў воглай цішыні.

Паміж кароваю і чалавекам прабягае пацук. Карова шарахаецца ўбок, напінае вужоўку, не хоча ісці далей. Гаспадар паварочваецца да сваёй худобы, гладзіць яе па шыі, прамаўляе: «Ідзі, дурніца, ідзі. Там паветра і трава!»

Угары, на зломе шашы, зіхаюць фары. Зыркае святло выхоплівае з суцьмежы злітыя ў адно постаці чалавека і жывёлы. Чорны, з адкрытым кузавам лімузін імчыць на іх па шашы. Карова вырываецца з рук аслепленага мужчыны і, ашалелая, лезе наўпрост на стромы схіл качагора. Ачомаўшыся, мужчына грузка плюхаецца ў прыдарожны рышток.

Пранізліва верашчаць гамульцы. Лімузін спыняецца непадалёк ад таго месца, дзе стаіўся мужчына. З лімузіна выкульваюцца ўзброеныя, у чорных блішчастых камбінезонах людзі. Цішу скаланаюць сухія аўтаматныя чэргі, раскацісты гогат, п’яныя воклічы:

— Карова! Гы-гы! Карова!

У некага ў руцэ запальваецца ліхтарык. Тонкі прамень гойсае па схіле, дзе знікла карова. З лімузіна выторкваецца напаўголая жанчына з жарымі валасамі — тая самая, з «дырыжабля». У руцэ ў яе пляшка ў серабрыстай абгортцы.

— Сп'яну, дык і слон памірсціцца! — віскліва рагоча яна.

Мусібыць, страляніна па карове здаецца ёй надта смешнай, забаўляе яе. Яна шпурляе ў аўтаматнікаў пляшкай, і тая, апісаўшы дугу над іхнімі галовамі, разбіваецца перад тварам залеглага ў канаве мужчыны, абдаўшы яго пырскамі і ашкелкамі. Людзі ў чорным бруляць, хто дзе стаіць, залазяць у лімузін, і той зрываецца з месца, растае ў цемені.

Цішыня. Мужчына выбіраецца з рыштка і прыслухоўваецца. Дзесьці далёка-далёка бомкае званок. Але чаму бомканне чуецца не з таго боку, куды рынула ягоная недалужная карова? Як яна апынулася на супрацьлеглым ад шашы баку?

Мужчына пераходзіць дарогу і лезе на качагор, туды, адкуль чуецца ціхае бомканне. Лезе неяк нязграбна, бокам: смыліць параненая нечым вострым нага. З кожным метрам робіцца ўсё больш сцюдзёна і ветрана, але і бомканне цяпер добра чутно — перарывістае, сіпатае дыханне мужчыны не заглушае яго, і ён без супыну караскаецца ўсё вышэй і вышэй.

Нарэшце, амаль на каленях, ён выбіраецца на вяршыню піраміды. Дыхаючы са згукамі, падобнымі да скрогату шоргіля аб метал, ён выпростваецца і азіраецца. На прэнце, што тырчыць непадалёк, гойдаецца, зычна бомкаючы, бляшанка... Шалёны рапт ветру перахоплівае дыханне, і мужчына адварочваецца, хутаецца ў расхрыстаны, перапэцканы пільчак. Адсюль, з вяршыні, ён бачыць незлічоныя стромыя груды смецця, якія цягнуцца да самага небасхілу і тонуць у жаўтлява-мройнай каламуці. І нідзе ніводнае жывое душы... Мужчына лямантуе ад роспачнай безвыходнасці, яму хочацца крыкам разагнаць ворашны і незразумелы яму самому сон свайго жыцця, ды кволы, нязвыклы да крыку голас гучыць ціха і бездапаможна. І ў гэтую хвілю каламутную заслону на даляглядзе праразаюць зіхотныя траекторыі ракетаў, якія рассыпаюцца ў хмарах мігатлівымі знічкамі, што паволі апускаюцца долу.

Зусім нечакана змарнелы ад доўгага блукання сярод шуметнікаў мужчына выходзіць да «Шамбалы». Сярод лугавіны сівее нешта падобнае да вялікай жывёлы. Карова! Мужчына з апошняе моцы шкандыбае да яе, аднак бачыць, што гэта — валун. Ён з глухім стогнам падае ў траву і аціхае.

З-за валуна да нерухомага чалавечага цела падбягае пацук. Ён абнюхвае чалавека і, учуўшы ў кішэні хлебныя крошкі, пачынае грызці крысо пiльчака. Мужчына прыўзнімае голаў і некалькі імгненняў глядзіць на асмялелага грызуна. Хапае яго раптам у жменю і, выгаліўшы рэдкія зубы, штомоцы сціскае маленькае пацучынае цельца. Пацук, жаласна піскнуўшы, пырскае крывёю, якая расцякаецца па руцэ цёмна-чырвонымі паскамі. Мужчына страсае пацучыныя парэшткі на зямлю, выцірае далонь аб траву і нечакана, неяк па-дзіцячы, усхліпвае.

Над лугавінаю, у разорве сярод хмараў, праплывае блакітная зорка. І мужчыне здаецца, што гэта стуль, з зоркі, далятае да яго мілагучнае бомканне званка каровы, якую ён марна шукае тут, на мёртвым, пакрытым шуметнікамі агальчаку.

Мужчына, нераспранены, у брудных ботах, спіць на жалезным ложку. Сніцца яму зялёная, атуленая каржакаватымі дубамі абалонь. Ён сядзіць на цёплым ад сонца валуне і п’е з куфля сырадой. І ў сне малако здаецца мужчыне самым смачным пітвом, якое ён калі піў. Непадалёку пасвіцца ягоная карова. Мужчына глядзіць на зіхоткія ад сонца, светлыя, з чорнымі адмецінамі на канцах каровіны рогі і слухае чыстыя пераззвоны ейнага званка. І яму хочацца аднаго: вечна сядзець на цёплым валуне, глядзець на сваю карову і слухаць пяшчотныя пералівы званка ды шамрэнне разгалістых дубоў...

Знянацку ў суладныя пералівы званка ўрываецца нейкае назольнае брашчанне. Прачнуўшыся, мужчына яшчэ колькі хвіляў прыслухоўваецца да непрыемнага бразгату, потым нехаця расплюшчвае вочы і бачыць на стале пацука, які шкуматае абгрызены бохан, упрыт прыткнуты да алюмініевага гарбатніка. Учуўшы, як заварушыўся чалавек, пацук усхопліваецца на заднія лапкі і застывае так, утаропіўшыся ў чалавека маленькімі вострымі вочкамі. Пацучыны пагляд здаецца

мужчыне не па-чалавечы разумным, быццам пацук разумее нешта недасяжнае разуменню людзей, быццам ён бачыць яго наскрозь. Штосьці халоднае, патаемнае, нетутэйшае свяцілася ў пранізлівым пацучыным паглядзе, у немым ашчэры ягонай ікластай пашчы.

Мужчына ўстае з ложка, а пацук, нібыта разумеючы, што чалавек яго сёння не кране, спакойна глядзіць яму ў твар. Мужчына, сапучы і керхаючы, шкандыбае па рыпучых маснічынах у сенцы, здымае са сцяны ровар і выбіраецца на прыцярушаны нейкаю жаўтляваю парахнёю брук.

Мужчына мерна круціць панажы ровара, і нічога, апрача абыякасці, немагчыма прачытаць на ягоным скамянелым ад халадэчы твары, у пустых, колеру выцвілага блакіту вачах. Шаша пакрысе ўзнімаецца ўгору і ўпіраецца ў пустое, бы вочы мужчыны, неба. І калі глядзець на мужчыну з вёскі, дык здаецца, што ён паволі ўзнімаецца напрасткі ў гэтае пустое неба.

*1988*

## ШАРАЯ ГАДЗІНА

*(З нагоды 40-годдзя выхаду кнігі Хведара Ніцкі. Тэзісы)*

Бывае такі журботны час, калі вечар ужо скончыўся, а ноч яшчэ не надышла. Наваколле тады патанае ў няпэўным, хварабліва-шэрым свячэнні, у якім звыклы свет страчвае раптам свае фарбы і наўвоч пераўтвараецца ў зусім незнаёмы, непрытульны, канаючы нейкі свет, а душу міжволі агортвае неспакой і сполах перад нетрываласцю таго, што дагэтуль здавалася трывалым і непарушным... Журботны гэты час, час канання перад насоўваннем начнога змроку, называлі даўней «шараю гадзінаю».

«Шарая гадзіна» — назваў сваю першую і апошнюю кнігу, выдадзеную акурат сорак гадоў таму, знакаміты цяпер паэт Хведар Ніцка. Сёння, калі наш край выбавіўся з паўкаланіяльнай залежнасці з боку магутнай суседняй дзяржавы, а заразом вызбыўся ад шмат якіх праяваў ейнага культурнага ўплыву, уліўшыся ў супольнасць іншых вольных краінаў кан-

тынента, — высвятляецца, што нашыя колішнія памкненні да палітычнай ды духовай незалежнасці пачасту грунтаваліся на досыць павярхоўных ідэалах (мары пра лепшы дабрабыт, напрыклад). Пераняўшы разам з безумоўнымі дасягненнямі супольнасці больш развітых грамадстваў і ўсе іхнія хваробы, мы пачынаем усведамляць, што гэтак званы Поступ як зямная з'ява ёсць тупіковы шлях развіцця, які вядзе да духовага выраджэння. Горка прызнацца, але жыццё майго пакалення, апанаванага змаганнем з таталітарызмам і шмат у чым эйфарычным імкненнем да абстрактнай свабоды, усе нашыя надзеі на адраджэнне занядбанага краю, нашая настальгія-туга па інакшых, лепшых часах, — былі толькі плямамі згасальнага сонца на вяршыні пагорка ў час, калі ўжо ўся суздром зямля ахутаная прысмеркамі шарай гадзіны. Хведар Ніцка, паэзія якога ў свой час абвяшчалася ў лепшым разе «няўцямным нагрувашчваннем містычных парыванняў і стылістычных выкрутасаў», ці не першы з нас адчуў набліжэнне нязнанай раней нявыкруткі чалавечага існавання. Больш таго — і гэта асабліва ўражвае — дакладна адлюстраваўшы той незайздросны тупік, у якім мы сёння апынуліся, ён ужо тады пачаў шукаць выйсце ў старадаўняй філасофскай традыцыі і практыцы краінаў Усходу, прадказаўшы тую панацэю, якая, ці не адна адзіная з усяго бясконцага арсеналу метадаў і шляхоў выратавання, спраўдзіла сябе.

<u>«Ноша», або Драма сэнсастраты</u>. Героя «Ношы», першай часткі кнігі Ніцкі, мы застаём у крытычным духовым стане. Усе повязі са светам, які раптам зрабіўся яму чужы, парушаныя, дый сам герой расплываецца на мноства супярэчлівых галасоў, якія нічога ўжо, апрача пачуцця прыгнечанасці і стомы, не выклікаюць. Падобна да таго, што герой «Ношы» робіць бязлітасны развітальны агляд свайго жыцця ў свеце, каторы не прыняў яго. Ён пільна ўглядаецца ў непрыстойна аголенае дно высахлага раптам існавання і пакутуе ад таго, што звыклыя чалавечыя стасункіператварыліся для яго ў хваравітыя сутаргі «рыбы ў нераце», дзе ўсім бракуе паветра і кожны раздзірае да крыві свае бакі аб вострыя плаўнікі суседа («Нерат»). А герой

балады «Адкрыцці», прайшоўшы ўсе «колы пакутаў» кахання, знаходзіць раптам (на партрэце) у аблiччы, здавалася б, да болю знаёмай, каханай жанчыны — д'ябальскія рысы. Свет у гэтай цудоўнай баладзе паварочваецца да зляканага падарожніка невядомым яму дагэтуль злавесным тварам.

Матыў невыноснасці існавання перамяжоўваецца ў «Ношы» з матывам канчатковай адзіноты чалавека ды роспачы перад тварам звыродлівага і бязглуздага свету. Нават зварот паэта да надзённых тэмаў (таталітарызм, адраджэнне нацыі і пад.) толькі ўзмацняе напал абсурдысцкага светаўспрымання, выклікае пачуццё разгубленасці перад неспасцігальнымі законамі светабудовы. Ніцка не бачыць ніякае мэты ў існым, не верыць, што чалавецтва рухаецца да нейкага больш дасканалага стану. Рэальна існуе толькі плынь часу з камбінацыяй тых самых падзеяў — бессэнсоўная іх гульня. Здаецца, гісторыя і жыццё чалавека падпарадкаваная нейкай цалкавітай інерцыі і пад ейным уздзеяннем усё на свеце вяртаецца да таго самага. Вечнае гэтае вяртанне Ніцка параўноўвае з паўтарэннем выпадковых візарункаў у калейдаскопе, які круціць калі і не варожая, дык абыякавая да чалавека рука («Рука»). У вершы «Пята» тыя, хто ацалеў пад гнётам таталітарызму, у збянтэжанасці пытаюцца адзін у аднаго: «А раптам вернецца Пята, І мы пачуем трэск хрыбта?» А зазірнуўшы ў «Куфар» чалавечай душы, Ніцка з горкасцю замыкае: «Апусціце свінцовае века і замкніце нутро чалавека!»

Той самай напружанасцю і бязвыйснасцю пранізаныя і пейзажныя замалёўкі «Ношы». На кожным кроку — парадаксальныя збліжэнні: «Вунь дрэва чорнага абрыс бязрукі на тратуары каля зяпы люку». Прырода ахутаная мярцвяным святлом, афарбоўка ўсіх бадай што твораў «Ношы» — манахромная. Інакш, відаць, і не можа быць, калі ўсё навакольнае ўспрымаецца як нешта сляпое, жорсткае, чужое чалавеку.

Натуральны вынік занадта пільнага і працяглага ўглядання ў гэты абсурдны свет — спустошанасць і нутраны холад, якія насоўваюцца ўслед за надмерным напружаннем углядання. «Душа й калені да ільду прымерзлі, заўжды я вінен Пекнаце

халоднай!» — канстатуе герой балады «Кай». І вось ужо мільгае першая здагадка, што і сама душа чалавека, каторая яшчэ нядаўна здавалася выратавальнаю выспаю ў акіяне абсурднага свету, — таксама відмо, мройныя выпарэнні таго самага акіяна.

<u>«Метамарфозы», або Драма адчужэння.</u> Страціўшы адчуванне сябе самога, скінуўшы апошнюю ахоўную абалонку «самасці», герой «Метамарфозаў» спрабуе ўцячы ў ілюзорную «Пушчу». Ён гатовы стаць там чым заўгодна, абы толькі не застацца сам-насам з той безданню, якая зеўрыць у яго за спінай, а дакладней — у ім самім. Прычым увесь цымус другой часткі «Шарай гадзіны» ў тым, што Ніцка падае ўцёкі ў міфалагізаваную «Пушчу» як спробу пазбавіцца ад пакутаў і балючых «чалавечых ісцінаў». Пераўтварыўшыся ў дрэва, герой «Метамарфозаў» нібыта радуецца такому пераўтварэнню і не без долі патэтыкі пытае: «Чаму я здрадзіў гойнаму маўчанню, што без мяне ўва мне заўжды жыло?» Аднак ужо праз страфу, зазірнуўшы ў бездань, на адхоне якой ён «карані пусціў», просіць, каб яму было дазволена быць «Калі не лісцем, дык хоць шумам лісця».

І ўсё ж «спакуса безданню» мацнейшая за трываласць каранёў. Драма сэнсастраты перарастае ў драму татальнай адчужанасці ад сябе самога: «Думку, якая прайшла нараджэнне, я аддзіраю. Месіва слоў я выштурхваю прочкі, а не складаю».

<u>«Цяга», або Драма здабывання.</u> Бібліёграфы і даследчыкі творчасці Ніцкі схільныя лічыць, што паэт у часе стварэння «Шарай гадзіны» практыкаваўся ў якойсьці з усходніх медытацыяў. Сам я не знайшоў у ягонай бібліятэцы ніводнай працы з тых, фрагменты з якіх прыводзяцца ў якасці доказу прыналежнасці творцы «Шарай гадзіны» да таго ці іншага кірунку ўсходняй філасофскай традыцыі. Аднак цяжка ўявіць, што духовыя станы героя раздзела «Цяга» зафіксаваў чалавек, які ў сапраўднасці не «пакаштаваў» іх. Ніцка параўноўвае гэтыя станы і з імклівым падзеннем у «Бездань» («Я варушу губамі, як быццам завадны, але з іх не злятае ніводны

гук зямны»), і з незвычайнай «Пусткай», дзе «няма аніводнай травінкі звычайнай, сумненняў няма і пакут», і з пахаваннем сябе самога. А ў невялічкай замыкальнай паэме «Хвароба» ён паказвае здабыванне новага свету ў выглядзе своеасаблівай «гісторыі хваробы». Першыя праявы новай духовасці ўспрымаюцца героем як сімптомы разбуральнай і невылечнай хваробы («Яна, яна — Вялікая Праказа — адзначыла таўром маё чало!»). Герой «Хваробы» назаўсёды пакідае стары свет, спаліўшы ўсё, што было сутваю ягонага існавання («Свой бедны скарб спаліў да тла я — Струпехлае, абрыдлае жытло, І як салома ў поцемках палала, Ўсю ноч не гаснучы, мінулае маё»). Хвароба ў сапраўднасці аказваецца духовым здароўем. Прыцемак бездані паволі запаўняецца новымі фарбамі і гукамі. Адчужанасць перарастае ў новую духовую прыроду. Туга па сэнсе жыцця рассейваецца, і нечакана разнасцежваецца панарама новага свету. Дакладней, гэта той самы свет, толькі цяпер ён бачыцца нібы з летака — увесь цалкам, а фарбы ягоныя настолькі выразныя, што спярша здаюцца ірэальнымі. У стане прасвятлення герой «Хваробы» ступае на «шлях жыцця ў прорве смерці», як акрэслілі ўсходнія мысляры ўступленне на стромы шлях духовага дасканалення.

На заканчэнне. Тры гады таму аматары паэзіі Ніцкі былі ўзрушаныя весткаю, што паэт да нядаўняга часу жыў у мурах манастыра Цзонхавы на Тыбеце. Аднак неўзабаве прыйшло і расчараванне: у небагатым скарбе, які пакінуў па сабе паэт, не было знойдзена ніводнага новага радка. «Шарая гадзіна» так і засталася першаю і апошняю кнігаю нашага выдатнага творцы. І ў гэтым мне бачыцца пацверджанне думкі аднаго майстра слова прамінулага стагоддзя, што «творчая бясплённасць неадлучная ад сапраўднай, высокай і чыстай, духоўнасці».

*1992*

## ЛАЎКА Ў СТАРЫМ САДЗЕ

*(Школьнае сачыненне)*

Вучням старэйшых класаў Віленскай беларускай гімназіі было прапанавана напісаць сачыненне «Мой улюбёны верш з кнігі «Шарая гадзіна» Хведара Ніцкі. Адно з тых сачыненняў мае, на нашую думку, пэўную цікавасць.

Сачыненне гэтае інтрыгуе ўжо тым, што гаворка ў ім ідзе пра верш Хведара Ніцкі «Лаўка ў старым садзе», які ніколі дагэтуль асобна нашай літаратурнай крытыкай не разглядаўся, а, найчасцей, толькі згадваўся ў якасці твора-прэлюдыі да знакамітай Ніцкавай паэмы «Хвароба». Зрэшты, згадваецца «Лаўка ў старым садзе» і ў сумнавядомым (і, у пэўнай ступені, анекдатычна-дакладным) адказе супрацоўніка «Маладосці» (літаратурна-мастацкі часопіс другой паловы XX ст.) М. Аўрамчыка, у якім згаданы супрацоўнік, ушчуваючы паэта-пачаткоўца за залішнюю «літаратуршчыну», акрэслівае баладу «Лаўка ў старым садзе» як «далёкую ад сапраўднай паэзіі і жыцця сумесь “містычнай тарабаршчыны” і “грубай фізіялогіі”».

«... Гэтай восенню, — піша гімназістка, — я натрапіла ў лесе на пакінуты гаспадарамі хутар. Асадзістая, з увагнутаю страхою хаціна, напаўразбураны хлеў, яміна ад пограба, закіданы размаітым хломаздам калодзеж і стары, зарослы крапівою, палыном і дзядоўнікам сад. Дол, абсыпаны залатоўкамі лісця і дробнымі яблыкамі-паданкамі. Саладкаваты пах гніення і такія недарэчныя тут хрызантэмы. А праз парадзелае галлё саду чарнеюць змрочна густа-зялёныя лапіны ялінаў... І мне падумалася, што тут, мусібыць, самае сумнае месца на зямлі».

Далей аўтарка сачынення разважае пра нетрываласць усяго створанага чалавекам (хутар), якое, варта толькі чалавеку спыніць свае намаганні, разбураецца пад наступам прыроды (лес). Узгадвае вядомыя ёй з «даоскіх» заняткаў у гімназіі выказванні кшталту: «Лязо, завостранае надта востра, слугуе нядоўга».

«Калі я прачытала баладу Хведара Ніцкі “Лаўка ў старым садзе”, — разважае гімназістка далей, — дык адразу прыгадала той самы хутар, дзе я пачула сябе так сумна і непамысна.

Падумалася, што менавіта там, у здзічэлым садзе паміж цёмных ялінаў, магла б існаваць такая незвычайная геаграфічная кропка, якая дазвання мяняе жыццё чалавека і яго самога, — варта толькі яму выпадкова патрапіць туды. Мяняе не таму, што з чалавекам здараецца нешта казачна-фантастычнае, а таму, што народжанае там адчуванне суму і халоднай пустэчы быцця — Ніцкава "нязводная хвароба" — не даюць ужо яму жыць па-ранейшаму...». (У Ніцкі такі духовы стан перададзены радкамі «Халодная ліне пустэча, праб'юцца парасткі млосці, а скроні сціснье нязнаны ніколі дагэтуль боль».)

Потым у сачыненні прыгадваецца вядомы ў медыцыне факт, што самы звычайны працяглы галаўны боль можа да непазнавальнасці змяніць характар чалавека і што сам Хведар Ніцка, як неаднойчы пісалі даследчыкі ягонай творчасці, быў хворы на такі боль. Аднак, заўважае гімназістка, з іншага боку, з практыкі навукаў Усходу вядома таксама, што нутраное «я» прабіваецца часту цераз параван несапраўднага існавання вельмі балюча і ўспрымаецца як невытлумачальны з гледзішча медыцыны боль. І неадпусны гэты боль робіць хутчэйшай хаду чалавека на стромым шляху духовага дасканалення. У нейкім, вельмі звужаным, але дакладным сэнсе пацверджанне гэтаму мы знаходзім і ў словах Старога Закону: «Чалавек створаны на пакуту, каб, падобна да яскаў, імкнуцца ўгару». Гэтым, уласна, выказваннем гімназістка і закончвае свае развагі пра верш «Лаўка ў старым садзе».

Дадамо яшчэ, што ў школьным сачыненні, між іншым, выказваецца цікавая думка пра другі радок балады: «Нябачна яе (лаўкі) за высокай травой і густым лісцём». На думку дзяўчыны, «высокая трава» і «густое лісцё» сымбалізуе ўсё, што замінае бачыць «замшэлую лаўку» ісціны. Адсюль жа вынікаюць такія размытыя і абагуленыя — нехарактэрныя ўвогуле для Ніцкі — эпітэты: трава — высокая, лісцё — густое, бо ўсялякае ўдакладненне ў дадзеным выпадку (крапіва, дзядоўнік, палын, мох і пад.), насыціўшы сад ілюзорнымі рэаліямі, толькі б зацьміла спасціжэнне сэнсу ўлюбёнага верша аўтаркі сачынення.

*1993*

## У ТАТАРСКІМ ПАЛОНЕ

*Закладнікі ці то «заложнікі»... Раней я бачыў іх толькі на экране ды чуў пра іхнія пакуты і выпрабаванні з роспаведаў знаёмых. Цяпер гэта закранула мяне самога. Тое, што здарылася са мною, адбываецца сёння на ўсім абшары вялікай Расеі, сталася будзённаю з яваю гэтай ускрай крыміналізаванай краіны...*

### *Пралог*

Напрыканцы красавіка пачаў мяне даймаць тэлефанічнымі званкамі адзін мой стары знаёмы з горада N, якому я колькі гадоў таму назад дапамагаў у Вільні збываць прывезеныя ім тавары. Мой прыяцель У. запрашаў мяне прыехаць у ягоны родны горад ды аднавіць былыя камерцыйныя сувязі. Прапановы ягоныя былі зваблівыя, досыць выгодныя. З'явілася нібыта мажлівасць крыху падзарабіць на сям'ю, на выданне газеты, якой быў выдаўцом і рэдактарам. Апроч таго, я даўно ўжо не быў у Расеі і пастанавіў (каб не марнаваць час) напісаць падарожныя нататкі, а таксама адведаць сваякоў, каторыя жывуць якраз па шляху ў Татарстан, у Падмаскоўі.

І вось, узяўшы з сабою адно толькі кішэнныя грошы ды фотаапарат, я выправіўся ў дарогу, спадзеючыся праз якіх дзесяць дзён вярнуцца дамоў. Падарожжа маё, аднак, расцягнулася на два доўгія і пакутныя месяцы...

Задаюся пытаннем: ці былі ў мяне кепскія прадчуванні? Безумоўна, былі. Таксама і добра знаёмыя мне віленскія бізнесмены адгаворвалі ехаць: маўляў, Татарстан сёння адзін з найбольш «бандыцкіх» рэгіёнаў, што «бандыты» там нікому спакойна не даюць працаваць, што ўжо не аднаго літоўца яны «раскруцілі», а некаторыя дык і зусім не вярнуліся дамоў — дагэтуль у росшуку. Я, аднак, супакоіў сябе тым, што еду да чалавека, якога ніколі раней не «падстаўляў», што еду да яго ў сям'ю, што сам ён ужо сталага веку. Апроч таго, за савецкім часам мне давялося шмат папрацаваць у розных «мядведжых кутках» Расеі на камсамольскіх ды іншых новабудоўлях побач з «хімікамі» (вольнаадпушчанымі), меў пэўны досвед, як сябе паводзіць, калі раптам патраплю ў цападлы да былых зэкаў.

***Прыезд***

Праз два дні, паспеўшы добра паблукаць па Маскве (па «горадзе смутку майго і кахання», дзе, дарэчы, прайшлі мае студэнцкія гады) ды пабавіўшыся з вагоннага акна на ранішнюю чырвонацагляную Казань з крамлём і мячэтамі, асветленымі дэкаратыўным зялёным святлом, — я ўжо быў у N і званіў у дзверы кватэры майго прыяцеля У. Дзверы ён адчыніў мне сам. Прыспаны і ў халаце. Кватэра была аднапакаёвая, бедна абстаўленая, бруднаватая. Гэта адразу занепакоіла мяне, бо У. раней быў добра забяспечаным чалавекам, меў вялікія грошы ад свайго бізнесу. Убачыўшы, аднак, жонку і малую яшчэ дачушку, супакоіўся: ці мала што з намі здараецца ў жыцці? У мяне ў самога неаднойчы бывалі і ўзлёты, і падзенні.

Пакуль У. хадзіў у краму «па хлеб», жонка У. паспела накрыць стол. У чаканні мы пагаманілі з ёю пра жыццё-быццё ў N і ў Літве, дзе яна неаднаразова бывала з мужам. Прыкладна праз паўтары гадзіны вярнуўся У.

Падчас пачосткі прыяцель мой паводзіўся крыху нервова: не глядзеў мне ў вочы, не хацеў асабліва «чокацца» за нашых агульных знаёмых і за прыезд.

Выйшаўшы з-за стала, я прыняў душ. Было ўжо паабеддзе. Нехта пазваніў у дзверы, і У. запрапанаваў паехаць пазнаёміцца з ягонымі «кампаньёнамі».

На вуліцы нас чакала машына. Крыху пакружляўшы па горадзе, мы спыніліся каля звычайнага, здаецца, 13-павярховага гмаху. Падняліся на ліфце разам з У. на нейкі паверх, прыяцель мой пазваніў у абшарпаныя дзверы адной з кватэраў, прапусціў мяне наперад і зашчоўкнуў за мной замок.

***У «падвале»***

У амаль пустым пакоі з абдзертымі шпалерамі, з вокнамі, занавешанымі бруднымі прасцінамі, мяне чакалі двое ў чорных, з прораззю для вачэй, «амонаўскіх каўпаках». Адзін з іх паказаў мне «ствол», параіў, каб я паводзіўся ціха, насунуў мне на галаву задам наперад брудна-белы шарсцяны «каўпак» з дзюркай для носа (у такіх «каўпаках» працуюць падчас

марозаў на Поўначы зваршчыкі), туга звязаў за спінай рукі суконнай дзягай. Потым абшукаў мяне, забраў грошы, дакументы і ўсё, што я меў пры сабе. (Пакінутую на кватэры ў У. торбу з рэчамі назаўтра таксама прывезлі ў «падвал».)

Я быў агаломшаны такім абыходжаннем са мною, такім хуткім і, як мне здавалася, бязглуздым паланеннем. Глядзеў на ўсё так, нібыта гэта адбывалася не са мною, не адчуваў страху. Тым часам мяне пасадзілі на адзіную ў пакоі канапу, У. сеў насупраць у крэсла, пачаліся нашыя першыя перамовы з ім, якія ўважліва слухалі мае «ахоўнікі». У. сказаў, што яму патрэбная (касмічная для мяне) сума «зялёных», каб расплаціцца з пазыкамі ды нанова «закруціць бізнес». Я адказаў, што не маю за душою ні граша (што было чыстай праўдай) і сам хацеў крыху зарабіць праз супрацоўніцтва з У. Адным словам, мы размаўлялі на розных мовах. (Гэта была акурат тая «класічная» сітуацыя, калі ў «прадаўца» няма тавару, у «пакупніка» грошай, а навокал зграя галодных «бандытаў», каторыя ўжо нізавошта цябе проста так не адпусцяць.)

Бачачы маю незгаворлівасць, «ахоўнікі» вырашылі мяне «пужануць». Адзін з іх паклаў мяне на канапу тварам долу і заткнуў рот кляпам. Затым зняў з левай нагі пантофлю, надзеў замест яго тэпаць (каб не было сінякоў?), заламаў нагу і не дужа моцна выцяў гумовай дубінкай. Удар па напружанай назе тупым болем адгукнуўся ў скронях. Пасля некалькіх «лёгкіх» удараў я знепрытомнеў. Калі ачомаўся, мой катавальнік, паказаў мне яшчэ адзін з сваіх «прыёмаў»: біў пад рэбры, ад чаго на хвіліну спынялася дыханне. На знак таго, што я буду больш згаворлівы, ён пасля трох такіх удараў запрапанаваў мне кіўнуць галавою. Мне нічога не заставалася, як пагадзіцца з ім. Як потым даведаўся, гэткім «прыёмам» майго новага прыяцеля «навучылі» ў «ментоўцы» (пастарунку) і што біццё па заламанай назе сапраўды не пакідае сінякоў і можа каго хочаш зрабіць «вальтанутым» (вар ятам). «Калі ўдасца вярнуцца дамоў, дык нічога ўжо не будзеш помніць», — патлумачыў ён.

Катавалі мяне нядоўга і ўсяго адзін раз. Вельмі шкадавалі, што я ім «у бацькі гаджуся»: быў бы маладзейшы, далі б не такога часу. Пасля заканчэння працэдуры мне выцягнулі з

рота кляп, перавярнулі на бок, накрылі з галавою коўдраю. У. з адным з «ахоўнікам» некуды сышлі. Той, хто мяне катаваў, сеў насупраць у крэсла. Я наўмысна варочаўся і зрабіў так, каб праз шчыліну ў «каўпаку» бачыць яго. Свой чорны нагалоўнік хлопец зняў. Быў ён смуглявы, з прыгожымі рысамі твару, худы, нейкі зусім нястрашны. Пад прыкрыццём коўдры я незаўважна выбавіў з суконнай дзягі рукі. Крыўдна было паводзіцца, як авечка перад закланнем, смеласці прыдавала і выпітая папярэдне з «сябрам» У. гарэлка. Я выскачыў з-пад коўдры і нечакана накінуўся на свайго адзінага вартаўніка. Ды ён аказаўся спрытнейшы, выхапіў «ствол», наставіў на мяне. Я вярнуўся на канапу, моўчкі сеў. Ён нанова завязаў мне рукі (гэтым разам спераду), сталёвым ізаляваным дротам спутаў ногі, так што я з гэтай хвілі мог рухацца толькі дробнымі крокамі. Біць ён мяне не стаў. (Пазней прызнаўся, што быў «ашарашаны» (ашапулены) маімі «нестандартнымі паводзінамі».)

Пасля гэтага маладзён-«ахоўнік» перавёў мяне за шафу, загадаў легчы на брудны, з засохлаю крывёю «цюфяк» з гэткай самай бруднай падушкай. На гэтым «лежбішчы» за шафай я, нарэшце, пачаў усведамляць сваё незайздроснае становішча. Знаходзіўся я ў цалкавіта чужым горадзе, апынуўся з ласкі «сябра» ў лапах «бандытаў», мае блізкія нават не ведалі, ці даехаў я да месца. Мяне маглі (прыкладам, ад страху) забіць, схаваць труп ды паведаміць, што я не прыехаў. Зразумеў, што самае галоўнае для мяне цяпер «падаць голас», каб ведалі, дзе я знаходжуся.

Так я праляжаў да наступнага вечара. Не прасіў ні піць, ні есці: дый мне і не прапаноўвалі. Прасіўся толькі ў прыбіральню, перад якой мне развязвалі рукі. Дзверы прыбіральні не зачынялі.

Гэтыя першыя содні майго «палону» былі найбольш роспачныя. Кватэра была, відаць, знятая пад мяне і за мае «канфіскаваныя» грошы. У дзверы пачасту стукалі падпітыя знаёмыя папярэдняга кватаранта. Мае «ахоўнікі» затойваліся, заляплялі мне рот шырокай ліпучай стужкай (скотчам), якая потым балюча аддзіралася разам з барадою. За шафаю было

задушна, я страшэнна пацеў у куртцы і пантофлях. Па «цюфяку» шныпаралі прусакі.

Пра што мне ўвогуле думалася ў гэтыя першыя содні палону? Што застаецца ў свядомасці чалавека ў гэткай, як мая, «парогавай сітуацыі»? Не пакідала пачуццё крыўды за зняважаную чалавечую годнасць: што можна сёння кожнага чалавека вось гэтак, як кавалак мяса, як парсюка, звязаць, засунуць за шафу і патрабаваць выкупу. Аднак сапраўднага страху смерці і шкадавання сябе самога чамусьці не было. (Мо таму, што век мой павярнуў з прыцiну на захад? Што я ўжо даволі нажыўся?) Вострае шкадаванне было да самых блізкіх мне людзей: жонкі і дачушак, якія не сталі яшчэ на ногі. Шкадаваў троху, што нешта не дарабіў у сваёй творчасці, што наогул так мала зрабіў. Думалася, як недарэчна часам паміраюць людзі. Паўставалі перад вачыма фрагменты з прамінулага жыцця, як бы я развітваўся з ім. Думалася пра вышэйшую справядлівасць, пра Бога: няўмела спрабаваў маліцца...

А тым часам пад'езд і вуліца жылі сваёй звычайнай, недасяжнай мне цяпер і таму жаданай, будзённасцю. Звонку гулі і сігналілі машыны, гаўкалі сабакі, крычалі людзі. За дзвярыма чуліся крокі тых, хто вяртаўся ці йшоў на працу, бразгалі дзверцы смеццявода, смяяліся дзеці. І я ляжаў усяго за некалькі крокаў ад іх!

Наступнага вечару прыехаў У., сказаў, што заўтра прывязе тэлефон, што я з «падвала» буду стэлефаноўвацца з Вільняй, прасіць, каб хто-колечы прыехаў у N з «выкупам». Я адказаў, што такога чалавека, каторы даў бы за мяне выкуп, няма. Магу толькі выклікаць чалавека з Літвы з «задаткам» за тавары, якія прапаноўваў мне У. На чым і пагадзіліся.

### *Другія содні і пераезд на «фазэнду»*

Назаўтра У. так і не знайшоў тэлефона, з каторага я мог бы пазваніць у Вільню. Гэтая «няўдача» ў пэўнай ступені паспрыяла майму ўратаванню і шмат у чым палегчыла мой лёс. Я па-ранейшаму ляжаў ціха, пытанняў не задаваў, не скуголіў, разумеючы, што мае ахоўнікі толькі простыя выканаў-

цы, «пацаны», карыстаючыся зэкаўскім слэнгам. Гэткія мае «нейтральныя» паводзіны, каторым я навучыўся на Поўначы і ў Сібіры, мелі пэўны плён. Мае «ахоўнікі» часам самі прапаноўвалі ваду і хлеб. Ад хлеба я адмаўляўся, а ваду піў — шмат пацеў у сваім катуху.

Вартавалі мяне пазменна. Удзень то адзін, то другі «ахоўнік» ненадоўга адыходзілі ў горад. Калі я заставаўся сам-насам з В., каторы мяне катаваў, ён дазваляў мне зняць нагалоўнік ды пасядзець у крэсле. Хлопец аказаўся начытаным, з цікавымі думкамі, з насычаным падзеямі лёсам. Прайшоў дзве расейска-чачэнскія войны, меў дзве «адсідкі». Да таго ж быў цікавы расказнік, шмат цытаваў з Лермантава. Літаратурнафіласофскія размовы з ім ды роспыты пра войны і «адсідкі» разважвалі маю самоту, адганялі зныдзелыя думкі праз цэлы час майго палону. У В. былі безумоўныя літаратурныя здольнасці, ён някепска маляваў.

Другі ахоўнік, А., быў больш нервовы і грубы, больш падозраны. Дазваляў толькі сядзець на «цюфяку», часта нечакана зазіраў за шафу, правяраў завязку на руках і путы.

Аднак збольшага мае ахоўнікі абодва знаходзіліся ў пакоі. Тады я маўчаў, слухаў, пра што яны гаварылі, чуў, як яны гулялі ва ўлюбёную зэкаўскую гульню «нарды» ды слухалі Шуфуцінскага ды іншую расейскую «папсу» з «блатным» ухілам. Асабліва назаляла «Малолетка, малолетка...», якая суправаджала мяне праз усё маё паланенне.

Надвечар прыехаў У. Паведаміў, што прыдатнага для перамоваў з Літвой тэлефона ён не знайшоў і што мы пераязджаем на «фазэнду». Мяне папярэдзілі, каб я «не рыпаўся», і развязалі. Я памыўся і трохі пачысціў скамечаныя штаны і куртку. Перад тым як выйсці, У. паказаў мне «ствол». А., каторы ішоў адзаду, паказаў мне «лімонку», сказаўшы, што губляць яму няма чаго.

Пакуль пераязджалі, з прыемнасцю і зайздрасцю глядзеў на вечаровы N, на праязджалыя міма машыны, на шпацыравальнікаў. Звычайнае людское жыццё сталася раптам для мяне такім недасяжным...

### *Першы вечар на «фазэндзе»*

Прывезлі мяне ў звычайную трохпакаёвую кватэру на трэцім паверсе пяціпавярховага дома. Завялі ў адзін з пакояў, дзе ў куце мяне ўжо чакаў зашмальцаваны матрац з гэткай самай падушкаю — новае маё «лежбішча». Пасадзілі на матрац, далі выпіць чарку гарэлкі, каб надалей усё выглядала больш натуральна, потым паставілі перада мною тэлефон, да скроні прыставілі «ствол»: «Звані!» Папярэдзілі, што калі не тое буду гаварыць, дык мне капцы. Я набраў нумар у Вільні, гаварыў «тое». Часам У. выхопліваў трубку ў мяне з рук, слухаў адказы «літоўца», каторы меўся прыехаць з грашыма па «тавар», якога не было. (Назаўтра бандыты падключылі другі тэлефон і праслухоўвалі кожнае маё слова. А ў свой першы вечар на «фазэндзе» я меў магчымасць нейкім словам-паролем папярэдзіць «літоўцаў», каб яны не выязджалі. Пра такі «пароль» я, аднак, з імі не дамовіўся — настолькі давяраў У.)

З першай маёй тэлефанічнай размовы з Літвою вынікала нібыта, што «літоўцы» словам маім паверылі і што яны неўзабаве з задаткам (фактычна, з выкупам за маю галаву) прыедуць у N. Прыкра мне было, што мой знаёмы ў Літве, якога я (хоць і пад «ствалом») «падстаўляў», паверыў у маю «байку» і пагадзіўся прыехаць, бо ў глыбіні душы я прагнуў, каб ён здагадаўся нейкім чынам пра маё жалю вартае становішча, не ехаў у Татарстан. На жаль, мае першыя перамовы прайшлі гладка. Адно крыху ўсцешыла, што выкуп за мяне зменшыўся ў тры разы — з большымі грашыма «літоўцы» ехаць не пагадзіліся. (Зрэшты, праз некалькі дзён я ад гаваркога ахоўніка В. даведаўся, што акурат такую суму запазычыў У. у іхнім бандыцкім «абшчаку» і не вярнуў. Бандыты добра яго за гэта пакаралі — параздраблялі ногі, пасля чаго У. тры месяцы ляжаў у гіпсе. Цяпер У. з гора «патрапіў у залежнасць» (г. зн. ужывае наркотыкі), не мае права выязджаць з горада... Зразумела, мне ад такіх роспаведаў лягчэй не сталася.)

Акрыленыя сваёй першай перамогай ды бачачы маё шчырае нібыта жаданне дапамагчы сабе і ім, ахоўнікі мае гэтым разам не завязвалі мне вочы і не звязвалі рукі. Я быў упершы-

ню накормлены смажанаю бульбаю з кіслымі агуркамі, папіў гарбаты з цукрам і маслам. Затым уладкаваўся на цюфяку, і мне было дазволена глядзець тэлевізар. Ужо позна ахоўнікі заставілі дзверы, праз якія ўваходзілася ў вітальню, цяжкаю тумбаю. Спалі яны пачародна: А. на канапе, што стаяла ля акна, а В. проста на падлозе каля мяне, бо нядаўна пакінуў нары, не мог спаць на мяккім.

### *Яшчэ дзевяць дзён палону*

Наступныя дзевяць дзён былі аднастайныя і падобныя адзін да аднаго. Таму апішу іх фрагментарна, што найбольш запомнілася.

Я па-ранейшаму захоўваўся «ціха», ні з кім не ішоў на блізкі кантакт. Кватэру, як высветліў, здымалі студэнты-юрысты з мясцовага ўніверсітэта, каторыя ў вольны ад навучання час, пэўна, дапамагалі «бандытам» і цяглiцамі, і ведамі. Адзін з іх часам заходзіў да мяне згуляць у шахматы, распытваў пра жыццё ў Літве. У гэты час ахоўнікі, нібыта выпадкова, выходзілі з нашага пакоя, спадзеючыся, верагодна, што я пачну «расколвацца»: жаліцца студэнту, прасіць, каб дапамог мне выбрацца з пасткі, прапаноўваць грошы. Зразумела, я вёў з сваім партнёрам у шахматах чыста нейтральныя размовы.

Дзякуючы плёну ў перамовах з Літвою ды ўзорным паводзінам мне дазволілі хадзіць па пакоі, мыцца, калі ў дом падавалі гарачую ваду. Кармілі раз на дзень усё той самаю смажанаю бульбаю з кіслымі агуркамі. Зрэшты, мае ахоўнікі харчаваліся мала, тым самым, што і я, і таксама адзін раз на дзень. Было відаць, што гэта іхні звыклы, «зэкаўскі» лад жыцця.

У часе праходак па пакоі я глядзеў у акно, прыкідваючы паступова, дзе знаходжуся, куды «рвануць», калі раптам пашчасціць выбавіцца з палону. Пакідаў у пакоях, дзе толькі можна, «сляды» — на той выпадак, калі мяне раптам перавязуць у іншае месца. Аднаго разу схаваў пры сабе асадку і напісаў у прыбіральні на шматку паперы, што я ёсць закладнік і што «здаў» мяне чалавек, каторы жыве па гэткай і гэткай адрэсе. Паперку схаваў у патайной кішэні нагавіцаў. Калі вартаўнікі забываліся зачыніць дзверы пакоя, я бачыў уваходныя дзве-

ры, назіраў, як яны адмыкаюцца і замыкаюцца. Зразумеў, што ніякага «сакрэту» замок не мае. Прыйшоў таксама да высновы, што вонкавай аховы дзеля мяне не выстаўлялі, бо быў я для «бандытаў» звычайны ды выпадковы «лох» (камерсант, якога ўдалося праз ягоную залішнюю даверлівасць заманіць у пастку), каторы нічога не быў вінны «братве» і якога трэба было толькі «раскруціць» дзеля папаўнення «абшчака».

Была поўная невядомасць, што будзе са мною і з «літоўцамі», калі тыя прыедуць у N. Хаця В., каторы, здаецца, сімпатызаваў мне, абяцаў пагаварыць з «паханом» (старшым званнем бандытам), каб усіх нас жывымі адпусцілі дамоў і нават машыну не адбіралі. Што праўда, я не дужа спадзяваўся на гэткі «шчаслівы» канчатак сваіх «прыгодаў». Самым лепшым выйсцем у маім становішчы былі б уцёкі, думка пра якія ні на хвілю мяне не пакідала. У выпадку, калі б я вырваўся з палону, я губляў толькі тое, што ўжо і так згубіў: грошы, дакументы, рэчы. А самае галоўнае — не «падстаўляў» сваіх прыяцеляў з Літвы. Але непамысна і страшнавата было ўяўляць, што чакала мяне ў выпадку няўдачы: зноў пабоі, «каўпак» на галаве, прусакі...

Самоту маю і няпэўнасць скрашваў сваімі разважаннямі В., катораму, відаць, імпанавала гутарыць з чалавекам, абазнаным у філасофіі ды літаратуры. Мне таксама было цікава пачуць падрабязнасці апошніх расейскіх войнаў ды цяперашняе жыццё ў «зонах». На маё пытанне, як паводзіцца, калі раптам патрапіш туды, В. агучыў чатыры галоўныя запаветы ці то зэкаў, ці то будыстаў:

— не прасі;

— не бойся;

— не вер;

— гавары праўду.

Слушныя і карысныя парады, каторыя неўзабаве дапамаглі мне. Паверыўшы, што я пісьменнік (у мяне ў дакументах было пісьменніцкае пасведчанне), В. ахвяраваў мне свой літаратурна-філасофскі твор, фрагмент каторага падаю ніжэй.

*Я любил…*

Я раньше всё время жил в каком-то выдуманном мире: школа, дом, родители, работа, армия. Армия... Попав в этот адский мир войны, во мне всё перевернулось: идеалы, мысли, желания. Хотя жужжание пуль и не располагает к глубоким размышлениям, тем не менее там они меня всё время посещали. Зачем? почему? за что? — эти вопросы хотелось не задавать, а кричать! Вот и сейчас, сидя в тюрьме, по прошествии пяти лет после того кромешного ада, который я прошёл в пьяном угаре и безмолвной ярости, — пытаюсь проанализировать, что же во мне изменилось после этого «сеанса шоковой терапии». То, что я стал жёстким и колючим, это однозначно, хотя и мягко сказано. Я стал жестоким. Вспоминая тот случай, из-за которого я получил свою первую судимость, я поражаюсь той жестокости, с какой я всё это проделал. Кругом была кровь, а мне было всё мало. В то же время я ужасаюсь своей собственной жестокости и бесповоротности моей натуры и всё больше и больше утверждаюсь в мысли, что уже не изменюсь. Я очень молод, но вместо справедливости, радости и счастья во мне, как в последней гнилушке, осталась только злость, даже больше, чем злость, — ярость, ненависть, подозрение и месть. Ненависть не ко всему живому, а к Человеку. Вот! Поэты воспевают, что человек — венец природы... Да никакой он не венец, а самое гнусное её изобретение, её самая большая ошибка.

Я боюсь своих мыслей. О чём бы я не стал думать, всё у меня в конечном итоге сводится либо к гнусности, либо к низменным порывам человека. Я просвета не вижу! И это страшит. Но ведь с вечной злобой жить нельзя, и такой образ мышления моей натуры приведёт меня либо в дурдом, либо к пуле. Я понимаю всё это, но остановиться не могу. Живу и тону в своей же ярости, всё делаю с каким-то остервенением и кончу, наверное, свою жизнь как бешеный пёс, чего и заслуживаю. Встречаюсь с человеком, чувствую интуитивно, что он человек хороший, но ищу в нём плохие черты. Или, не найдя их, рву с этим человеком все отношения...

У меня какая-то мания окружать себя отбросами общества и потом их же и топтать. Иногда думаю: «Кто же тебе право дал людей наказывать?» Не знаю и, наверное, никогда не пойму. Почему я отталкиваю хороших людей, даже когда они сами ко мне стремятся, огорождая себя ничтожествами? А если так, то я не имею никакого права их наказывать, потому что стою на одной социальной ступеньке с ними, стало быть, не лучше их. Но почему я считаю себя лучше их, правильней, справедливее? (Не могу сказать, что я не способен к самоанализу, так что в объективности моих рассуждений о себе сомневаться не приходится.) Почему же так происходит? Может, это болезнь, мания величия? По-моему, симптомы не те. Так выходит, что я до такой степени прогнил? Опять же, не соглашусь, взяв из своей жизни несколько элементарных примеров. А может, я слишком требователен к себе? Но я никогда не требую от человека, чего не делаю сам!..

Я сильно запутался в своих мыслях, никого не допускаю в свой внутренний мир. Хочется жить просто, но мне с самим собой сладить непросто. Пытаюсь понять, что со мной стало после армии. Я же никогда раньше таким не был. Веселился, когда было весело, плакал, когда было плохо, я любил!

### *Уцёкі*

У чаканні выезду сваіх «вызвольнікаў» з Літвы правёў я так дзевяць дзён. Нарэшце быў прызначаны дзень выезду. Узрадаваныя навіною ахоўнікі, і разам з імі У., пастанавілі адзначыць поспех у такой нетрывалай з усіх бакоў справе, як захоп і ўтрыманне закладніка. У. недзе апоўдні прывёз дзве літровыя пляшкі гарэлкі і два бутлі піва, кілбасаў, цыбулі. В. ненадоўга знік і прывёз з сабою «пахана», ужо падпітага, брытагаловага, невысокага ростам татарына пад шэсцьдзясят гадоў. «Пахан» сеў поруч са мною, трохі параспытваў у мяне пра Вільню, хітаў пры гэтым сваёй круглавіднай галавою і чамусьці радасна ўсміхаўся, хаця я нічога смешнага не гаварыў. З намі ён доўга не сядзеў.

Гарэлка ўперамешку з півам падзейнічала, як мае быць. Праз якія дзве гадзіны я і мае ахоўнікі «вырубіліся» (пазасыналі). Я заснуў, дзе сядзеў, на канапе.

Калі нечакана прачнуўся, убачыў, што дзверы насупраць, як зазвычай, застаўленыя тумбаю з цяжкім вазонам на ёй, а на маім месцы, на цюфяку, храпе А. Нікога больш відаць не было. У астатніх пакоях было ціха. Побач з канапаю былі яшчэ адныя дзверы ў сумежны, амаль пусты пакой з гантэлямі, штангаю ды іншымі снадзівам, у якім кумпанія маіх новых знаёмых часам расслабаняла зацеклыя падчас нялёгкай «службы» цяглiцы і з якога таксама быў выхад у вітальню... Дзверы гэтыя былі застаўленыя толькі столікам на колках, пры каторым мы кагадзе «бяседавалі».

Я неяк адразу адчуў, што іншага зручнага для «рыўка» моманту ў мяне ўжо не будзе. Успомніўшы другі «зэкаўскі» запавет («не бойся») і прыслухваючыся да храпу А., ціхенька адсунуў столік ад дзвярэй... Дзверы таксама адчыніліся бяз лішняга скрыпення. Сцярожка падняўшыся з канапы, мякка выйшаў у сумежны пакой. Пастаяў там крыху. Пачуў, што з пакоя насупраць даносіцца храп ці то «пахана», ці то В. Выйшаў у вітальню, падышоў да дзвярэй, узяў у адну руку свае запхнёныя за шафу пантофлі, а другой павярнуў зашчэпку замка, так, як тое шмат разоў рабіў у сваіх думках. Расчыніў дзверы і ў адной кашулі ды шкарпэтках збег па сходах на двор. Пабег на ажыўленую вуліцу. За дзвесце крокаў ад месца майго зняволення, на трамвайным прыпынку, я пад здзіўленымі позіркамі людзей абуўся. Тут падаспеў і трамвай...

### *Эпілог*

Пра тое, як я выбраўся з зусім чужога мне горада, без грошай і пашпарта, хто і чым дапамог мне, — я распавядаць не буду. Зразумела і так, што «свет не без добрых людзей». Скажу толькі, што Расея цяпер настолькі небяспечная краіна, што калі табе раптам пашчасціць вырвацца з «татарскага» ці колечы-якога іншага палону, дык не варта звяртацца да мясцовай міліцыі, бо там могуць спачатку зрабіць выгляд, што

табе не верацьь, а потым «здаць» тым самым «бандытам», а не, дык і «замочаць» (заб'юць) проста ў пастарунку... Усе там «павязаныя». Так што, ратуючыся ў N колькі дзён ад бандытаў, я найперш рабіў усё, каб не патрапіць у цападлы мясцовых міліцыянтаў.

Прыемна было, аднак, першай пасля ўцёкаў (яшчэ халоднай) травеньскай ноччу сядзець на нейкім лецішчы, прыхінуўшыся, каб не было так зімна, спінай да бярвёнаў дамка пад азораным небам і слухаць жыццярадаснае крумканне жабаў у безыменным прытоку Кама-ракі. Слухаць і быць задаволеным, што, дзякуй Богу, нікога не «падставіў», што ўсё абышлося малою крывёю, што «плакалі грошыкі» маіх «дабрадзеяў», каторыя ўжо «раскаталі губу», што — самае галоўнае — захоўваўся як мужчына.

*2000*

## СПРОБЫ Ў НОВАЙ МІФАЛОГІІ

### *1. Апокрыф*

*Даўно гэта дзеялася. Чуў я ад старых людзей, а яны маніць не будуць. Значыць, праўда было.

*Хадзіў па Белай Русі Белабог. Ішлі з ім вучні ягоныя: Каляда, Чур, Бялун, Жыцень, Купала ды Ярыла ды іншыя. Было ж іх болей за сорак. Бачылі іх і ў Падняпроўі, і на Радуні, і на Палессі, і на Браслаўшчыне, і ў Белавежы. І прайшоўшы гэтыя ды іншыя землі, спыніліся над стромаю, дзе зліваюцца Палата з Дзвіною.

*І сказаў Каляда: Настаўнік! Паўсюль былі, Белую Русь шукаючы. Шмат люду тутэйшага пабачылі. І гаворка ў іх адна, ды не так вымаўляюць слова іншае. І песні спяваюць на адзін лад, ды розняцца песні іхныя. І ўборы ў іх аднолькавыя, белыя з чырванню, ды там носяць хусткі і вянкі, там — наміткі вышываныя, там — падвічкі з пукамі кветак, там — каптуры ды скіданачкі. Дзе ж, асвяці нас, сапраўдная Белая Русь?

*Белабог адказаў Калядзе і астатнім, бо спрачаліся, маўляў, там і там: Не там, не там і не яшчэ дзе. Шукайце Белую Русь у сэрцы сваім, бо хто шукае, знойдзе, хто стукаецца, таму адчыняць.

*Але вучні не даўнімалі слова гэтага, бо было закрытае ад іх праз слепату іхнюю. І, ведаючы, Белабог кажа да вучняў: Ці ж яшчэ не ўцямілі? Ці ж не разумееце?

*І пачаў гаварыць прыпавесцямі. І навучаў, кажучы: Быў у аднаго земяніна сад. Раслі там і яблыні, і грушы, і ягады ўсялякія. Цешыўся земянін, калі сад квітнеў, і калі збіраў багаты ўраджай, і калі каштаваў плады ад галінаў саду свайго. Дык ці аднаму кусту ўдзячны ён быў? Ці аднаму квітнеючаму дрэву цешыўся?

*І сказаў Бялун: Настаўнік, не дрэву аднаму — цэламу саду радавалася сэрца таго земяніна.

*Белабог, чуючы, што той разумее, кажа: А вось жа прыйшлі злыя суседзі ды выцерабілі той сад. Земянін, бачачы гэта, узяў рыдлёўку і пачаў высаджваць маладыя дрэўцы на месцы саду свайго. Гледзячы на цяжкую працу земяніна і смутак ягоны, нават ворагі злітаваліся. І сказалі: Навошта так ходаешся? Ідзі ў наш сад. Хопіць у ім і табе, бо наш сад лепшы. Ды адказаў ім, працуючы: Якая мне карысць, калі з вашага саду каштаваць буду, а свой ніколі ў квецені не ўбачу? Уратуюся ад голаду, а душу ці ўратую?

*І дзівіліся вучні з мудрых słоваў Белабога. А ён, прамовіўшы, сказаў: Зірніце наўкола — вось сад ваш!

*І вучні, агледзеўшыся, убачылі замест цёмнага бору, блакітнага неба ды сіняй ракі ўздыбленыя, падобныя да дальменаў, гмахі-хмарачосы і пачарнелыя коміны, што ўпіналіся ў неба і пыхкалі на іх атрутным курадымам. А па Дзвіне плылі смярдзючыя смаляныя плямы і мёртвыя рыбіны. І, убачыўшы, разважалі вучні ў роспачы міжсобку: Няўжо гэта Бацькаўшчына нашая?

*А ён, бачачы суменне іхняе, мовіў: Што ўбачыць хацелі? Ці не сад квітнеючы? Сапраўды, кажу вам, збрыдзяць ворагі зямлю наскую, і многія адракуцца ад Мяне. І выхваляцца бу-

дуць, што ніколі не было ні Белабога, ні Белай Русі. І будуць, быццам гэтыя коміны, грэбліва пыхкаць на вас, бо на самоце застаняцеся. Як парушынкі параскіданыя будзеце ў натоўпе сляпых, крывадушных і глухіх да слова Майго, у тлуме і галасе несуладным. Ды гора вам, калі засаромеецеся мовы роднай! Бо глухія ўспрагнуць пачуць слова Маё — і не пачуюць. Нямыя схочуць песні наскія спяваць — і не змогуць. Сапраўды, кажу вам, шмат хто з вас прыніжаны будзе і загіне, аднак той, хто захоча ўратавацца, загубіць сябе, а той, хто загубіць сябе, — уратуецца!

## *2. Апошняя казань Белабога*

*Якая псота! Які заняпад жыцця! Які безназоўны час! Валадарства суцэльнай запалоханасці і хлусні! Тут грэбуюць жывым і ў пашане толькі мерцвячына! Дык спявай, мой турыны рог! Склікай ратавальную Пагоню!

*Самотны парастак, ты прабіўся цераз панцыр асфальту поруч з незліччу ржавых прутоў, якія тырчаць з адломка бетоннай пліты. І яны пераконваюць цябе, што ты і яны ёсць адно тое самае! Кажу табе: нават мёртвы ты не будзеш такі, як яны, і ўсё, што патыхае на цябе сёння смуродам і пылам, нявартае і аднаго твайго атожылка, у якім спеліцца жыццё!

*Ад каго хаваецеся? Чаму перашэптваецеся сярод белага дня? Ці не пазналі? Вось жа прыйшоў да вас зноўку, і штандар непрыняцця бялее ў руцэ маёй, і абурэнне пунсавее на чыстым палотнішчы ягоным!

*Засталася вас жменька, сінявокіх дзяцей Белабога. Але і жменькі, пэўна, зашмат, бо — які сорам! — сварыцеся за сушэйшае месца на хісткім плыце, каторы вось-вось патоне ў цёмным віры Нівечы. Сварыцеся, заміж таго, каб згуртавацца ў адзіным намаганні ды выплынуць нарэшце да Краіны белых і жоўтых гарлачыкаў і прарасці там буйным калоссем і сінімі пырскамі валошак у збажыне іншых народаў!

*Калі адчуеш, што ты чужынец у валадарстве мёртвых? Калі зразумееш, што кожны адказ Чарнабога ёсць хлусня і ў цане тут толькі здольнасць замоўчвання? Калі ўцяміш,

што, сунучыся шляхам да Нівечы за ўяўнаю мэтаю, страчваеш адзінае патрэбнае табе? Калі жахнешся ад непамыснасці свайго жыцця? Калі?

*Кажу табе: у якім бы абліччы ні прыходзіў Чарнабог, яму падабаецца толькі адно — мерцвячына! Ён, што магіла, губіць цябе і смерцю тваёй насычаецца! Самыя высакародныя заклікі для Чарнабога — анучы, а ягоны нечалавечы розум — кіюга, спрэс утырканая воўчымі ікламі, якой ён хоча здратаваць усё жывое!

*Кажу табе: як Чарнабог змог мяне, так і я змагу Чарнабога! Сёння словы ягоныя — воўчыя іклы на кіюзе, а заўтра — парушынкі на дзьмухаўцы, якія расцярушацца пры першым жа павеве майго дыхання!

*Сын мой Пярун крышыў молатам косці Чарнабогу ды ягонай хіжай хеўры з крукоў і арлоў! Унук мой Дажджбог не аднаго разу гнаў залатымі стрэламі пярэверценя Сіціўрата ажно да самай Нівечы! Праўнук Ярыла хадзіў з рагацінаю на мядзведзя Карачуна! Асілак Юры зваяваў духа падземнага агню Жыжаля! Дзікае Паляванне не аднойчы ратавалася ўцёкамі ад мячоў суворых вершнікаў з шасціканцовымі крыжамі на шчытах!

*Як зараз бачу: размыты чорны пас на блакіце — след перадсмяротнага лёту вогненнага цмока; зыркі бляск першых промняў сонца на шаломе асілка Юрая; зружавелы, бы воблака, белы конь; распаленае, працятае дзідаю цела Жыжаля ў рацэ; хуркае параю ашчэраная цмокава пашча; на барвовай ад крыві і заранкі вадзе гойдаюцца цмокава луска і жоўтыя з белымі гарлачыкі.

*Кажу табе: быў час, калі Чарнабога не было на наскай зямлі! Дык мо надыдзе і такі, калі яго не будзе?

*Сытасць і бяспеку дае Чарнабог замест няпэўнасці і няўпэўненасці. А я даю непрыняцце і абурэнне! Кажу табе: хто ўратуецца ў валадарстве мёртвых, той патоне ў цёмнай, без вытоку і вусця, Нівечы, а той, хто загіне, зробіцца каласком у збажыне Краіны белых і жоўтых гарлачыкаў!

*Не бойся памерці — і Чарнабог не будзе мець улады над табою! Рабі, што хочаш, — і будзеш вольны!

*Якой бы прышлаю святлынню ні спакушаў цябе Чарнабог, памятай: кожны жыве тут адным днём і нікому не вядома, што будзе заўтра!

*Вунь на рагу вуліцы стаіць нізенькі дзядок з кульбаю ў руцэ і пустою кайстраю за плячыма. Суворы дзядок у мярцвяным святле ліхтара пагрозліва ківае праходным пальцам... Я апошні раз паслаў Жыценя, каб засцерагчы вас!

*Аднак не пытайся, загіне ці не валадарства мёртвых. Глядзі: сярод асця і валуноў вядуць мае сляды ў краіну, у якую ніхто не дайшоў, у краіну травы, па якой ніхто не ступаў, — у Краіну белых і жоўтых гарлачыкаў!

* Кожнае слова Чарнабога — абяцанка. Ды якою б прышлаю святлынню ні спакушаў цябе ён, памятай: усялякае слова ягонае ёсць хлусня і найбрыдшая хлусня найперш падобная да праўды!

*Толькі я ёсць першы і апошні! Я даю пачатак і раблю выснову! Я — тваё апірышча ў валадарстве мёртвых, якое распадаецца!

*Ты не першы працерабіў шлях да Нівечы, і не ты першы шукаеш выйсця да брамы Краіны белых і жоўтых гарлачыкаў. Але і тут, і там ты заўсёды як самы першы!

*Чарнабог вынішчае лепшых белабожычаў і кажа жменьцы ацалелых: не па вас суджу пра сённяшні дзень, а па сціжме, што пакорліва сунецца шляхам да Нівечы. А я кажу: абранцы нялёгкага лёсу, толькі вы — мой сённяшні і заўтрашні дзень!

*Калі праязджае на белым кані басаногі Ярыла з жытнёвымі каласкамі ў руцэ, я штораз дзівуюся, няўжо гэты ўсмешлівы юнак, такі рахманы і крохкі, змог магутнага мядзведзя Карачуна?!

*Якою б прышлаю святлынню ні спакушаў цябе Чарнабог, памятай: зямля наская і дагэтуль — непраглядная цемрадзь, першародная куламеса, і заўтрашні ейны дзень у здрадных вуснах Чарнабога — толькі іншая назва дню сённяшняму!

*Не вер і служкам Чарнабога, якія пад'юджваюць: маўляў, навошта табе гэты няўродны шматок зямлі, лапік на земскай кулі? Кажу табе: не шматок згубіш, а ўсю зямлю! Знойдзеш толькі пустэчу і няіснасць свету, ад якіх няма паратунку!

*Ды не май зайздрасці да лёгкасці і весялосці тых, каго вілаводныя чарнабожычы вядуць шляхам да Нівечы. Кажу табе: хто не ведае сваіх каранёў, той лягчэйшы за адорвенялістка, цягнёнага ветрам да хуткай згубы!

*Кажу табе: золкі вецер дзьме з захаду, а з усходу — яшчэ халаднейшы! Адзін толькі вецер майго дыхання растопіць тваю тугу!

*У часе роспачы я маланкаю выхопліваю са змроку: сонечны ранак, крокі на бруку, Вострая Брама, Пагоня!

*У часе роспачы не шукай спачування ў творцаў хлуслівага плачу па Радзіме. За частаклетам іхніх шкадаванняў ільсняцца сытыя пысы рамеснікаў і блазнаў. Чуеш, склікае іх памагаты Чарнабога Клікун? Вунь яны бегма бягуць да карыта, увачавідкі мяняючы выгляд: на іхніх тлустых карках вырастае шчэць, вушы большаюць і завастраюцца, твары выцягваюцца наперад і ператвараюцца ў лычы... Не адгукайся, калі Клікун назаве і тваё імя!

*Не падсольвай солі, кажу табе ў часе роспачы! Не падсалоджвай цукру, кажу табе ў часе надзеі!

*Абмінай у часе роспачы і тых, хто блукае ў забэрсаных лёхах падсвядомасці, схаваўшыся туды ад прасторы і часу. Што ім да твае веры, спадзяванняў, пакутаў? Яны вылегчаныя ад іх! Яны вылегчаныя ад сябе саміх! Такіх і Жыценю не вывесці да Краіны белых і жоўтых гарлачыкаў! І прызыўны голас турынага рога не даляціць да іхняга пераніцаванага слыху!

*Аднак і такім скажу: калі вам абрыднуць падробныя водары і штучныя аздобы? калі ўгледзіце, што час і прастора застаюцца пусткаю? што нічога не адбываецца? што маўчанне нанова разгортвае свой сувой? калі вы вернецеся да мяне?!

*Радуецца Чарнабог, калі ты страчваеш смак жыцця і тужыш па вясёлкавых іншасветах. Калі ты, з надзеяй на паслясмерце, плывеш у безнадзейнасць. Кажу табе: ты падобны да рыбіны, якой уроілася, нібыта ў паветры плысці лягчэй, чым у вадзе.

*Не датыкайся і мудрагелістых фаліянтаў тых, хто корміцца недаедкамі ад стала чарнабожычаў. Мудрошчы іхнія — ка-

рункі павуты, што аплятае выйсце да брамы Краіны белых і жоўтых гарлачыкаў!

*Чакае ценю ў цені той, хто спадзяецца на літасць Чарнабога!

*У Чарнабога мноства твараў, але сапраўднага ягонага аблічча не ведае ніхто. Ён можа быць у адначассе і там, і тут, і бачыць цябе наскрозь. На непакорлівых ён насылае густы атрутны зель, ад якога шмат хто вар'яцее. А калі ты не звар'яцееш, ён пэўна прышле да цябе ўладцу Невараці Карачуна, які кароціць жыццё. І цябе, магчыма, чакае нечаканая смерць у росквіце сілы. Ты павінен усё гэтае ведаць!

*Цяпер Чарнабог пасылае да непакорлівых прыстойнага і лагоднага з выгляду Карачуна. А калісь па іх прыходзіў Кадук, ні чалавек, ні звер, з вялікаю калматаю галавою, з шырачэзнаю зяпаю, у якой блішчэлі жоўтыя іклы і чырванеў, як агонь, язык. Прыходзіў гэты кудла найчасцей у самую глупась сярод ночы, аднак не лякаўся прыходзіць і на золку, і нават апоўдні пры сонечным бляску.

*Людажэр Кадук не мае сёння ўлады над табою. Ён нерухома сядзіць у сутарэннях Невараці. Зяпа ягоная аплеценая павутою, а ў капе валосся варушацца і піскаюць крылатыя нячысцікі, касны ды шашкі. Аднак калі я бачу, як Карачун пабацькоўску ўшчувае цябе, бачу агеньчыкі злосці на дне ягоных прымружаных вачэй, мне здаецца, што ён раптам скасавурыцца, пачырванее і прасіпіць: «Забяры яго, Кадук!»

*Кажу табе, самотнаму парастку, што прабіўся цераз панцыр асфальту: нават калі абцас Карачуна здратуе цябе, ты ўсё адно адродзішся ў новых і новых парастках, якія гэтаксама будуць шукаць выйсця да Краіны белых і жоўтых гарлачыкаў!

*Аднак і я не ўсёведны. І я ў роспачы стаю поплеч з табою перад брамаю Краіны белых і жоўтых гарлачыкаў, ключ ад якой згублены. Ды вось жа не аціхлі яшчэ крокі твайго вялікага папярэдніка Льва, які зачыніў браму, а ты ўжо шукаеш ключ да яе!

*Кажу табе: ты зернятка ў жмені зернятак, якія Жыцень рупіцца вынесці з валадарства мёртвых, каб засеяць першую пасля Патопу баразну!

*Вясёлка заззяе за кратамі дажджу. Вернецца з выраю пазалочаны сонцам бусел. На пагорку, размяклым ад Патопу, Жыцень засее першую баразну!

*Кажу табе: у краі, куды ніхто не дайшоў, у Краіне белых і жоўтых гарлачыкаў, вольны сярод вольных, ты будзеш смяяцца з усяго, што некалі балюча крыўдзіла!

# ЗМЕСТ

**Мінкін, А.**
М57 Мяне тут не было... : паэзія і проза / Алег Мінкін ; уклад. М. Скоблы. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 276 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 102).
ISBN 978-985-7180-71-4.

Творчасць Алега Мінкіна прагучала яшчэ ў 1980-я: яго першая кніга паэзіі «Сурма» сталася адной з найважнейшых з'яваў тагачаснай беларускай літаратуры, вярнуўшы ў лірыку класічнасць радка, прыгажосць і таямнічасць вобразнасці, тонкую эмоцыю, засяроджаную на метафізічным перажыванні.

Новая кніга віленскага беларуса Алега Мінкіна — збор найлепшых ягоных твораў у лірыцы, кароткай прозе і перакладах.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»
Выпуск 102

**Мінкін** Алег

# Мяне тут не было...

*Паэзія і проза*

Адказны за выпуск Г. Вінярскі
Рэдактары Б. Пятровіч, А. Пашкевіч
Дызайн вокладкі У. Вішнеўскага
Вёрстка Л. Гарадзецкай
Карэктура А. Спрытніч

Падпісана да друку 27.12.2017. Фармат 84×108 1/32.
Рызаграфія. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 14,28.
Ул.-выд. арк. 10,61. Наклад 300 ас. Зак. 41.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.